Усевалад Нястайка



# ТАРЗАДОРЫ з Васюкоўкі

Аповесць
аб прыгодах двух сяброў



Мінск
«Юнацтва»
1986

С(Укр)2
Н 99

Пераклад зроблены з выдання:

Нестайко В. З. Тореадори з Васюківки.— Київ: Веселка, 1973.— 415 с.

Пераклад з украінскай мовы

Валянціны КОЎТУН

Мастак

А. П. КСЯНЗОЎ

Нястайка Ус.

Н 99 Тарэадоры з Васюкоўкі: Аповесць аб прыгодах двух сяброў. [Для мал. шк. узросту/[Пер. з укр. мовы В. Коўтун; Маст. А. П. Ксянзоў].— Мн.: Юнацтва, 1986.— 255 с., іл.

Гэта аповесць пра двух цікаўных хлопчыкаў, з якімі ўвесь час здараюцца вясёлыя гісторыі. Аповесць украінскага пісьменніка «Тарэадоры з Васюкоўкі» занесена ў ганаровы спіс Г.-Х. Андэрсена.

Н $\frac{4803010200-020}{М 307(05)-86}$ 124—86

ББК 84УК7

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ,
## якую расказвае Паўлуша Заўгародны

***Незвычайныя прыгоды Рабінзона Кукурузы і яго вернага сябра і аднакласніка Паўлушы Заўгародняга ў школе, дома і на бязлюдным востраве паблізу вёскі Васюкоўка***

### РАЗДЗЕЛ I

**Метро пад хлявом. Тарэадоры з Васюкоўкі. Сабакевіч**

— От злыбеда, авантурыст смаркаты! Ванька-а! Вылазь зараз жа! Бо такога дам кухталя — тыдзень будзеш чухацца! Вылазь, чуеш!

Мы ляжым у густым бур'яне за клуняй, уткнуўшыся ў зямлю насамі, і не дыхаем.

— Вылазь, антыхрыст, бо горш будзе! Ты ж мяне знаеш!

— Знаю, знаю,— ледзь чутна ўздыхае мой сябар і нарэшце асмельваецца падаць голас.

— Дзеду,— жаласна адклікаецца ён.

— Давай-давай!

— Дзеду,— яшчэ жаласлівей паўтарае мой сябар,— вы адыдзіцеся за хату, мы вылезем. Бо ж будзеце біцца.

— Яны мне яшчэ ўмовы ставяць, падшыванцы! Ану, вылазьце!

— Ды мы ж не хацелі. Мы ж хацелі метро. Такое, як у Кіеве.

— Я вам дам мятра! Я вам такога мятра дам, што...

— Мы ж не ведалі. Мы зараз усё закідаем — нічога й відна не будзе. Адыдзіцеся, дзеду.

Доўга яшчэ ідуць перагаворы. Нарэшце дзед у апошні раз вылаяўся, закашляўся, плюнуў і пасунуўся за хату.

Мы вылазім з бур'яну.

Каля хлява нас сустракае гугнявым рохканнем пяціпудовая свіння Манюня, брыдкая і плямістая, як геаграфічная карта.

— У-у, скаціна! Каб ты...

Гэта праз яе мы ўскочылі ў нерат. У нас была цудоўная, высакародная ідэя — правесці пад свінарнікам метро. Гэта павінна было стаць сюрпрызам. Першая лінія метро ў Васюкоўцы! Станцыя «Клуня» — станцыя «Крывая груша». Тры капейкі ў адзін канец. Сваякі — бясплатна. З настаўніцы арыфметыкі — пяць капеек.

Мы ўжо дакапаліся амаль што да палавіны

свінарніка, і раптам — непрадбачаная катастрофа — праклятая свіння Манюня правалілася ў наша метро.

Правалíцца яна змагла, а вось вылезці — дзуські! І падняла такі лямант, што прычоўгаў дзед. Ну і...

Горка ўздыхаючы, мы засыпаем метро. Раз-пораз зладзейкавата азіраемся — ці не застане нас знянацку дзед, каб накруціць вушы. Хаця ён і абяцаў не чапаць, пакуль не закончым, але хто яго ведае... Вы б пачулі, як ён лаяўся, калі выцягваў свінню. Ох і лаяўся! І дзе ён толькі такіх слоў набраўся!

Аднак дзеда не відаць. І пакуль мы працуем (а справа ідзе марудна і доўга), я пазнаёмлю вас з маім сябрам.

Вы, канечне, ведаеце, што ёсць такі востраў — Ява. У Індыйскім акіяне. І тое, што Ява, Суматра, Барнео, Цэлебес — Вялікія Зондскія астравы.

Ну, дык Ява — гэта не востраў. Ява — гэта мой найлепшы таварыш і напарнік. Ява Рэнь.

Мабыць, вас здзівіла, што ж гэта за імя такое — Ява? Гэта ён сам сябе так назваў, калі яму было толькі паўтара года. Ці гэта яно, пісклянё малое, хацела сказаць: «Я — Ваня», а выйшла «Ява», ці гэта «Іван» так прагучала (бо на самой справе яго завуць Іванам), але прычапілася тое «Ява» да яго, як ваўчок да

сабачага хваста. Нават міліцыянер таварыш Валігура, які жыве ў нашай вёсцы, так яго заве.

У іх наогул уся сям'я цікавая.

Бацька на скрыпцы іграе. Карова — Кантрыбуцыяй завецца. А дзед (вы ўжо з ім пазнаёміліся) — заўзяты паляўнічы, на паляванні, калі страляе, левае вока анучкай завязвае. Бо ў яго левае вока без правага не прыжмурваецца. Як левае прыжмурыць — дык і правае заплюшчваецца. Але б'е дзед Варава з той анучкай на воку, ох як цаляе!

Гарадскія паляўнічыя, якія на «Волгах» з Кіева прыязджаюць, толькі ахаюць.

«Вы, дзядуля, абсалютны чэмпіён»,— кажуць.

У гонар старога Рэня нават возера каля нашай вёскі людзі Рэневым назвалі.

А маці Явы — дэпутат райсавета, звеннявая кукурузаводаў.

Неяк Ява пасварыўся з Ярынкай, меншай сястрычкай, і пры ўсіх плескачоў ёй надаваў. Дык яна, замест таго каб заплакаць, раптам як закрычыць:

— Апазогыў! — Яна літару «р» не вымаўляе.— Маму-дэпутата на ўсю вёску апозогыў! Загаза чогтавая!

Такога гвалту нарабіла — Ява не ведаў, куды й вочы падзець. Стаяў чырвоны як рак, а

потым як даў лататы — толькі пяткі замільгалі.

Але такое толькі раз было. А наогул, характар у Явы ого-го! Сталь, а не характар. Такі сярод мільёна толькі адзін і знойдзецца.

Ява сам гаварыў:

— Мы з табой, Паўлуша, хлопцы будзь здароў. Точна-точна, без хлусні, мы хлопцы з фантазіяй. Скажы?

— З фантазіяй,— падтакваў я.

— Ты чуў, як дзед Салівон учора каля сельмага казаў: «Вунь, кажа, Ява і Паўлуша пайшлі. Вось хлопцы! Арлы! Сокалы! Гангстэры, а не хлопцы! Няма на іх пугі!»

— Чуў. Точна.

— Трэба, каб усе так пра нас казалі. Трэба, каб слава пра нас грымела на ўсю Васюкоўку, як радыё на Першае мая.

— Трэба,— згаджаўся я.

І Ява ўвесь час прыдумляў розныя штукі дзеля нашай славы.

Неяк мы з ім злавілі ў лесе савяня і выпусцілі ў клубе пад час лекцыі на тэму: «Выхаванне дзяцей у сям'і». Лектар зваліўся з трыбуны і выліў сабе на галаву графін з вадою.

А старыя дзедавы споднікі на тэлевізійную антэну над клубам, думаеце, хто павесіў? Мы, вядома.

А вось неяк улетку Ява сказаў:

— Давай арганізуем бой быкоў!

— Га? — не адразу змікіціў я.

— Ты помніш, як мы ў клубе замежнае кіно бачылі — «Тарэадор»?

— Ага... Ну дык што?

— Памятаеш, на арэне раз'ятраны бык, а тут дзядзька ў капелюшы і з кінжалам перад ім танцуе.

— Так-так-так...

— А потым — рраз! Бык — брык! I воплескі.

— Ага. Здарава... Але ж гэта забіваць патрэбна. Хто ж нам дазволіць забіваць жывёліну?

— Цьфу, дурны! Забіваць! Гэта табе што — мясанарыхтоўка, ці што. Гэта ж відовішча. На стадыёне. Як на футболе. Галоўнае — прыгожа махаць чырвоным плашчом і спрытна выкручвацца, каб рогам не зачапіла. Ты ж бачыў. Тарэадоры — гэта самыя смелыя героі і спрытнюгі. Галоўнае тут — трэніроўка і спрыт. Разумееш? Упершыню ў гісторыі Васюкоўкі — бой быкоў. Тарэадор Іван Рэнь і тарэадор Павел Заўгародны. Госці з'язджаюцца з усёй краіны. Трансляцыя па радыё і тэлебачанні. Нават у Жмерынцы будзе відаць.

Я ўсміхнуўся. Гэта здорава! Па радыё, па тэлебачанні і наогул...

Мы прымасціліся зручней і пачалі абмяр-

коўваць падрабязнасці. Перш-наперш — бык. Кандыдатура калгаснага бугая Пецькі была адхілена адразу. Гэта такая страхалюдзіна, што яго нават сам заатэхнік Іван Свірыдавіч баіцца. Вочы, як трактарныя фары. Зямлю грабе нагамі, як экскаватар.

Гэтым летам адзін дачнік ледзь не памёр з перапуду. Ляжаў на выгане голы-голенечкі — загараў. Галава пад парасончыкам, усё астатняе на сонцы. І раптам — Пецька. Дачнік як ірвануў. Бугай следам. Дачнік тоўсты. Бачыць — не ўцячэ. А тут тэлеграфны слуп на дарозе. Як той дачнік на той слуп уздзёрся — дагэтуль невядома. Але факт — паўдня загараў на ізалятарах, аж пакуль не пад'ехаў камбайнер Мікіта і не зняў яго. Дачнік штаны нацягнуў і адразу на станцыю — дахаты ехаць.

Не, няхай з бугаём Пецькам нашы ворагі б'юцца.

Другой кандыдатурай быў стары казёл. Гэта я яго кандыдатуру вылучыў, каб адпомсціць. Дужа ненавісным быў для мяне казёл, бо з'еў маю сарочку, калі я купаўся.

Але Ява мяне не падтрымаў.

— Не,— сказаў ён.— Казёл залішне балбатлівы. Увесь час мекекеча. Мы і воплескаў не пачуем. Мы ж гаворым пра бой быкоў, а не казлоў. Трэба, каб было нешта бычынае, каровінае нешта — вялікае і крутарогае.

— Каровінае? — кажу.— Слухай, дык, можа, узяць проста карову? Бо, акрамя Пецькі, сапраўдных быкоў у нас няма, а кароў колькі хочаш. І наогул, нідзе не гаворана, што абавязкова патрэбны бык.

Ява задумаўся.

— Хто яго ведае, можа, і так.

— Тады,— кажу,— лепшай кандыдатуры за вашу Кантрыбуцыю і не прыдумаеш.

— А чаму Кантрыбуцыя? Чаму не ваша Манька?

— Таму, што ў нашай Манькі цялё і адзін рог зламаны. Ты хочаш, каб з нас смяяліся? Тарэадоры з аднарогай кароваю! Карыкатура. Такога яшчэ ніколі ў свеце не было.

— Можна, вядома, і Кантрыбуцыю. Але яна трохі псіхічная.

— Што значыць «псіхічная»? Прызнайся лепей, што ты проста мамы баішся.

— Я — баюся? Вось зараз як дам табе ў вуха, то пабачыш, як баюся. Ану, забяры свае словы назад!

— Я забіраю, але ты ўсё роўна баішся.

— Баюся?

— Баішся...

— Баюся?

— Баішся...

Я ўхапіў яго за вуха і ў той жа момант цюкнуў кулаком у жывот. Мы пакаціліся па

траве на дарогу. Усё бруднае, што валялася на дарозе, начаплялася да нашых штаноў і сарочак.

Першы апамятаўся я.

— Пачакай,— кажу,— годзе! А то замест бою быкоў у нас выйшаў бой цельпукоў.

— Гэта ты вінаваты. Ну, добра, няхай Кантрыбуцыя. Заўтра пагонім пасвіць і паспрабуем. А то твая Манька і сапраўды для тэлевізара не падыходзіць. Яшчэ людзі падумаюць, што гэта не карова, а сабака.

Мне ўжо надакучыла біцца, і я зрабіў выгляд, нібы не зразумеў, як страшна ён абразіў нашу Маньку.

Назаўтра раніцай мы сустрэліся па дарозе на выган. Я гнаў Маньку, Ява—Кантрыбуцыю. Каровы валакліся, легкадумна матляючы хвастамі, і не падазравалі, які сёння гістарычны дзень.

На галаве ў Явы быў дамскі капялюшык, што застаўся нам у спадчыну ад нейкай дачніцы, якая адпачывала ў нас пазалетась. Капялюшык быў завялікім для Явы і насоўваўся на вочы. Каб хоць што-небудзь бачыць і не ўпасці, Ява вымушаны быў увесь час падкідаць галавой, папраўляючы яго. Здавалася, што Ява некаму кланяецца.

У мяне пад пахай быў кілімок. О, гэта быў знакаміты кілімок. Ён вісеў над маім ложкам.

Кілімок быў чырвоны, і на ім было вышыта трое смешных шчанючкоў, якія сядзелі, прытуліўшыся адзін да аднаго галовамі. Гэта былі Цюця, Гава і Рэва, пра якіх мне калісьці маці расказвала розныя байкі, аж пакуль я не засынаў. Апошнія два гады, калі я падрос ужо, кілімок ляжаў у скрыні, і цяпер ад Цюці, Гавы і Рэвы дужа патыхала нафталінам.

Кілімок і капялюшык — гэта быў наш тарэадорскі рэманент. Па дарозе мы яшчэ выразалі з ляшчыны дзве цудоўныя шпагі. Былі ў поўнай баявой гатоўнасці.

Мы ішлі і спявалі арыю Хазэ з оперы Бізэ «Кармэн», якую шмат разоў чулі па радыё:

> Торе-гадор, смеле-ге-е в бой,
> торе-гадор, торе-гадор...
> Там ждет тебя-га любовь,
> там ждет тебя-га-га любовь.

Мы спявалі і не ведалі, што нас чакае. Неба было сіняе-сіняе — сапраўднае іспанскае неба.

Надвор'е — самае адпаведнае для бою быкоў.

Мы пагналі кароў аж на самы край выгану, туды, дзе ставок — падалей ад людскога вока.

— Адгані сваю Маньку ўбок, каб не перашкаджала,— сказаў Ява,— і давай пачынаць.

Я не стаў пярэчыць. Тым больш што Манька ў нас дужа нервовая, ёй лепш не бачыць бою быкоў.

Ява паправіў на галаве капялюшык, падцягнуў нагавіцы і, падтанцоўваючы, стаў набліжацца да Кантрыбуцыі. Падышоў да саменькай морды і пачаў махаць кілімком перад вачамі. Я затаіў дыханне — зараз пачнецца...

Ява замахаў кілімком яшчэ мацней.

Кантрыбуцыя — анігадкі!

Спакайнюсенька шчыпле сабе траву.

Ява мазнуў яе кілімком па храпе. Кантрыбуцыя толькі адвярнулася.

Ява разнерравана піскнуў і з усіх сіл хлёснуў карову кілімком. Кантрыбуцыя, лянiва пераступаючы нагамі, павярнулася да Явы хвастом.

Ява зноў забег наперад і пачаў вытанцоўваць...

Праз паўгадзіны ён сказаў.

— Яна да мяне проста прывыкла, яна мяне любіць і таму не хоча... Ану, давай ты!

Праз гадзіну, захекаўшыся, я сказаў:

— Палена нейкае, а не карова. Шкада, што ў Манькі адбіты рог, а то я паказаў бы, што такое сапраўдная тарэадорская карова.

Ява зноў замяніў мяне. Ён штораз мяняў тактыку: то падыходзіў да каровы паціхеньку і неспадзеўкі біў кілімком, то падскокваў з разгону, то налятаў збоку. Кантрыбуцыя не прымала бою. Чубы ў нас узмакрэлі, кілімок

адчайна матляўся ў руках — здавалася, што Цюця, Гава і Рэва вось-вось загаўкаюць.

А Кантрыбуцыя — хоць бы што, не звяртала на нас аніякенькай увагі.

Адзін раз, калі Ява схапіў Кантрыбуцыю за вуха, яна з дакорам глянула на яго сваімі сумнымі вачамі і сказала:

— Му-у!

У перакладзе з каровінага гэта, мабыць, азначала: «Ідзіце, хлопцы, адсюль. Не чапайце мяне».

Але мы ўчасна не зразумелі папярэджання.

Хэкаючы, мы скакалі навокал яе, выклікаючы на двайны бой. Ява саромеўся за сваю Кантрыбуцыю — я гэта бачыў. Нарэшце, раззлаваны дарэшты, Ява крыкнуў:

— Ану, удар яе, Паўлуша, добра! Што — баішся?.. Ну, дык я сам!

Ён размахнуўся і ткнуў Кантрыбуцыю нагою па губе.

І раптам... Раптам я ўбачыў Яву дзесьці высока ў небе. І адтуль, з неба, пачуў яго адчайны лямант:

— Вва-вай!

Ён пачаў бегчы, па-мойму, яшчэ ў небе. Бо калі яго ногі дакрануліся да зямлі, то ён ужо штосілы імчаў да стаўка. Я рвануўся за ім. Гэта быў наш адзіны паратунак. Мы з разгону

ўляцелі ў ставок, уздымаючы цэлыя гейзеры вады і гразюкі. Спыніліся ажно на сярэдзіне. Тое, куды мы ўляцелі, па праўдзе кажучы, стаўком можна было назваць толькі ўмоўна. Калісьці сапраўды тут быў вялізны ставок-копанка. Але ён даўно ўжо перасох, абмялеў і ператварыўся ў звычайную сажалку. На самым глыбокім месцы нам было па шыю. Менавіта тут мы зараз і стаялі, адсопваючыся.

Кантрыбуцыя бегала вакол канавы і мукала ў наш адрас свае каровіныя праклёны. У сажалку лезці яна не хацела. Гэта была гідлівая, акуратная карова.

Мы стаялі і маўчалі.

Дно сажалкі было гразкае, мулкае. Мы па саменькі пуп стаялі ў слізкай твані.

А вышэй, да самай шыі, была вада — каламутная і смярдзючая. Сапраўдныя памыі. Доўга мы тады прастаялі з Явам у тых памыях. Паўгадзіны, не меней. Аж пакуль Кантрыбуцыя не супакоілася і не адышлася. Яна была яшчэ вельмі гуманная і высакародная, карова гэтая — Кантрыбуцыя. Бо яна падкінула тарэадора Яву не рагамі, проста мордай. І калі мы нарэшце вылезлі з сажалкі, няшчасныя і завэдзганыя, як парсюкі (не мы, а сам бруд), яна і словам не напомніла нам пра нашы нядаўнія адносіны. Мы засталіся сябрамі. Ява пасля ўсяго не толькі ніколі больш не біў яе,

але заўсёды частаваў цукеркамі, якія давала яму маці.

І цяпер, калі мы, журботна ўздыхаючы, засыпаем наша няўдалае метро, Кантрыбуцыя выглядвае з кароўніка і спачувальна пазірае на нас. Дарагая Кантрыбуцыя! Якое ў цябе вялікае і пяшчотнае сэрца. Ты адзіная разумееш і шкадуеш нас. Дзякуй табе, карова!

— Яшчэ не закончылі, антыхрысты! — так неспадзявана грымнуў ззаду дзед Варава, аж мы папрысядалі. Мы страцілі пільнасць, не заўважаючы, што ж у нас за спіной робіцца. Папаліся-такі.

Наперадзе сцяна свінарніка, з бакоў — густы бур'ян, ззаду дзед Варава. Уцякаць няма куды. Так і здранцвелі мы, прысеўшы, як кураняты перад каршуком.

— Не бойся, не крану!

Гэтыя словы нібыта паднялі нас, разагнулі нам ногі. І як быццам хтосьці веласіпеднай помпай качнуў — так мы ўздыхнулі! І дрыготкія нашы вусны самі па сабе расцягнуліся ў агідную ліслівую ўсмешку. Але дзед на нашу ўсмешку не паддаўся. Не любіў дзед такіх усмешак. Суровы быў дзед Варава.

Яго твар быў шэры і плямісты, як залеташняе лісце. Вусны тонкія і моцна стуленыя, быццам у роце вада. Вочы без павек, круглыя і нерухомыя, як у пеўня. Здавалася, што дзед

заўсёды нечым здзіўлены. Але так толькі здавалася. Мабыць, не было ўжо на свеце нічога, што магло б здзівіць дзеда Вараву. Яму пайшоў восемдзесят трэці.

— Канчайце, гаўрыкі, і ідзіце рыхтаваць урокі, дыктант на носе.

Мы скрывіліся. Мы гэта ведалі. І хто прыдумаў гэтыя дыктанты? Ды яшчэ вясною, калі ў паветры пахне футболам і цуркамі-палкамі, калі птушкі лямантуюць, як гандляркі на рынку, і калі так сонечна і цёпла, што мы з Явам ужо тройчы купаліся.

— Усё, здаецца. Так, як і было. Праўда ж?— нясмела пытае Ява, прытоптваючы нагамі свежую зямлю.

Дзед скоса пазірае на нашу работу — відаць, што ён не вельмі задаволены. Але кажа:

— Ідзіце, ідзіце ўжо. Але ведайце, яшчэ раз што-небудзь падобнае — вушы паабрываю і свінням выкіну.

Бокам, спінамі да бур'яноў, мы праходзім каля дзеда і, абмінуўшы яго, штосілы бяжым. Уцякаем.

І якраз учасна: яшчэ імгненне — і дзедава рука з размаху прыляпілася б да маіх нагавіц...

Я жыву па суседству з Явам. І праз хвіліну мы ўжо аддыхваемся ў нашым садку.

Мы сядзім у бульбе пад вішняю. Сядзім і бядуем, што такая прыкрая няўдача напатка-

ла нас з тым «метро». Але доўга сумаваць мы не ўмеем.

— Слухай,— раптам кажа Ява,— а давай зробім... падводную лодку.

— Давай, — не задумваючыся, кажу я. І толькі пасля таго пытаю: — А з чаго?

— Са старой пласкадонкі. Той, што каля вярбы...

— А як?

— Ваду вычарпаць, дзіркі пазатыкаць, прасмаліць, верх забіць дошкамі. Вось тут перыскоп. Вось тут люк. На днішча баласт.

— А рухавік?

— На вёслах будзе. Нам жа не трэба, каб дужа ходкая. Абы падводная.

— А дыхаць?

— Праз перыскоп.

— А на паверхню як выплываць?

— Баласт выкінем і выплывем.

— А як вадой залье і затопіць?

— Ты што, плаваць не ўмееш? Вось яшчэ! «Як? Як?» Дулю з макам з табою зробіш!

— Сам ты дуля з макам! Які разумны!

— Ды ну цябе,— сказаў Ява ўжо прымірэнча. А я і зусім нічога не адказаў — не хацелася сёння сварыцца.

Мы выйшлі з саду і скіраваліся да старога калодзежа з жураўлём, з якога ўжо даўно і ваду не бралі — так затваніўся. Я перахіліўся

і гучна крыкнуў у задушлівую і прапахлую цвіллю і балотам цемрадзь: «Го!» Я люблю гокаць у калодзеж: такое «го» атрымліваецца — аж у вушах ляскаціць. Такое «го» толькі ў калодзежы і пачуеш. Любата, а не «го».

Вось — і зараз...

— Го!

— Го!

— Го!

Толькі адгалоскі пайшлі — няйначай аж да цэнтра зямлі.

І раптам у гэтыя адгалоскі ўплялося жаласнае тонкае скавытанне. Я натапырыў вушы.

— Ява! — кажу.— Там хтосьці ёсць.

— Мані!

— Ану, гокні і паслухай.

Ява перагнуўся і гокнуў. Мы прыслухаліся. І выразна пачулі з глыбіні плаксівае шчанячае скуголенне.

Мы пераглянуліся.

— Нейкая недарэка ўкінула туды цюціка,— сказаў Ява.

— Точна,— сказаў я.

— Ну дык што? — сказаў Ява.

— Трэба выцягваць,— сказаў я. Хаця мог гэтага і не гаварыць. Бо ён такім тонам запытаў, што гэта ўжо быў і адказ.

— Значыць, так,— сказаў Ява.— Я сядаю ў цэбрык і спускаюся. А ты мяне трымаеш.

— За што? Хіба я цябе так утрымаю?

— Ты і сапраўды слабак. Не ўтрымаеш.

— Дык, значыць, я спускаюся, а ты мяне будзеш трымаць, калі ты такі дужы.

— Не, спускацца буду я. Я першы сказаў... І... і ў цябе была тыдзень назад ангіна. Табе нельга ў калодзеж. І наогул, у цябе насаглотка... Мы, ведаеш што, — вяроўку прывяжам вунь да таго бруска — вагі. І ты будзеш цягнуць. Вельмі зручна.

— А дзе ўзяць вяроўку?

— А вось шворка.

— Дык на ёй жа каза. Разам з казою прывяжам, ці што?

— Каза так пагуляе, нідзе не дзенецца.

— Ну што ж, давай!

— Мме-е-е! — радасна праспявала адвязаная каза і адразу пабегла ў шкоду. Але нам не было часу яе выхоўваць.

Ява сеў у цэбрык, я ўзяўся за шворку, прывязаную да бруска на кароткім плячы жураўля.

— Папускай! Папускай паціху,— загадаў Ява.

Аперацыя пачалася.

Спуск прайшоў нармальна, і праз нейкія паўхвіліны пачулася глухое, як в бочкі, Явава: «Стоп! Харош!»

Я кінуўся да калодзежа:

— Галльоу! Крыніцанаўт Ява! Як сябе адчуваеце?

— Выдатна! Пульс нармальны. Бязважкасці няма. Ціск трыста атмасфер. Прыняў на борт пацярпеўшага таварыша Сабакевіча. Ой-йой-ой! Ты чаму адпусціў? Тут вельмі гразка! Засмоктвае! Цягні хутчэй!

Я войкнуў. Учапіўся абедзвюма рукамі за шворку і пачаў цягнуць.

Ого-го! Ох! Эх! Ух! Ну й цяжка! Цягну, аж прысядаю. З усіх сваіх сіл, усёй вагою цела цягну шворку ўніз. І раптам адчуваю, што ногі адрываюцца ад зямлі. Ой, горачка! Гэта ж я зараз падымуся і буду вісець над зямлёю, як жаба на кручку, толькі нагамі буду дрыгаць.

Пераважылі мяне Ява са шчанючком. Ой-йой-ой!

— Ява! — крычу ў адчаі.— Ява! Памагай, бо я ў неба лячу!

Зразумеў, пэўна, Ява сітуацыю, паслухаўся, бо пяты мае зноў дакрануліся да зямлі. А тут я нагою зачапіўся за корань, што якраз каля мяне вытыркнуўся з зямлі. Закрактаў я ад напружання — вось-вось жылы, як струны, палопаюцца — і з калодзежа, як бурбалка, павольна паказалася галава Явы.

Першым на зямлю ступіў «таварыш Сабакевіч» — кудлатае, аблавухае, рудое шчаня, а потым ужо Ява.

Я адразу заўважыў, што шчаня не з нашых двароў. У нас мы ўсіх сабак ведалі — ад здаравеннага Грыўкі, што ў дзеда Салівона, да пазаўчора народжаных, сляпых яшчэ шчанят Жучкі бабы Маланні.

— Хацеў бы я ведаць, хто яго туды кінуў,— сярдзіта прахрыпеў Ява.— Ногі павырываў бы.

Шчаня, схіліўшы набок галаву, глянула спачатку на Яву, потым на мяне і заматляла хвосцікам, напэўна, дзякуючы за паратунак. Знаёмства адбылося. Мы адразу спадабаліся адзін аднаму.

— Гайда на рэчку! — сказаў Ява.— Трэба памыць Сабакевіча — глянь які!

У тым, што ён Сабакевіч, а не Шарык, Палкан альбо Жучка, не было сумнення. Мянушка, жартаўліва прыдуманая Явам у смярдзючай цемры калодзежа, прыліпла да шчанюка адразу і назаўсёды.

Мы пабеглі да рэчкі.

Падводная лодка з пласкадонкі навечна патанула ў забыцці.

## РАЗДЗЕЛ II

### «Вермахт!.. Дваццаць жалезных!..»

— Рэнь і Заўгародны! Выйдзіце з класа! Хутка вы карову на ўрок прыведзяце. Пару-

шальнікі дысцыпліны. Зрываеце мне навучальны працэс! — Галіна Сідараўна ажно кіпела.

Мы пакорліва папляліся за дзверы.

У калідоры Ява расшпіліў сарочку, нагнуўся, і Сабакевіч выскачыў на падлогу і заматляў хвастом, нібыта нічога не здарылася.

— Вось яшчэ! — дакорліва сказаў яму Ява.— Не мог памаўчаць. Не ў цябе ж пыталі, а ў Паўлушы. Чаго выскачыў?

Сабакевіч вінавата схіліў галаву набок. Мабыць, ён зразумеў, што падвёў нас.

Галіна Сідараўна выклікае мяне адказваць урок. Я падняўся, успамінаючы, ведаю я яго ці не. І па старой звычцы штурхнуў Яву — падказвай, маўляў! І тут Сабакевіч, што сядзеў у Явы за пазухай, высунуў праз расшпілены каўнер галаву і на ўвесь клас: «Гаў!» У класе — рогат. І Галіна Сідараўна, вядома, абурылася. Яна вельмі строгая, Галіна Сідараўна, і вельмі любіць нас выхоўваць.

— Нічога, перажывём,— сказаў Ява.— Не маглі ж мы яго пакінуць на волю лёсу. Каб яго зноў хто-небудзь укінуў у калодзеж.

Ужо выходзячы на вуліцу, я заўважыў на табурэтцы каля дзвярэй школьны званок. Бабы Марусі, якая загадвала званком, калоцячы ім ад урока да ўрока, не было відаць. Рашэнне ўзнікла маланкава. Я зладзейкавата азірнуў-

ся — цап! — і званок ужо ў мяне пад сарочкай.

— Хай вучацца, калі такія разумныя! — падміргнуў Яве.—Не патрэбны ім перапынак. Абыдуцца.

— Малайчынка! — пахваліў мяне Ява. Нібыта хтосьці кухаль цёплага малака выліў за пазуху — радасць цяплом разлілася ў грудзях: не часта мяне Ява хваліць.

Мы — шух-шух — і ў кусты за школай. У саменькі гушчар зашыліся, ажно пад сцяну хлява. Цёмна тут, зацішна — надзейнае месца.

— Хай цяпер знойдуць! Вось паніка будзе! Не закончацца сягоння ўрокі. Да заўтрашняга дня будуць вучыцце. Хі-хі! Без званка яны, як без рук. У навучальным працэсе званок — галоўная рэч,— сказаў я, выцягваючы яго з-пад сарочкі.

— Гэта ты шыкоўна прыдумаў. Малайчынка! — прамовіў Ява і ўзяў з маіх рук званок (я адчуваў, што яму было не па сабе ад таго, што гэта не ён прыдумаў,— а ён прывык усё прыдумляць сам).

— О! Ведаеш што! — падскочыў ён раптам.— Мы яго Сабакевічу на шыю прывяжам. Га?

— Здарава! — сказаў я. Хаця і не змікіціў, для чаго гэта патрэбна.

Але я быў бы сапраўдным парсюком, калі б не сказаў, што гэта здорава (ён жа мяне хваліў).

— У цябе няма матузка якога? — запытаў Ява.

Я кінуўся ў кішэні.

— Няма.

— От чорт! І ў мяне няма. Слухай, а давай папружку.

— Вось яшчэ... А штаны?

— Гэта ж не назусім. Рукой патрымаеш. Калі б у мяне былі на папружцы, а не на шлейцы, хіба я...

А так як я быў сёння «малайчынка», то адмаўляцца проста не меў права.

Уздыхнуўшы, я зняў папружку, і Ява пачаў спрытна прывязваць званок Сабакевічу на шыю.

— Здорава! Вось здорава мы прыдумалі!— паўтараў ён.

І раптам... І раптам за сцяною хлява мы пачулі такое, што ўмомант прымусіла нас забыць пра званок, пра Сабакевіча, пра ўсё на свеце. Хлеў гэты ўжо не быў школьны. Проста задняй сцяной ён выходзіў у школьны сад. Хлеў належаў дзядзьку Бурмілу, заўзятаму рыбаку, які жыў бабылём і амаль што ўвесь час прападаў на рыбалцы.

Мы ажно ўліплі ў сцяну хлява, прыціскаю-

чыся вушамі да каструбаватых, негабляваных дошак. Размову вялі Бурміла і Кныш, калгасны шафёр, які жыў па суседству з Явам.

Вось што мы пачулі (да нас далятаді толькі ўрыўкі размовы):

Бурміла: Яно, канечне, так... Але...

Кныш: Затое ж падаруначак ад немцаў будзеш мець во які! На дзесяць гадоў хопіць...

Бурміла: Гы-гы!

Кныш: ...Вермахт шчодры...

Бурміла: Чаму ж, вядома...

Кныш: Павінна быць дваццаць жалезных... Дакладна... А якасць... Бранябойная... Р-раз — і няма! Будзьма!

Чуваць дзынькание шклянак — мабыць, Кныш з Бурмілам выпіваюць.

Кныш: Купім у Кіеве што трэба — і за справу!

Бурміла: Сам не можаш?

Кныш: Калі б у мяне быў час і калі б я плаваў так, як ты, я наогул без цябе абышоўся б.

Бурміла нешта прамармытаў, але мы не разабралі ані слоўка.

Кныш *(разнервавана):* А... Крыж-накрыж! Трэба лавіць момант, а ты! Гэта ж такая ўдача, што мяне пасылаюць з гэтай школьнай экскурсіяй...

Бурміла: Ну, добра! Завербаваў.

Кныш: Толькі ж нікому ні-ні. Ніводнай жывой душы. Бо як дазнаюцца...

Бурміла: Каб я скрозь зямлю праваліўся! Што я — маленькі! Гэта ж такая справа...

Кныш: Ну, дык да заўтра!

І ўсё. Запанавала цішыня. Напэўна, Кныш і Бурміла выйшлі з хлява.

Мы пераглянуліся.

Не ведаю, якія былі ў мяне вочы. Але вочы ў Явы гарэлі і свяціліся, як у харта-сабакі. А што? Хацеў бы я паглядзець на вашы вочы, калі б вы пачулі такую размову.

— Га?! — разявіў я рот.

— Га?! — разявіў рот Ява.

Але мы больш не паспелі сказаць ні слова. Бо ў гэты момант пачуўся знаёмы залівісты голас школьнага званка. Мы так і скамянелі з адкрытымі ратамі. Захопленыя таямнічай размовай, мы зусім не заўважылі, што Сабакевіч некуды знік. І вось... На карачках, па-сабачы, мы хутка пашкрэбліся праз гушчар і высунулі з кустоў галовы.

Пад вокнамі школы, ганяючыся за куркай, гойсаў Сабакевіч. Матляючыся на яго шыі, весела заліваўся званок.

Мяркуючы, што гэта перапынак, з класаў гарохам пасыпалася дзятва. З вокнаў, здзіўлена пазіраючы на гадзіннікі, выглядвалі настаўнікі. На ганку з'явілася Галіна Сідараўна.

— Хуліганства! Парушэнне навучальнага працэсу,— закрычала яна.

З-за вугла выбегла баба Маруся. Заўважыўшы Сабакевіча, пляснула рукамі, кінулася за ім — адбіраць званок. Сабакевіч — наўцёкі. І куды ж вы думаеце — да нас, у кусты.

Мы з Явам імгненна развярнуліся назад і гэтак жа на карачках нырнулі ў гушчар да хлява. І калі Ява поўз нармальна, на чатырох, то я — на трох, як сабака з перабітай лапай: мне ж трэба было адной рукой падтрымліваць нагавіцы.

Мы прыціснуліся да сцяны хлява — далей уцякаць не было куды. Званок усё бліжэй, і вось ужо Сабакевіч з разгону ўткнуўся носам Яву ў шчаку. Што ж, ён быў невінаваты — у каго ж яму шукаць абароны, як не ў нас — сваіх сяброў і выратавальнікаў?

Праз хвіліну кусты над намі расхінуліся, і мы ўбачылі расчырванелую бабу Марусю.

— Ага! — пераможна ўсклікнула яна. — Вось хто гэта ўсё натварыў!

З-за галавы бабы Марусі з'явілася галава Галіны Сідараўны.

Галіна Сідараўна гаворыць металічным голасам, нібы секачом адсякае:

— Так!.. Зразумела!.. На экскурсію ў Кіеў заўтра яны не паедуць!

## РАЗДЗЕЛ III

### Прыгоды ў Кіеве. Нашы падазрэнні ўсё мацнеюць. Старшына Палянічка

Каля школы крыкі і мітусня. У двары стаіць грузавая аўтамашына, упрыгожаная кветкамі і сасновымі галінамі.

На машыне каля кабіны ўжо сядзяць у гурце самыя нецярплівыя вучні. Над імі, як гароднае пугала, узвышаецца даўгалыгі, нязграбны Бурміла. Расстаўляюць апошнія ўслончыкі, крэслы. Школьнікі ланцужком выстраіліся ад школьнага ганка да машыны і перадаюць адзін аднаму крэслы, якія выносіць на ганак Галіна Сідараўна. Усе ўзбуджаныя і вясёлыя. Яшчэ б — гэтую экскурсію ў Кіеў так доўга чакалі. Усе смяюцца, нават без дай прычыны. Усе, акрамя нас: мяне і Явы. Мы стаім каля ганка насупленыя. І як толькі ў дзвярах паказваецца Галіна Сідараўна з новым крэслам, мы адразу ж адкрываем раты і пачынаем:

— Мы ж не хацелі... Мы ненаўмысна,— гундосіць Ява.

— Мы больш не будзем...— гундошу я.

Галіна Сідараўна спачатку не звяртае ўвагі, нібыта не чуе, моўчкі знікае ў дзвярах. Потым нарэшце гаворыць:

— Было б нават непедагагічна, каб я вас узяла.

І мы адчуваем — яна ўжо шкадуе нас, яна ж добрая. Трэба каваць, пакуль гарачае.

— Педагагічна, — усклікнуў я. — Мы ж сказалі, што больш не будзем.

— Ну так, педагагічна! — падхапіў Ява.— Нават вельмі педагагічна. Макаранка абавязкова ўзяў бы. Точна!

Галіна Сідараўна адразу хмурыць бровы і холадна гаворыць:

— Не.

І мы разумеем: цяпер ужо ўсё. Перабаршчылі. Настаўнікі не любяць, каб іх вучылі.

Я з трывогай пазіраю на Бурмілу і на Кныша, які пахаджвае каля машыны і раз-пораз лупіць ботам па шыне.

«Няўжо мы застанемся і так і не даведаемся, што яны будуць рабіць у Кіеве?» — думаю я.

І ў галаве маёй зноў узнікаюць загадкавыя таямнічыя словы:

«Затое падаруначак будзеш мець ад немцаў... Вермахт шчодры... Дваццаць жалезных... Якасць бранябойная... Раз — і няма!.. Толькі ж нікому ні-ні».

Раптам Ява тузануў мяне за рукаў: «Гайда! Хутчэй!» — і кінуўся да машыны. Я — за

ім. Трэба паспець схавацца пад крэсламі, пакуль Галіна Сідараўна ў памяшканні.

Вядома, усе бачаць гэта і могуць выдаць нас, калі сумленне дазволіць.

Шух! Бы яшчаркі, шмыгнулі мы пад крэслы каля самай кабіны і прытаіліся.

Праз нейкі час пачулі голас Галіны Сідараўны:

— Што, пайшлі? Ну вось і добра, што зразумелі нарэшце. Гэта будзе навукай для ўсіх, хто ахвотнік зрываць урокі і парушаць дысцыпліну. Ну, паехалі.

Вучні з крыкамі пачалі рассаджвацца. І неўзабаве матор завёўся, машына рушыла. Ніхто нас не выдаў. Ёсць усё-такі ў людзей сумленне.

Калі вы хочаце адчуць, як адразу ўсё цела, з ног да галавы, рэагуе на ўдары, то паспрабуйце паехаць па выбоістай дарозе на аўтамашыне, лежачы ў кузаве пад крэсламі. Параўнаць гэта нельга ні з чым. Такое адчувае, магчыма, вось той «язычок» у школьным званку, калі баба Маруся калоціць ім на перапынак ці на ўрок.

«Раз — і няма!.. Якасць бранябойная... Вермахт шчодры!» — білася ў маёй галаве ў такт ударам.

Патыліцай аб сядзенне — ілбом аб кузаў...
Патыліцай аб сядзенне — ілбом аб кузаў...

«Раз — і няма!..
Якасць бранябойная!..
Вермахт шчодры!..»

І ўсё ж чым больш нас малаціла, чым больш шпурляла ўверх-уніз ды з боку ў бок, тым лягчэй рабілася ў нас на душы — бо ўсё далей ад'язджалі мы ад вёскі.

А гэта значыць, тым меней шанцаў, што нас выкрыюць і высадзяць з машыны. Мы толькі сціскалі зубы, каб не войкаць. Нарэшце калатнеча супакоілася і матор весела загурчаў, набіраючы хуткасць,— мы выехалі на асфальтаваную шасейку (гэта ўжо тры кіламетры ад вёскі). І адразу, нібыта завялася ад старцёра, зазвінела песня.

Яшчэ б! Ну дзе вы бачылі, каб людзі ехалі на машыне і не спявалі? Так не бывае. Калі дарога з шоргатам намотваецца на колы і сустрэчныя машыны толькі міма — гух! гух! гух! — песня сама вырываецца з грудзей.

В хору вылучаўся звонкі салаўіны голас Галіны Сідараўны.

Хіба вытрымаеш, калі ўсе спяваюць? І мы з Явам («А, усё роўна не пачуюць у такім хоры!») зацягнулі на ўсё горла.

Эх, хораша! Калі спяваеш разам з хорам, дык здаецца, што гэта дзякуючы табе так прыгожа і зладжана атрымліваецца.

І раптам... Мы так захапіліся, што нават не

2 Зак. 1437

заўважылі таго моманту, калі ўсе перасталі спяваць. Як высветлілася потым, у той час машына праязджала пад вярбою, што звесіла над дарогай сваё веццё. Усе ў кузаве прыгнуліся, і песня на момант абарвалася. А мы ж былі пад крэсламі і не ведалі пра гэта... Мы цягнулі песню далей, як двое ягнят.

І сярдзітае настаўніцкае: «Ану, вылазьце!» — прагучала для нас, як гром сярод яснага неба.

Пакамечаныя і пацёртыя, мы вылезлі з-пад крэслаў.

— Эх вы! — з пагардаю зірнула на нас Галіна Сідараўна.— Я думала, вы прыстойныя хлопцы. А вы «зайцамі», таемна, падмануўшы мяне... Як... як шпіёны нейкія. Фу!

Я заўважыў, як дрогнуў, ажно падскочыў Ява. Дый у мяне ўнутры ўсё перавярнулася. Нас! Нас назваць шпіёнамі! Нас, якія... Эх!

— Так нядобра, вучні. Падманваць нядобра,— сказаў Бурміла.

«Падарунначак ад немцаў... Якасць бранябойная!..»

Мы з Явам так зірнулі на яго, што калі б можна было паглядам спаліць чалавека, дык ад Бурмілы засталася б толькі жменька попелу.

— Вас трэба было б неадкладна адвезці дахаты альбо высадзіць тут жа, на полі,— сказа-

ла Галіна Сідараўна.— Я не зраблю гэта толькі таму, што мы ўжо праехалі трыццаць кіламетраў і не маем права затрымлівацца. Вы паедзеце з намі. Але ведайце — увесь калектыў асуджае вашы паводзіны.

Мы паднялі вочы — калектыў пазіраў на нас весела і ўсмешліва. У калектыву быў добры настрой.

Калектыў хацеў спяваць.

Апусціўшы галаву, мы сказалі:

— Мы больш не будзем.

Калектыў пасунуўся, і мы селі. І адразу ж, як па камандзе, у неба паляцела песня.

Мы з Явам імкнуліся перакрычаць усіх — так стараліся.

Доўга мы ехалі — усе песні, якія ведалі, праспявалі па некалькі разоў. Тройчы спыняліся паесці.

І вось нарэшце даўжэзны мост цераз шырачэнны Дняпро. А па той бок — высокі бераг і званіца выблісквае залатой шапкай на кручы, а каля яе яшчэ залатыя шапкі скупіліся — лаўра, а за ёй тырчыць высачэзная тэлевізійная вышка і грувасцяцца, налазячы адзін на аднаго, будынкі — вялікія, шматпавярховыя... Кіеў! Прыехалі.

Прыгожы горад Кіеў! Прыгажэйшы за ўсе гарады, якія я бачыў.

Сталіца!

— Значыць, так,— кажа Галіна Сідараўна.— Машыну мы пакідаем каля Палаца піянераў і адразу на метро. Згода?

— Урра-а-а! — закрычалі ўсе. Усю апошнюю чвэрць у нашым пятым «Б» толькі й было гаворкі, што пра метро. Чамусьці з усіх кіеўскіх цудаў нас найбольш цікавіла метро.

Вось і цяпер усе ўзрушана загаманілі.

Усе, акрамя нас з Явам. Мы заклапочана пераглядваліся. Нам жа абавязкова патрэбна было прасачыць, што будуць купляць у Кіеве Бурміла з Кнышом. Дзеля гэтага мы маглі пайсці на любыя ахвяры. Але... няўжо мы праз іх не пабачым метро?

Але калі мы пад'ехалі да Палаца піянераў і Галіна Сідараўна засакатала, збіраючы нас каля сябе: «Глядзіце ж, каб ніхто не застаўся, каб ніхто не згубіўся!» — Кныш, падышоўшы да яе, сказаў:

— Мы таксама з вамі на метро. На Крашчацік хочам з'ездзіць. Матэрыі якой купіць...

Я штурхнуў Яву ў бок — парадак!

Гусінай чародкай мы пацягнуліся па вуліцы.

І вось — метро. Ну, скажу я вам, гэта штуко-о-віна! Казка! Навуковая фантастыка.

Блакітныя цягнікі імчацца ў тунелі хутчэй за вецер. У падземных залах святлей, чым удзень на выгане. Кожная станцыя, як тэатр.

Але самае галоўнае — эскалатары, дзівосныя прыступкі. Ой, ды ці можна сказаць — прыступкі. Звычайныя прыступкі стаяць, а ты па іх падымаешся. А тут наадварот — ты стаіш, а прыступкі падымаюцца.

Мы з Явам як ступілі на эскалатар, дык ажно папрысядалі ад захаплення. Ну і ну! Падымаешся на прыступках угару, апускаешся ўніз і ні адной нагой нават не кранеш. Нават можаш адну нагу падняць або нават сесці — і ўсё роўна рухаешся.

Нам бы такія драбіны на гарышча. Альбо на тую гару, з якой мы ўзімку на саначках з'язджаем. Цудоўная штука эскалатар!

Вось бы заўсёды сачыць за рознымі падазронымі шпіёнамі ў метро на эскалатары. Вел-л-льмі зручна і прыемна. Стаіш сабе і толькі — зірк! — страляеш вачамі. І нікуды ён, галубчык, не дзенецца, нікуды не шугане, бо ўнізе сядзіць цётка, назірае і ўвесь час гаворыць па радыё: «Грамадзяне пасажыры! Бегаць па эскалатары не дазваляецца! Садзіцца нельга, не дазваляецца! Ставіць рэчы не дазваляецца!..»

Прыехалі мы паціхеньку ўніз, селі ў блакітны цягнік. «Наступная станцыя «Крашчацік»!» — буркнуў нехта па радыё. Дзверы — клац.

Гур-гур — паехалі. Бачым, Кныш з Бурмілам да дзвярэй ціснуцца. Мы таксама — да

дзвярэй, толькі да іншых (для канспірацыі!). Не паспелі апамятацца — стоп! Дзверы расчыніліся — станцыя «Крашчацік». Мы ў дзверы — шмыг! Дзверы за намі — клац! І ўсе нашы толькі прамільгнулі ў акне. Ніхто й заўважыць не паспеў, як мы выскачылі. Там на гэтых прыпынках усё робіцца маланкава — не тое што ў цягніку ці на параходзе.

І вось ужо мы, цікуючы за Кнышом і Бурмілам, хаваемся між людзьмі. Выскачылі яны з метро на Крашчацік, перайшлі на той бок і прасцяком у магазін «Дынама». Мы — следам. Схаваліся за вялізны, ажно да столі, сноп з бамбукавых вудзільнаў, прытаіліся, глядзім.

Падышлі Кныш з Бурмілам да прылаўка. Нерашуча тупаюць. Бурміла схіліў галаву набок і адным вокам, як варона на костку, пазірае на паліцу.

— Давай,— локцем падштурхоўвае Бурмілу Кныш.

— Ты давай,— павёў плячамі Бурміла.

— Не — ты! Для цябе ж купляем,— настойвае Кныш.

— От, яй-богу! Якая розніца,— зноў перасмыкнуў плячамі Бурміла, хукнуў і толькі тады павярнуўся да прадаўшчыцы, ткнуўшы пальцам на нейкую паліцу: — Дайце мне, калі ласка, вунь тое.

— Што? — не зразумела прадаўшчыца.

Бурміла азірнуўся нервова, як школьнік, які ўпершыню купляе цыгарэты:

— Ды вунь тое... ну... З жабінымі нагамі...

— А-а? Для падводнага плавання,— усміхнулася прадаўшчыца.

Бурміла кіўнуў галавой і скрывіўся, нібыта прадаўшчыца выкрыла яго.

Прадаўшчыца ўзяла з паліцы ласты і маску з трубкай, падала Бурмілу.

У нас з Явам вочы зрабіліся, як колы. Ты глянь!

Пакуль Бурміла прымерваў маску, абмацваў ласты, Кныш ужо выбіў у касе чэк.

— Загарніце!

І зноў, зладзейкавата азіраючыся, быццам яны не купілі, а ўкралі гэтае прычындалле для падводнага плавання, Кныш і Бурміла выйшлі з магазіна.

Бачачы, што яны так асцярожна паводзяць сябе, мы не насмеліліся адразу ж пайсці за імі, а вырашылі трохі перасядзець за вудзільнамі.

І тут незнарок мы навапіліся на сноп, тонкі шпагат, якім ён быў перавязаны, як бач лопнуў і... Нібыта бомба ўзарвалася ў магазіне. Вудзільны з трэскам разляцеліся ва ўсе бакі. Крыкі, войканне, паніка. Мы як апараныя кінуліся прэч.

— Трымайце! Лавіце! Хуліганы! — палящела нам услед.

Добра, што на Крашчаціку людна, як на футбольным стадыёне. Мы — р-раз! — між людзьмі. Потым Ява мяне за рукаў — цап!

— Не бяжы! Як быццам мы — гэта не мы!

Правільна. Калі за табою гоняцца, бегчы — гэта апошняя справа. Заўсёды трэба ісці спакойна. Тады ў цябе яшчэ й пытацца будуць: «Не бачыў, тут такі прабягаў?» І ты спакайнюсенька можаш адказаць: «Бачыў. Вунь туды пабег».

Няспешна прайшоўшы па Крашчаціку, мы шмыгнулі ў метро. Мы чамусьці былі ўпэўнены, што Бурміла з Кнышом абавязкова пайшлі сюды. Па эскалатары мы ўжо беглі, не звяртаючы ўвагі на радыёцётку. Выскачылі на станцыю: зірк-зірк!

— Вунь,— крыкнуў Ява. І праўда — у дзвярах вагона мільгануў вельветавы пінжак Бурмілы. Мы ледзьве паспелі ўскочыць у суседнія дзверы гэтага вагона. На крайняй лаўцы было вольнае месца і ляжала пакамечаная газета.

Мы схапілі яе, разарвалі напалам, селі і, кожны прыкрываючыся газетай (нібыта чытаем), пачалі касавурыцца адным вокам, цікуючы за Бурмілам. Але каля дзвярэй, дзе ён стаяў, стаяла шмат людзей, і мы бачылі толькі яго вельветавае плячо. «А дзе ж Кныш, што ж гэта яго не відаць? — падумаў я.— Няўжо распрануліся, каб цяжэй было сачыць? У шпіён-

скіх кніжках і фільмах заўсёды так робяць».

У вагоне стала светла — цягнік вырваўся з-пад зямлі на паверхню. Станцыя «Дняпро».

Выскачылі мы, захінаючыся газетамі, услед за Бурмілам на перон. Аж глянь. А каб ты быў здаровы! Вельветавы пінжак павярнуўся — і зусім гэта не Бурміла, а нейкі незнаёмы дзядзька з велізарным носам. Цьфу!

— Праваронілі! — з роспаччу прамовіў Ява. Сталі на мосце каля парэнчаў, не ведаем, што рабіць.

Імчаць па прыгажуну мосце блакітныя экспрэсы, легкавыя машыны, грузавікі, аўтобусы. А пад мостам па Дняпры «Метэоры», «Ракеты» на падводных крылах ляцяць, ледзь дакранаючыся да вады. А ў баку ад моста стаяць велічэзныя фігуры — дзядзька рукамі ўзмахнуў, спадарожнік у неба шпурляе, а цётка — галубы падкідае. Пейзаж — якраз з навукова-фантастычнага кінафільма. Любата!

— Мажа, яны гэты мост хочуць у паветра пусціць, а мы...— сказаў Ява.

— Ды ну?! — недаверліва прамовіў я.

— А што! Кіно «Аквалангі на дне» памятаеш?

Яшчэ б! Некалькі дзён назад бачылі. Такое шпіёнскае кіно! Пасля яго мне ўсю ноч шпіёны ў аквалангах пад вадою сніліся. Мама казала, што я нават булькаў у сне. І ўсё ж...

— Ды не,— сказаў я.— Наўрад ці...

— А чаму ж яны акваланг купілі? Вось яшчэ мне спарцмены знайшліся!

Тут я нічога не змог сказаць. Сапраўды, з гэтым аквалангам было звязана нешта таямнічае.

Ну навошта, скажыце, калі ласка, спатрэбіўся акваланг немаладым вясковым дзядзькам, якія нават фіззарадкай зроду не займаліся?

Ды яшчэ й як яны куплялі яго! Нібыта штосьці забароненае, небяспечнае.

— А што б гэта яно такое «дваццаць жалезных»... пра якія яны гаварылі? «Якасць бранябойная...»,— задумліва сказаў Ява.

Я перасмыкнуў плячамі.

— Зброя? Гранаты? — прыжмурыў на мяне вока Ява.— І якая тут сувязь — акваланг... дваццаць жалезных?..

І раптам — нібыта маланка бліснула ў галаве.

— Чакай! — кажу, а самога ажно мароз па скуры дзярэ.— Тата калісьці чытаў у часопісе. Расказваў... Дзесьці ў Чэхаславакіі ў нейкім возеры, Чорным, ці што, шпіёны ныралі ў аквалангах. Хацелі падняць са дна, каб пацішу вывезці, дваццаць жалезных скрынак. Гэта быў архіў гестапа, які фашысты затапілі, адступаючы. Вельмі важныя дакументы... спісы

ваенных злачынцаў. І ў Аўстрыі тая ж пятрушка была, таксама ў возеры і таксама шпіёны з аквалангамі.

— Точна! Яно самае! Ух ты-ы! — загарэўся Ява.— Ну так, «дваццаць жалезных», і «вермахт», і акваланті...

Ён не дагаварыў, бо ў гэты момант з рэпрадуктара гучна, на ўсю станцыю, пачулася:

— Вучні з вёскі Васюкоўка, якія прыехалі на экскурсію ў Кіеў, Рэнь і Заўгародны, вас чакаюць на выхадзе са станцыі «Дняпро»!

Нібыта хтосьці зверху нас аглушыў, ажно ногі падкасіліся. Так гэта было для нас неспадзявана. Нам здалося, што ўсе гэтыя людзі, якія па станцыі і ўнізе швэндаюцца, усе яны разам на нас паглядзелі.

І мы адразу ж зрабіліся маленькімі-маленькімі і нібыта голымі. Упершыню ў жыцці нашыя прозвішчы называлі па радыё.

— Не бойся,— апамятаўся нарэшце Ява.— Гэта, напэўна, Галіна Сідараўна. Шукае нас. Гайда!

Мы патупацелі да выхаду.

Зірк-зірк. Ні Галіны Сідараўны, ні нашых — ні слыху ні дыху. А стаіць вялізны вусаты міліцыянер. Убачыў нас і адразу:

— Стоп! — падняў руку. — З Васюкоўкі? Рэнь і Заўгародны? Вы мне і патрэбны. Пайшлі.

Вось табе і «не бойся»! Папаліся! За нашы хуліганскія паводзіны ў «Дынама», за тыя вудзільны праклятыя.

Мае ногі прыкіпелі да зямлі і зрабіліся ватнімі — вось-вось на падлогу сяду.

— Ну, пайшлі, чаго ж вы,— азірнуўся міліцыянер.— На руках вас несці, ці што?

Ледзь з месца крануўся.

Выйшлі мы з метро, глядзім — стаіць сіняя машына з чырвонай стужкай на баку, а на той стужцы напісана: «Міліцыя». І вядзе нас міліцыянер да машыны. Адчыніў дзверцы, сказаў: «Сядайце», а сам — каля шафёра. Зняў трубку (радыётэлефон) і гаворыць:

— Таварыш лейтэнант! Дакладвае старшына Паляніčка. Хлопцаў знайшоў. Вязу на аператыўнай машыне куды трэба.

Мы так і аслупянелі. Ну ўсё! «Куды трэба». У турму, значыць, вязе. Прапалі мы.

Нам бы якраз плакаць, гаварыць: «Мы болей не будзем, адпусціце», а мы ні слова, ні гугу! Гордыя мы!

Тулімся адзін да аднаго, едзем і праз акенца на Кіеў апошні раз паглядаем.

Запунсавеў Кіеў сцягамі і святочнымі транспарантамі. Першамай жа заўтра. Усюды людзі вясёлыя, усмешлівыя, вольныя. А мы... у турму едзем. А сапраўдныя шпіёны на волі

ходзяць. І нам зрабілася так прыкра — хоць ты плач.

— Эх вы! — не вытрымаў Ява.— Не тых узялі, каго трэба!

— Як гэта? — павярнуўся старшына.

— Вось вам і «як гэта»,— закапыліў губы Ява.— Можа, мы за сапраўднымі шпіёнамі сачылі...

— Ну?! — левае брыво старшыны выгнулася, як запытальнік.

— Вось вам і «ну». Можа, яны толькі што аквалангі купілі... для падводнага плавання...

— Ого!

— Вось вам і «ого»! Можа, яны гестапаўскі архіў з дна будуць падымаць.

— Зразумела! «Акваланги на дне». Глядзеў. А хто яны, вашы шпіёны? Адкуль узяліся? З-за акіяна?

— З нашай вёскі.

— Ага, мясцовыя, значыць. Калгаснікі. Як прозвішчы?

Ява разгублена зірнуў на мяне. Ён ужо шкадаваў, што пачаў гэтую размову. Міліцыянер гаварыў пасміхаючыся, відаць, ні слову не паверыў.

— Як жа прозвішчы вашых шпіёнаў? Га?— усміхаючыся, паўтарыў старшына.— А можа, гэта сам старшыня калгаса? Або дырэктар

школы? Або калгасны вартаўнік, які яблыкі не дае латашыць? Га? Чаго маўчыце?

Раптам машына спынілася.

— Ну, прыехалі. Вылазьце, шэрлакі холмсы,— сказаў старшына Паляпічка.

Вылезлі мы. Турму вачамі шукаем. Нешта не відаць. Направа царква, а прама — вялікі шэры будынак з калонамі, на тэатр падобны. Няўжо ў Кіеве такая турма?

Толькі мы падумалі пра гэта, а міліцыянер і кажа:

— Гэта, хлопцы, гістарычны музей, дзе ваш клас з настаўніцай. Ідзём пашукаем іх. А то яны, пэўна, хвалююцца, думаюць, што вы назаўсёды згубіліся.

«Дык вось яно што,— радасна забіліся нашы сэрцы.— Дык вы, значыцца, не ў турму нас, таварыш Паляпічка. А ў музей, да Галіны Сідараўны. Ох! Які ж вы малайчына, які ж вы добры чалавек!»

— І не хвалюйцеся, хлопцы! — супакоіў нас добры чалавек.— Я вашай настаўніцы скажу, што вы сачылі за шпіёнамі. Яна не будзе сварыцца. Гэта ж справа сур'ёзная! Дзяржаўная!

— Не трэ...

— Не ка...— адначасова ўсклікнулі мы. А што, як... На ўсю вёску засмяюць! Навошта Ява сказаў!

— Ён па... пажартаваў, — зіркнуўшы на Яву, паспешліва сказаў я.

— Умгу! — насупіўшыся, пацвердзіў Ява.

— Мы проста хацелі... хацелі...— я ніяк не мог прыдумаць, што ж мы хацелі.

— У Дняпры пакупацца,— падхапіў Ява.— Таму і змыліся. Бо Галіна Сідараўна не дазваляе. А ў нас жа Дняпра няма. А Дняпро ж, ведаеце...

— Ведаю, — усміхнуўся старшына. — Ну добра. Бачу, вы хлопцы спрытныя, вынаходлівыя... Сам калісьці быў такі. Толькі падманваць не трэба. Пайшлі.

Падняліся мы па прыступках на плошчу перад музеем. На зямлі нешта з камення выкладзена — нібы велічэзныя «класы».

— Гэта,— кажа старшына,— самае старажытнае месца ў Кіеве. Тут тысячу гадоў назад Дзесяцінная царква стаяла. Гэта яе падмурак.

На пальчыках прайшлі мы па гэтым падмурку. А за падмуркам — вялікая трохкутная палянка, роўненька абсаджаная кустамі, і пасярод яе — мы нават вачам веры не далі — вялізная капіца сена. У цэнтры Кіева на самым старажытным месцы — капіца сена, як на лузе. Вось здорава! І тая капіца нам такая любая, нібыта прывітанне з роднай Васюкоўкі.

Глядзім, а за капіцай, каля самага ўвахода ў музей, гарматы стаяць, пяць гармат.

— Гэта што? — адважыўшыся, запытаў я.

— Гэта, брат, артылерыя, якая была ў нас на ўзбраенні ў сорак трэцім, калі Кіеў ад фашыстаў вызвалялі,— паясніў міліцыянер.

— А вы гэта... вы таксама вызвалялі? — запытаў і зніякавеў Ява, што так нясціпла запытаў.

— Вызваляў, хлопцы. Што было, тое было,— проста адказаў старшына.— Нават паранілa мяне тут, у Кіеве. У шпіталі тут ляжаў. Кіеў для мяне кроўны, родны горад.

Мы неяк зусім па-новаму глянулі на яго. Вунь ён, значыць, які — старшына Палянічка. Хацелі яшчэ пра што-небудзь запытацца, але старшына ўжо вёў нас у музей.

Трэба было шукаць сваіх. Гэта было нялёгка. Ведаеце, колькі там пакояў!

Першы паверх (старажытны час) нам не вельмі спадабаўся. Там не было нічога цэлага — усё кавалкі нейкія, абломкі, чарапкі пабітыя. І самае пачэснае месца займае спарахнелы човен. Вось гэта каштоўнасць! Я вам такога на нашай рэчцы колькі хочаце знайду.

Але другі паверх... Вось гэта сапраўды! У нас ажно вочы разбегліся. Вунь воз чумацкі сапраўдны. На такіх вазах нашы продкі калісьці ў Крым па соль ездзілі. А вось карэта залатая, у якой мітрапалітаў кіеўскіх вазілі. Нішто сабе карэта. Ой, глянь, зброя казацкая,

самая сапраўдная. Ого-го шабля! Дай такую ў рукі старшыне Палянічку, ён толькі — рраз! Мы ўявілі нашага міліцыянера ў казацкіх шараварах, з шабляю ў руцэ. Нішто! Няблага атрымліваецца. А вунь ружжо, стрэльба. Ох і доўгая! А пістоль які!

Трэці паверх. Вялікая Айчынная вайна. Вызваленне Украіны ад фашысцкіх захопнікаў. Тут ад кожнага стэнда павявае подзвігам, геройскай славай. Вось трафеі — поўная скрыня гітлераўскіх ордэнаў, хоць лапатай грабі. А вунь асабістыя рэчы разведчыка Кузняцова, які дзейнічаў у тыле ворага і выкраў нямецкага генерала. Ой, не спяшайцеся, дайце паглядзець. Гэта ж нам зараз так патрэбна, так патрэбна. Мы ж цяпер гэта ўсё так разумеем, як ніхто... Мы ж, магчыма, зараз самыя сапраўдныя разведчыкі (хоць вы, таварыш Палянічка, і смяяліся!). І ўсё гэта нам во як патрэбна ведаць! Во! Во! Во! Вунь жа розныя сакрэтныя дакументы. Вунь... Насустрач нам спяшаецца Галіна Сідараўна, а за ёй следам усе нашы. Твар Галіны Сідараўны аж палае.

— Вы мяне да інфаркту даведзяце! Дзе вы былі? Дзе?

— Згубіліся,— каецца Ява.

— Заблудзіліся,— каюся я.

— Згубіліся-заблудзіліся! Дваццаць дзевяць вучняў у экскурсіі. І ніхто, акрамя вас,

не згубіўся, не заблудзіўся. Мяне паралюш разаб'е праз вас.

Мы ўздыхаем. Мы не хочам, каб Галіну Сідараўну разбіваў паралюш. Няхай будзе здаровая.

— Не сварыцеся на іх, вельмі прашу. Яны болей не будуць,— гаворыць старшына Палянічка, падкручвае вусы, і вочы ў яго затуманьваюцца.

— Ах, прабачце! Я нават не падзякавала вам. Дзякую. Дзякую,— адразу пачырванеўшы, гаворыць Галіна Сідараўна, робіць вусны банцікам, і вочы ў яе таксама затуманьваюцца.

— Няма за што. Гэта наш абавязак.

—Ну, усё-такі, усё-такі... Турбаваліся, прывозілі... Дзякуй вялікае! Не ведаю, што б я і рабіла.

Гаворачы, старшына Палянічка не зводзіць нейкіх па-асабліваму лагодных вачэй з Галіны Сідараўны.

А Галіна Сідараўна, наадварот, то зірне на яго, то апусціць вочы. І размаўляе яна з міліцыянерам якімсьці надзвычай меладычным мяккім голасам — зусім не так, як з намі.

— Вы дарэмна так хвалюецеся, нервы сабе псуяце. Хлопцы яны вёрткія, пранырлівыя, нікуды не дзенуцца,—гаворыць старшына і пазірае на Галіну Сідараўну, як арол.

— Ах, ведаеце! З імі так цяжка, так цяжка... Я іх люблю, але...— як галубка, вуркоча Галіна Сідараўна і гладзіць па галаве спачатку мяне, потым Яву.

Ява падміргнуў мне. Я ціхенька хмыкаю ў адказ ( я падміргваць не ўмею, у мяне адразу два вокі заплюшчваюцца, як у дзеда Варавы). Малайчына старшына! Дзякуй! Геройская міліцыя ў Кіеве.

Потым мы ўсе выходзім з музея і ідзём на Уладзімірскую горку. І старшына Палянічка разам з намі.

Потым мы едзем у Палац піянераў. (Ух, здорава! Вось гэта палац! Казка!) І старшына Палянічка разам з намі.

Потым мы сядаем на машыну (Кныш з Бурмілам даўно ўжо тут і паводзяць сябе вельмі спакойна — нібы самыя звычайныя людзі) і адпраўляемся ў дарогу.

А старшына Палянічка ўрачыста прыкладае руку да шапкі і стаіць так, аддаючы чэсць, пакуль мы не знікаем.

І зноў сама сабою завялася песня.

Мы з Явам хітравата пераглядваемся і цягнем яе на ўсё горла.

І так нам весела, што мы аж кладзёмся. Але Галіна Сідараўна нічога не чуе і не бачыць — спявае, заліваецца.

Бывай, Кіеў! Бывай, старшына Палянічка!

## РАЗДЗЕЛ IV

### Трэніроўка на плёсе. А ці не шукаюць яны Папушыну стрэльбу

Бязлюдны плёс у плаўнях. На пясчаным астраўку за карчом вербалозіны сядзіць Бурміла ў шырачэзных смешных трусах, падобных на жаночыя. На нагах у яго ласты. У роце трубка акваланга, да твару ён прыладжвае маску. Чмыша, як кот — насішча перашкаджае. Праз шкло маскі заглядвае Бурміла ў брашуру, якую трымае ў руках,— звяраецца з інструкцыяй. Поруч — апрануты Кныш. Вось Бурміла адклаў брашуру. Пайшоў да вады, чапляючыся за зямлю ластамі і спатыкаючыся. Гэп! — упаў. Падняўся. Не выпускаючы з зубоў трубкі, нешта гудзе, мабыць, лаецца.

Зайшоў у ваду. Нырае. Над вадой нейкае імгненне дрыгаюцца хударлявыя валасатыя ногі ў ластах, потым знікаюць. Няма Бурмілы, толькі бурбалкі па вадзе пайшлі.

Кныш уважліва пазірае на ваду. Секунда, дзве, тры...

Ажно па вадзе пайшлі бурбалкі, бурбалкі, бурбалкі... Рраз! — і выбулькнула галава Бурмілы. Ліхаманкава зрывае Бурміла маску, трубку. Адштурхоўваецца, адплёўваецца. Цяжка дыхаючы, вылазіць з вады.

— Ху... Ху... Цьху... Ледзьве не ўтапіўся.

Ху-у-у. Нельга мне яшчэ на глыбіню ісці. Небяспечна. Добранька патрэніравацца спачатку трэба. А ўжо ж там метраў шэсць або нават і ўсе восем будзе.

— Вядома, вядома... Патрэніруйся... Як жа! — супакойвае яго Кныш.— Але ты здарава. Справа пойдзе! Калі б я так мог...

— Так, нялёгкая гэта, бач, штуковіна. Здароўе, як у вала, трэба,— набівае сабе цану Бурміла.

— Затое потым... Ты мне потым боты будзеш цалаваць. Жыццё, як у раі, будзе,—Кныш клацнуў сябе пальцам па шыі і гігікнуў. Бурміла таксама гігікае ў адказ.

І ні Кныш, ні Бурміла не ведаюць пра тое, што мы з Явам усё бачым і чуем. Мы зашыліся ў чарот на другім беразе і назіраем. Па чарзе мы перадаём адзін аднаму стары палявы бінокль майго бацькі. Хаця бінокль падслепаваты на адно вока, але ўсё ж гэты бінокль у шэсць разоў набліжае да нас аб'ект назірання.

Нам пашчасціла: на наступны ж дзень пасля прыезду з Кіева мы «ўзялі след» — высачылі, як Бурміла з Кнышом падаліся ў плаўні, і ціхенька сабе паплылі за імі на чоўне-пласкадонцы.

І вось назіраем.

— Слухай,— шэпча Ява,— а можа, яны ны-

раюць па тую стрэльбу са стэнда, што Папуша ўтапіў?

Я няўпэўнена перасмыкнуў плячамі, не адрываючыся ад бінокля (зараз мая чарга). І ўспамінаю пра тую стэндавую паляўнічую стрэльбу.

Праўду гавораць — тут, у нашых плаўнях, для паляўнічых рай. Ад нашай вёскі далёка-далёка цягнуцца яны на поўдзень. Куды ні кінеш вокам — усюды плаўні без канца-краю. Плёсы мяжуюць [redacted] балацінамі, [redacted] астраўкамі, што параслі вербамі і лазою. Але найчасцей плаўні — гэта чараты, чараты, высачэзныя, трохметровыя, непралазныя чараты.

У тых чаратах людзі папраразалі так званыя «стружкі» — вузкія павілястыя калідорчыкі з чыстай вадой, па якіх можна праплысці на чоўне. Заблудзіцца ў гэтых стружках — раз плюнуць.

Невыпадкова ў час вайны нашы плаўні былі партызанскім краем. Сотні партызан хаваліся тут, і немцы нічога не маглі з імі зрабіць.

А дзічыны ў плаўнях — як камарэчы, аж цёмна. І качкі, і чыркі, і дзікія гусі. Чаго толькі няма!

Уяўляю, колькі паляўнічых наедзе сёлета ў жніўні на адкрыццё палявання «па пяру». І кіеўскія, вядома, прыедуць, якія заўсёды прыязджаюць.

Той даўгалыгі чарнявы Алесь, у якога свая «Волга» ёсць. І хітраваты, як яго называе дзед Варава, Ганабобель — вастраносенькі, драбназубы, з вялікімі вушамі, у акулярах — і сапраўды падобны на лісічку. І няўклюдны, круглатвары немалады ўжо Папуша. І паважны лысы Бубчанка.

Усе яны кандыдаты ў нейкія навукі. Што такое кандыдат, мы добра ведаем. Маці Явы была кандыдатам у дэпутаты раённага Савета. Яе біяграфія з фатаграфіяй вісела на сцяне нашай школы. Але нядоўга. Прайшлі выбары, і яна стала дэпутатам. А гэтыя трэці год прыязджаюць, і ўсё яшчэ кандыдаты.

— Нешта доўга іх не выбіраюць— казаў Ява.— Мабыць, не вельмі здольныя да навукі. Як мы з табою.

— Мабыць,— згаджаюся я.

Вось і на гэты раз, пэўна, прыедуць кіеўскія кандыдаты.

Па старой завядзёнцы, спыняцца зноў у дзеда Варавы. Яны ведаюць, у каго кватараваць. Вечарам, па даўняй паляўнічай традыцыі, будуць доўга вячэраць, расказваць розныя паляўнічыя гісторыі, спяваць і строіць кепікі адзін з аднаго. А на досвітку дзед разбудзіць іх, і яны падхопяцца — заспаныя і як хворыя. Пахапкі збіраючы сваё паляўнічае прычындалле, будуць крывіцца ад галаўнога

болю, дрыжаць ад ранішняй сырасці і стагнаць. А Бубчанка наогул не захоча ўставаць. Накрыўшы твар капелюшом, ён будзе бубнець з-пад яго ахрыплым сонным голасам.

— Лажыцеся! Чаго вы падхапіліся?! Ноч на дварэ. Не паспелі заснуць — і ўжо... Хрр-у,— і адразу ж дае храпака.

Яны будуць доўга раскатурхваць яго, ён — адбрыквацца і гаварыць: «Ідзіце, я вас даганю» — нарэшце вылаецца і ўстане. І яны паплятуцца ў плаўні. Дзед на даўбанцы, яны — на пласкадонках. Дзед толькі тое і робіць, што стаіць і чакае іх. Бо яны не плывуць, а зігзагамі блытаюцца па вадзе: з левага борта грабянуць — човен управа паверне, з правага грабянуць — у левы бок плыве, і так увесь час. Даўбанка ж дзедава — як па струнцы йдзе. Ну і даўбанка ў дзеда Варавы. Лёгкая, як пярына, ляціць па вадзе, як птушка, як тыя караблі на падводных крылах. Але ўседзець у ёй ніхто, акрамя дзеда, не мог. Вельмі ўжо вёрткая была даўбанка. Плывеш на ёй, нібыта па дроце ідзеш — увесь час балансаваць трэба.

У мінулым годзе на адкрыццё сезона панаехала да нас шмат паляўнічых. Чоўны адразу ж паразбіралі. А кіеўскія запазніліся — ажно ноччу прыехалі. Не дасталася ім чоўнаў. Адна дзедава даўбанка засталася. Што рабіць?

— Удвух на гэтай даўбанцы няма чаго і

думаць — патоне,— сказаў дзед.— А то можна было б паразвозіць.

— Дык па адным можна пераехаць,— кажа Ганабобель.

— Абсалютна правільна,— спакойна заўважыў дзед.— А адтуль хто човен будзе прыганяць?

— М-да,— глыбакадумна прамармытаў Ганабобель.

— А калі хлопцы памогуць? — сказаў даўгалыгі Алесь (мы якраз тут стаялі).

— Яшчэ патопіце мне іх,— буркнуў дзед.

— Ды не! Чаго там,— вырвалася ў мяне.— Мы ж лёгкія. Па чарзе будзем перавозіць. Калі перакулімся, то вы ж ведаеце, як мы плаваем. Як качкі.

— Ну што ж, паспрабуйце, — згадзіўся дзед.— Толькі распраніцеся, хлопцы. Бо, пэўна, прыйдзецца-такі пакупацца.

Паколькі я першы выскачыў, дык першы і перавозіў. Перавозіў Алеся. Але перавозіў, мабыць, не тое слова, бо перакуліліся мы каля самага берага, нават не паспелі ад'ехаць. Толькі ён сеў, толькі пачаў умошчвацца, як мы адразу перакуліліся. І хаця каля берага было зусім мелка, Алесь боўтнуўся ў ваду з галавою.

— Праклятая даўбанка! Душагубка, а не човен! Хай яе д'ябал! — лаяўся ён, вылазячы на бераг і ацепваючыся, як сабака.

Таварышы засмяяліся, а Папуша сказаў (ён гаварыў, шырока расцягваючы вусны, а разам з тым і словы):

— От вяртля-авае! Шчанё-ё. Уседзець немагчыма-а! Іголкі ў штанах! Зараз я паеду, калі ты такое...

І палез у даўбанку.

— Вы на дно, на дно сядайце,— раіў дзед.

Але на дне даўбанкі была вада, і Папуша не захацеў мачыць штаны.

Ён паклаў папярок бартоў дошчачку і сеў на яе. Дзед патрымаў даўбанку, пакуль мы ўмошчваліся, а потым адпіхнуў нас ад берага. Я пачаў асцярожна веславаць, і мы рушылі. Папуша сядзеў роўненька, як першы вучань за партаю. Абедзвюма рукамі трымаў на каленях стрэльбу, балансаваў ёю, як канатаходзец.

«Добра сядзіць, даплывём»,— падумаў я. Мы ўжо былі на самай сярэдзіне ракі. І раптам нізка-нізка над намі з шумам праляцелі тры качкі.

Папуша адразу ўсхапіўся, ускінуў стрэльбу (паляўнічы ён быў вельмі азартны), але выстраліць не паспеў — мы страцілі раўнавагу. Човен пачаў хіліцца набок.

— Дзядзька!— крычу.— Асцярожна, перакульваемся...

Ён толькі па вадзе рукой — плясь, плясь, плясь...

Але хіба за ваду рукою ўтрымаешся? Боўць! Апошняе, што я бачыў,— гэта як новенькія гумавыя боты з доўгімі халявамі мільганулі ў паветры — і вада сышлася над ім. Я адразу вынырнуў і схапіўся за перакуленую даўбанку. На нейкае імгненне з вады выбулькнула галава Папушы — твару не відно; мокрыя валасы ўсё да падбароддзя заляпілі.

— Ружжо! — булькнуў ён і зноў знік пад вадой — як паплавок, калі рыба клюе.

Потым зноў выбулькнуў:

— Ружжо!

І зноў пад ваду.

— Што там у вас? — весела загукалі з берага.

— Дзядзька стрэльбу, здаецца, утапіў,— адказаў я.

Тут Папуша зусім ужо вынырнуў і, адплёўваючыся, закрычаў:

— Упусці-і-іў! Стэндавае! Цаны няма!

Ледзь-ледзь мы з ім да берага дабраліся — я даўбанку і вясло перад сабою штурхаў, а ён... Я ўжо баяўся, каб ён з гора сам не патануў. Плыве і стогне.

— Такое ружжо! Такое ружжо! Такое ружжо!

На беразе дзед пачаў супакойваць:

— Нічога, выцягнем! Вось хлопцы дадуць нырца і знойдуць.

Паслалі нас. Паплылі мы. Стараліся, стараліся — нічога не знайшлі. Дно глеістае, зацягнула стрэльбу, хіба знойдзеш.

Пакуль мы шукалі, дзед Варава супакойваў Папушу, а калі не знайшлі — дзед раззлаваўся: нібыта Папуша не сваю, а ягоную, дзедаву, стрэльбу ўтапіў.

— І чаго вы, дурань, усхапіліся? Чаго ўсхапіліся? Трэба было сядзець спакойненька. Едзь сабе, калі вязуць. Дык не — качак яму захацелася. Першаму. Яшчэ ніхто не страляў, а ён ужо, бач, усхапіўся. Такую каштоўную рэч утапіць! Хіба вам можна стрэльбу даверыць? З рагаткі вам страляць, а не са стрэльбы!

Папуша вінавата маўчаў, і не апраўдваўся, і не абражаўся, што дзед яго, кандыдата, лае, як вучня. Дзед часта на паляванні пад гарачую руку і лаяўся, і строіў кепікі з паляўнічых, і яны ніколі не крыўдзіліся. Нязручна ім было абражацца. Дзед Варава ведаў плаўні, як свае кішэні. У гады вайны быў тут правадніком у партызан — «галоўным лоцманам», як яго тады называлі. І ўсе паляўнічыя ведалі: калі паедзеш з дзедам на паляванне, ніколі без дзічыны не застанешся.

Колькі б ні прыязджаў пасля таго Папуша, заўсёды горка ўздыхаў, успамінаючы сваю «дарагую тапельніцу» (ён гаварыў пра яе, як пра жывую істоту, з пяшчотай і сумам). А калі

«мазаў» — кідаў на зямлю сваю цяперашнюю «тулячку» і ледзь не таптаў яе нагамі:

— Праклятая! Хіба гэта стрэльба?! Аглобля габляваная! Лапаціна! Эх, калі б была жывая мая тапельніца! Хіба б я прамазаў па той качцы?!

Усё гэта азначала, што стрэльба і сапраўды для яго была вельмі каштоўнай рэччу і ныраць па яе варта было.

— Але што ж тады азначае той «вермахт», «падаруначак ад немцаў»? — сказаў я.— І тыя «дваццаць жалезных», і ўсё астатняе?

Да звычайнай, няхай сабе нават стэндавай стрэльбы ўсе гэтыя таямнічыя шпіёнскія словы ніяк не падыходзілі.

— Не, яны не па стрэльбу,— упэўнена сказаў Ява.— Гэта точна! Папуша, памятаеш, гаварыў, што ён добра таму заплаціць, хто яе выцягне, каб толькі выцягнулі. Дык чаго ж хавацца...

Правільна, я ўспомніў, Папуша так гаварыў. І ён заплаціў бы нават больш, чым тая стрэльба каштавала, бо, акрамя ўсяго, верыў, што ад яе залежала яго паляўнічае шчасце (штосьці залішне часта «мазаў» ён са сваёй новай «тулячкі»).

Варыянт са стрэльбай адпадаў.

Тым часам Бурміла зноў нырнуў, смешна

дрыгнуўшы над вадой нагамі ў ластах. І амаль што адразу вынырнуў. З трубкі, якую ён трымаў у роце, як з фантана, метры на два ўгару, лупянула вада. Потым кашаль і лаянка:

— А... няхай яго чорт! Гэта ж утаплюся, і квіт! Навошта яно мне патрэбна!

— Ну, ша-ша-ша! Як хлапчук! — скрывіўся Кныш.

— Гэта чортавая маска мяне падводзіць,— Бурміла рвануў з твару маску.— Я думаю, што гэта так, як у процівагазе, і пачынаю дыхаць. А там — вада... Адразу захлынаюся. У мяне ж жабраў няма.

— Значыцца, трэба падстрахаваць. Падстрахаваць трэба. Прывяжам да тваёй нагі вяроўку, я канец у руцэ буду трымаць — для страхоўкі. У выпадку чаго, я раз — і выцягну. Але тое ўжо іншым разам. На сёння досыць.— Кныш глянуў на гадзіннік: — А то я на аэрадром спазняюся. Я ж табе казаў — спецзаданне.

Мы пераглянуліся.

«Аэрадром», «спецзаданне»... Гэта нешта такое... Адным словам, кроў з носа — мы павінны ведаць, што гэта за спецзаданне на аэрадроме.

— Гайда! — шэпча Ява і хапаецца за вясло. Я таксама.

Ніколі яшчэ наша пласкадонка не імчалася так, як цяпер. Вада ажно вірылася за кармой. Нам патрэбна было абавязкова раней Кныша даплысці да берага.

## РАЗДЗЕЛ V

### Кішэнная атамная бомба на транзістарах. Хто такі Фарадзеевіч

І вось мы ўжо штосілы бяжым па вуліцы. Убягаем на калгасны падворак, дзе стаіць грузавік Кныша, і адразу тармозім. Фу! Тут ужо бегчы нельга, бо звернем на сябе ўвагу. А нам трэба незаўважна, паціхеньку залезці ў кузаў грузавіка.

І мы, засунуўшы рукі ў кішэні і незалежна паплёўваючы, павольна сунемся па падворку. Насустрач белазуба ўсміхаецца замурзаны (усё аблічча ў мазуце) камбайнер Грыць Кучарэнка.

— Здароў, хлопцы! Што — гайку якую-небудзь трэба?

— Ды не, так проста... Гуляем...— раўнадушна цвыркнуў праз зубы Ява.

— Ну, глядзіце мне, калі паўкамбайна прападзе, ногі паадкручваю,— смяецца Грыць і ідзе ў адчыненыя дзверы майстэрні.

Мы азіраемся. Здаецца, ніхто не бачыць.

— На абардаж! — дае каманду Ява.

Раз-раз-раз! Гоп! Ён ужо ў кузаве. Цяпер я.

Раз-раз-раз!.. Др-р-р!..

А каб цябе!.. Зачапіўся і — як штаны на плоце — на два бакі звесіўся. Ні туды, ні сюды.

Ява хапае мяне за каўнер — смык! Др-р-р-рррр... Гоп! Як жаба, ляпнуўся я ў кузаў. Лып — такі добры кавалак штаноў трохвугольнікам адваліўся, цела маё грэшнае нябёсам выставіў. Ой, і пападзе мне ад маці! Што ж, давядзецца цярпець, за шпіёнамі ганяцца — не ў шашкі гуляць.

Толькі б Кныш у кузаў не зазірнуў... Бо павыкідвае за шкіркі, як шчанят, ён такі! Колькі ні прасі: «Дзядзька, пакатайце» — ніколі не возьме. І схавацца, прыкрыцца няма чым — зусім парожні кузаў.

Ажно вось бразнулі дзверцы, завурчаў матор — уздрыгнула і рушыла з месца машына.

Пашанцавала! Не зазірнуў. І зноўку падкідвае нас на выбоінах — добра, што хоць крэслаў над намі няма. Нічога, вытрымаем — да аэрадрома кіламетраў дзесяць, не больш.

Мы толькі па некалькі сінякоў ды па дватры гузакі панабівалі і ўжо прыехалі.

Калі машына спынілася і Кныш выйшаў (бразнулі дзверцы), мы асцярожненька і ціхаціха высунуліся над бартамі. Ён! Аэрадром.

Наш, раённы. Вунь трапечацца надуты ветрам конус на службовым будынку. Стаіць некалькі самалётаў сельгасавіяцыі. З грузавіка стужкавым транспарцёрам нагружаюць у адзін з самалётаў мінеральныя ўгнаенні.

Кныш падыходзіць да лётчыкаў, якія кураць каля будынка, штосьці пытае, пазірае на гадзіннік, потым з-пад далоні — на неба.

І якраз у гэты момант у небе з'яўляецца самалёт. Ужо чутны гул матора.

— Ідзе на пасадку,— аўтарытэтна шэпча Ява.

І вось, падскокваючы, едзе самалёт па няхітрай пасадачнай пляцоўцы, азначанай тычкамі.

Кныш адразу пабег да самалёта. Спусціўшы на зямлю металічныя драбіны, з самалёта выйшаў лётчык. У руках — доўгая скрынка, з якой тырчыць нейкая трубка. Лётчык перадаў скрынку Кнышу, штосьці сказаў (мы не пачулі) і паказаў, маўляў, асцярожна. Кныш бярэ скрынку так, нібы ў ёй бомба.

— Што гэта? Што ён перадаў? — заклапочана пытаюся я.

— Нешта падазронае, — кажа Ява.— Можа... Можа, атамная бомба... з Амерыкі.

— Замалое для бомбы,— намагаюся я супакоіць сябе.

— Вельмі ты разумееш,— хмыкае Ява.—

А калі на транзістарах... Спецыяльна для шпіёнаў.

Кныш асцярожна ўлазіць у кабіну, заводзіць матор, і мы едзем. Не, мабыць, «едзем» не тое слова. Мы паўзём, паціху, асцярожна, абмінаючы кожную яміну, кожны каменьчык. Толькі адзін раз у жыцці бачыў я, калі гэты грузавік так ехаў. Тады ён быў накрыты чырвонай кітайкай і на ім стаяла... труна. Гэта — калі ўсім сялом хавалі героя грамадзянскай вайны дзеда Апанаса.

Згадка пра той факт халодным шыльцам утыркаецца ў сэрца. А што, калі і сапраўды ўзарвецца? І для пахавання нічога не застанецца, нават попелу... Атамная бомба — гэта ж...

— Ява,— шапчу я,— а давай з-злезем...

— Навошта? — пытае ён, але па вачах бачу, што ён таксама не супраць таго, каб злезці.

— Калі так ехаць, дык лепш ужо ісці! На такой хуткасці ён ад нас усё роўна не ўцячэ. Дый ногі размяць хочацца.

Мы пералазім цераз задні борт і, як жабяняты, ляпаемся на зямлю.

Ява прысядае і валіцца на бок. Я схіляюся над ім. Ява трымаецца за нагу і крывіцца:

— Ч-чорт... падвярнуў...

Але па вачах бачу, што нічога ён не падвярнуў. Малайчына. Я б не здагадаўся. Машы-

на ўжо ад'ехала метраў сто. Цяпер можна следам. Калі што якое, хоць у канаўку папа́даем — усё ж абарона.

— Ісці можаш? — для прыліку пытаюся я.

— Паспрабую,— адводзіць вочы Ява.

Нейкі час ён кульгае, а потым забывае і перастае кульгаць.

Мы ідзём за машынай. Нам нават не трэба спяшацца — так павольна яна сунецца.

Вось і вёска. Машына паварочвае ў вузенькую, зацішную, зялёную вулічку і спыняецца каля вастраверхага будыначка пад чарапіцай.

Мы трывожна пераглядваемся.

О, мы добра знаем гэты будыначак. Тут жыве Фарадзеевіч, вядомы на ўвесь раён, а можа, й на ўсю вобласць Фарадзеевіч.

Вы не знаеце, хто такі Фарадзеевіч? Ды ну? Няўжо?!

О, гэта незвычайны, цудоўны чалавек. Чалавек, які, як казаў мой бацька, трапляецца адзін на мільён, ды і не на кожны мільён.

Ён — наш вясковы бібліятэкар. Афіцыйна. А неафіцыйна — вынаходнік. І не проста вынаходнік. А, як казаў дзед Варава, «універсальны вынаходнік». Ён і механік, і электрык, і па розных там радыёштуковінах (што на транзістарах, паўправадніках), і селекцыянер (новыя нябачаныя сарты гародніны, садавіны), і па гідрасістэмах — проста не пералічыць...

Чаго ён толькі не павынаходзіў! І паравы рухавік, што сам качае ваду з калодзежа (са звычайнага прымуса і старой выварکі); і пнеўматычныя садовыя драбіны (націснуў на кнопку — пуфр! — і лезь сабе на самую высокую яблыню); і гідрагазавую палівачку на тры атмасферы (вада пад ціскам газу распырскваецца да пятнаццаці метраў)...

Агароднік дзед Салівон калісьці казаў, што калі б Фарадзеевічу «даць рублёў сто на запчасткі, ён бы сам пабудаваў якую-небудзь міжпланетную станцыю...».

Ды што там гаварыць. Вы толькі зайдзіце да яго!

Адчыняеш фортку — і адразу з-за куста выскоквае на тычцы смешны фанерны чалавечак. Адной рукой на хаду з галавы капялюш здымае, а ў другой трымае дошчачку з надпісам: «Добры дзень! Калі ласка!»

Ідзеш па беленькай, пасыпанай рачным пясочкам дарожцы. Па правую руку — гляньце! — куст нейкі па спецыяльнай лазіне метры на два ўверх уздзёрся, і пладоў чырвоных на ім столькі, што аж у вачах мільгаціць. Вы думаеце, што гэта нейкія ягады, але гэта памідоры. Карлікавы сорт. А вось вялізная зялёная каўбасіна на зямлі ляжыць. Гэта не гарбуз, не, гэта — гурок. А буракі якія, а морква, ба-

чылі б вы, адной морквінай бегемота забіць можна.

Па левую руку — калодзеж, белай кафляй абкладзены, як амбулаторыя. Ну, дзе вы такі калодзеж знойдзеце?

Каля калодзежа паравы рухавік на прымусе, пра які я гаварыў, і падобная на гармату тая гідрагазавая палівачка. І наогул усіх мудрагелістых штуковін і прыбудоў не палічыць.

Не, невыпадкова яго празвалі Эдысон Фарадзеевіч (на самай справе ён Антон Фадзеевіч). Але гэтая мянушка не абразлівая, вымаўляюць яе людзі лагодна, бо ўсе любяць старога.

Ён высокі, худы, кашчавы і ажно свеціцца ўвесь — валасы светлыя, бровы светлыя, павекі светлыя,— не разумееш, ці гэта ён такі бландзін, ці сівы (гадоў яму пад семдзесят), а вось вочы — блакітныя-блакітныя, ажно сінія.

Ён нетутэйшы, прыезджы, дзесьці з-пад Тамбова. «Рускі чалавек», як гаворыць дзед Салівон. Гадоў пяцьдзесят таму ён ваяваў тут, пазнаёміўся з бабай Аксанай (яна тады маладая была) і застаўся на ўсё жыццё.

Гэта добры чалавек, якога свет не бачыў.

Заўсёды ў яго можна было папрасіць усё, што хочаш, — апошняе аддасць. І ўвесь час усміхаецца. Сярдзітым бывае толькі тады,

калі пабачыць парваную якім-небудзь «юным чытачом» бібліятэчную кніжку.

— Эх,— кажа ён,— і які ж гэта акадэмік чытаў! Даў бы я яму па заходнім паўшар'і.

Але ніхто не помніць, калі гэта каму-небудзь ён даў па «заходнім паўшар'і».

Дзяцей ён любіў страшэнна. Сваіх яны з бабай Аксанай не мелі — ні дзяцей, ні ўнукаў. Жылі толькі ўдваіх. І ўвесь ураджай свайго казачнага саду раздавалі нам — нават няёмка. Апошнім часам, месяцы два ўжо, баба Аксана хварэла, ляжала ў раённай бальніцы, і Фарадзеевіч праз дзень ездзіў туды. І сёння якраз паехаў — мы ведалі.

А ў гэты час Кныш...

Схаваўшыся ў кустах каля плота, мы бачым, як адчыняюцца дзверцы кабіны і адтуль вылазіць у брудных зашмальцаваных штанах Кныш, асцярожна трымаючы ў руках тую загадкавую доўгую скрынку з трубкай. Ступаючы па зямлі, як канатаходзец, ён пайшоў да форткі. Штурхнуў яе нагамі. Рраз! — фанерны чалавечак з-за кустоў: «Добры дзень! Калі ласка!» Кныш механічна кіўнуў яму, як жывому, і на ганачак. Рыпнулі дзверы (Фарадзеевіч ніколі не замыкае хату), і Кныш знік унутры.

— Хоча з дымам пусціць Фарадзеевіча,— кінуў на мяне Ява востры позірк.

— Навошта?

— Мабыць, Фарадзеевіч такое нешта вынайшаў, што там не спадабалася,— Ява шматзначна тыцнуў пальцам кудысьці ўбок — за акіян.

І адразу ж маё ўяўленне малюе вялізны цёмны злавесны кабінет. За шырокім сталом сядзіць страшны генерал са свастыкай на рукаве. Перад ім выцягнуліся Кныш і Бурміла. Генерал дастае з шуфляды пачкі грошай і кідае на стол. Кныш з Бурмілам хапаюць грошы і прагна запіхваюць іх у кішэні, за пазуху. Генерал штосьці загадвае і робіць рукамі жэст, паказваючы выбух. Кныш і Бурміла, ківаючы. адыходзяць спіной да дзвярэй.

Узрываецца, ляціць у паветра хаціна Фарадзеевіча...

І тут — шасэ. На крутым павароце імчаць на матацыклах Кныш і Бурміла. Бурміла мокры, у масцы ад акваланга, з трубкай у зубах. А за імі на матаролерах — мы з Явам. Раз-пораз Кныш аглядваецца і страляе ў нас з нагана. Свішчуць кулі, шалёна равуць маторы... На нашых мужных тварах рашучасць і адвага.

Потым — хоп!— матаролеры выслізгваюць з-пад нас, імчаць па шасэ і знікаюць... І вось мы ўжо на трыбуне ў акружэнні генералаў, вядомых людзей, амаль што членаў урада. На нашых грудзях паблісквакоць новенькія меда-

лі «За адвагу». Унізе — мора людзей. Яны трымаюць нашы партрэты і транспаранты з надпісамі: «Слава героям!», «Няхай жывуць Ява і Паўлуша!», «Назавём кіеўскае метро імёнамі герояў!», «Назавём Паштовую плошчу плошчай імя Явы і Паўлушы!». Аркестр іграе туш... І раптам ззаду нехта мяне балюча-балюча — шчып! «Ты што?» Гэта я так захапіўся, што забыў усё на свеце, пачаў мармытаць туш «Мра-ма-рам-та-ра-ра-рай-ра-рам!» —і не заўважыў, як з хаты Фарадзеевіча выйшаў Кныш.

І як павольна пад'ехаў грузавік, так хутка ён ад'ехаў. Мы пераглянуліся і нейкі час маўчалі.

Потым Ява гучна хукае і кажа:

— Пайшлі! Мы не можам гэтага дапусціць!

Я таксама хукаю, але цішэй, і кажу:

— Рызыка! Можа й сарвацца!

— Можа! — гаворыць Ява і зноў хукае.

Я ўяўляю сабе пахаванне, заплаканых аднавяскоўцаў, нашы партрэты ў чорных жалобных рамках — і ў носе шчыпле, як ад цыбулі.

— Але не можам жа мы дапусціць...— кажа Ява.— Гісторыя нам не даруе.

Мне хочацца сказаць, што гісторыі мы з Явам да лямпачкі, у яе больш сур'ёзныя справы, але я не асмельваюся: дужа сур'ёзны твар у Явы.

— Ну, дык на ўсякі выпадак — бывай! — уздыхаю я.

— Бывай! — уздыхае Ява, і мы стрымана, па-вайсковаму абдымаемся. Мне ў носе шчыпле яшчэ болей.

Хаця дзверы адчынены і можна спакойна зайсці, мы лезем у акно — дзе вы бачылі, каб героі на небяспечную аперацыю хадзілі праз дзверы!

Таямнічая доўгая скрынка стаіць на стале.

Ява бярэ яе.

Адчыняе...

У скрынцы... сіні тэрмас, з вечка якога тырчыць шкляная трубачка, абкручаная марляй.

Ява, адставіўшы ўбок руку і адвярнуўшыся ад тэрмаса, ціха-ціха адкрывае вечка. Яшчэ трошкі, яшчэ...

— Асцярожна... Асцярожна... Асцяр... — заміраю я, адступаючы.

Ба-ббах-х!

Я гопаюся на падлогу і заплюшчваю вочы. Усё! Нас разарвала...

Але тады чаму я чую, што нешта дзюрчыць і булькае. Няўжо гэта на тым свеце дзюрчыць і булькае?

Я расплюшчваю адно вока, потым другое.

Я сяджу на падлозе ў мокрай лужыне. Насупраць мяне сядзіць скрыўлены, з заплюшча-

нымі вачамі Ява. У яго ў руках сіні тэрмас, з якога нешта льецца.

Каля мяне валяюцца чарапкі ад гладыша.

Ясна, адступаючы, я незнарок, выпадкова скінуў з прыпечка глечык. Вось табе й «бабах!»

— Ява! — гукаю я.— Адбой?

Ява ўмомант расплюшчвае вочы і падхопліваецца.

— Глядзі, тэрмас!

Але ўжо позна — амаль што палавіна вылілася. Дрыготкімі рукамі Ява закручвае вечка тэрмаса і ставіць яго на стол. А потым...

Вы бачылі калі-небудзь у кіно паскораную здымку, калі людзі рухаюцца з шалёнай, неверагоднай хуткасцю?

Дык вось, калі б нас з Явам хтосьці захацеў зняць у кіно з такой мэтай, дык ніякая б паскораная здымка не спатрэбілася б.

Мы, як мурашкі, мітусіліся на карачках па падлозе, ліхаманкава збіраючы чарапкі і выціраючы лужыны сваімі штанамі і сарочкамі. Пры гэтым мы раз-пораз стукаліся лбамі і іншымі, меней паважанымі часткамі цела... Праз хвіліну ўсё было чыста-чысцюсенька. І, куляй вылецеўшы з хаты Фарадзеевіча (на гэты раз праз дзверы), мы штосілы паджгалі па вуліцы.

## РАЗДЗЕЛ VI

**Выяўляецца, гэта глабулус!**
**Касмічныя мары Фарадзеевіча.**
**«Жыццё — заблытаная і складаная рэч!»**

— «Атамная бомба»! «На транзістарах»! Барахольшчык! — пхыкаю я.

— Маўчы! «Давай злезем»! «Ногі размяць»! Герой! — пхыкае Ява.

Нам дрэнна. На душы, як кажуць, каты шкрабаюць. Гэта ж трэба так даць маху з гэтай «бомбай». Ды яшчэ й разліць тое з тэрмаса. Думка пра шкоду не давала нам спакою.

Фарадзеевіч прыехаў надвячоркам, і ў той дзень мы так нічога і не даведаліся. Не, усё ж такі даведаліся. Што Фарадзеевіч дзякаваў Кныша за вялікую «паслугу». Выяўляецца, «спецзаданне» даваў ён і Кныш па яго просьбе прывёз з аэрадрома таямнічы сіні тэрмас.

На наступны дзень з самай раніцы мы пабеглі да хаты Фарадзеевіча. Там ужо было шмат юннатаў-старшакласнікаў, з якімі Фарадзеевіч сябраваў.

Мы прыбеглі ўчасна — Фарадзеевіч якраз выйшаў на ганак з сінім тэрмасам у руках. Яго адразу абступілі юннаты.

— Антон Фадзеевіч, ну, скажыце! Антон Фадзеевіч, ну, калі ласка! Антон Фадзеевіч, ну, хоць намякніце! — вымольвалі нецярплівыя дзяўчаты.

— Пацярпіце, таварышы-грамадзяне, пацярпіце! Пра ўсё на месцы дазнаецеся. На Высокім востраве.

І Фарадзеевіч, акружаны юннатамі, выйшаў на вуліцу.

Мы, вядома, таксама прысталі да грамады.

Але тут двухметровы здаравіла дзевяцікласнік Грышка Бардадзім спатыкнуўся аб нас і загудзеў, як з бочкі:

— Ану, кыш! Круцяцца пад нагамі. Не вашага розуму справа! Кыш!

І мазнуў сваімі граблямі мяне і Яву па патыліцы.

У-у, бегемот! Ну пачакай, мы вырасцем, мы табе дадзім!

І чаго яны так насы дзяруць, гэтыя старшакласнікі? Падумаеш, мудрацы! Таксама двойкі атрымліваюць!

А на Высокі востраў мы й самі дарогу знойдзем.

Мы прыплылі туды раней за іх. Недарэмна Ява быў унукам дзеда Варавы, а я — Явіным сябрам. Мы знали ў плаўнях такія вузенькія пратокі сярод чаратоў, якія рэдка хто ў вёсцы ведаў.

Высокі востраў — самы большы ў плаўнях. Высокім ён называўся таму, што ў яго высокія крутыя берагі. Пасярод вострава ёсць нават невялічкае азярцо, напалову зацягнутае рас-

кай і белымі лілеямі. Уласна, гэта не возера, а затока, аддзеленая ад плёса невялічкай грэбляй. Напрадвесні, калі была вялікая паводка, Фарадзеевіч для нечага загаціў пратоку, і цяпер узровень вады ў тым азярцы быў вышэйшы за ўзровень вады ў плаўнях.

Мы схавалі свой човен у чаратах, а самі прыселі ў кустах непадалёк ад азярца — не хацелася заводзіць сварку з тым Бардадзімам, пакуль мы яшчэ не выраслі.

На тым беразе азярца стаяла пабудова Бурмілы — гэта была яго паляўнічая база, альбо, як ён казаў, «прэзідэнцыя». Самога Бурмілы не відаць — або рыбу ловіць, або спіць пасля чаркі, або... Ды мы пра гэта ўжо не думаем (пасля «атамнай бомбы на транзістарах» неяк не думалася). Ужо чуваць пісклявыя галасы дзяўчат і ненатуральны (няйначай у яго ў роце галушка) Бардадзімаў бас.

Трое чоўнаў прыстала да вострава. Фарадзеевіч з тэрмасам у руках падыходзіць да азярца. Юннаты абступаюць яго.

Фарадзеевіч урачыста падымае тэрмас і пачынае (голас яго дрыжыць і перарываецца ад хвалявання — ён заўсёды хвалюецца, калі расказвае пра якое-небудзь адкрыццё):

— Дык вось... дарагія таварышы-грамадзяне, вось... тут... унутры... прыляцела да нас... знаеце адкуль... З Сахаліна. Так-так... сотні і

сотні, як бачыце, кіламетраў. А наперадзе яшчэ мільёны ці нават мільярды мільярдаў кіламетраў... Ведаеце, што тут? Тут... тут... таварышы-грамадзяне... будучая ежа касманаўтаў... зоркавых нябесных жыхароў будучых... Вось яно што! Вы, напэўна, чулі пра цудадзейную водарасць — хларэлу... Га? Дык вось... у гэтым тэрмасе — новы від гэтай водарасці. Глабулус! Магчыма, яшчэ лепшы за хларэлу... Мой сахалінскі сябар вывеў у лабараторыі... І прыслаў, каб мы... тое самае... прадоўжылі працу. Вырасцілі глабулус у прыродных умовах. Праверылі, як ён акліматызуецца і будзе расці. Разумееце, якая адказнасць! Магчыма, уявіце сабе, касманаўты калі-небудзь будуць частаваць нашым глабулусам марсіян ці іншых якіх гаўрыкаў.

Мы з Явам слухалі не дыхаючы.

— Чуеш, ежа астраномаў, а мы...— шапчу я перасмяглымі вуснамі.

— Касманаўтаў! Астраномы — тыя, што ў трубу залазяць. Тыя сала і варэнікі ядзяць, як і мы з табою.

— Ведаю!.. Гэта я так... Які разумны! — шапчу я. І ўяўляю сабе:

...Агромністая ракета на старце... Касманаўты, якія заходзяць у ракету, людзі каля падножжа ракеты. Яны адразу расступаюцца, прапускаючы аўтавазок, на якім штабелі кар-

донных скрынак. На кардонках вялікімі літарамі напісана: «Глабулус», «Прывітанне з Васюкоўкі», «Глабулус «Васюкоўскі»...

А тады — Марс... У празрыстым шлеме, у скафандры стаіць касманаўт на фоне фантастычнага марсіянскага пейзажу, акружаны марсіянамі, і частуе іх глабулусам, выціскаючы яго з цюбіка, як зубную пасту. Марсіяне каштуюць, цмокаюць ад задавальнення і паказваюць вялікі палец — во!

Толькі — чым жа будуць частаваць, што ж будуць есці бедныя касманаўты, калі мы з Явам, як на тое ліха, перавярнулі гэты тэрмас?

— Глабулус — аднаклетачная мікраскапічная водарасць,— захоплена гаворыць Фарадзеевіч,— і няўзброеным вокам вы яго, вядома, не пабачыце...

«Ой, здаецца, і ўзброеным таксама...» — трымціць маё сэрца.

— Сягоння мы яго, так сказаць, пасеем, потым пачнём падкормліваць... Ён пачне хутка размнажацца, і тады вы пабачыце...

«Пабачыце-пабачыце... калі будзе што сеяць... Ой, бяда, навошта мы палезлі, навошта чапалі гэты тэрмас?»

Зараз Фарадзеевіч адкруціць вечка і... I будзе жахлівы «пшык», як гаворыць дзед Салівон. Тая драбіна Бардадзім першы захіхікае — я яго ведаю.

І каго, каго мы падводзім! Чалавека, перад якім мы («гангстэры!») нямеем ад захаплення і робімся паслухмянымі, як авечкі, чалавека, які, калі запытаць: «Каго ты болей за ўсіх любіш?», стаіць у нас на трэцім прызавым месцы (пасля мамы і таты), а часам выходзіць на другое і нават першае (калі тата: «Ану, скідай штаны, гультаіна!», а мама: «Вось пачакай-пачакай, я табе вушы паабдзіраю!»). Праўда, наша любоў была платанічнай, схаванай ад чужых вачэй; Фарадзеевіч пра яе, магчыма, нават не здагадваўся, бо справу меў найчасцей з тымі бардадзімскімі старшакласнікамі, якія нас («Акыш, маляўкі!») на гарматны стрэл да яго не падпускалі. Але тым больш...

Фарадзеевіч адкручвае вечка і ўрачыста гаворыць:

— Увага, таварышы-грамадзяне, вы-лі...

Мы з Явам маланкава пераглянуліся:

— Гой!

— Вой!

Спачатку з кустоў вылецела наша войканне, а за ім — мы.

— Стойце! Не ліце!

Вы памятаеце, у спектаклі «Рэвізор» Гогаля ёсць у канцы нямая сцэна, калі ўсе застываюць у розных позах з разяўленымі ратамі. Дык вось, зусім такая ж сцэна паўтарылася і

зараз. На нейкае імгненне, вядома. Першы апамятаўся Фарадзеевіч.

— Што? — здзіўлена запытаў ён.

— Мы...— сказаў Ява і глянуў на мяне.

— Мы...— сказаў я і глянуў на Бардадзіма.

— Мы...— паўтарыў Ява і таксама глянуў на Бардадзіма.— Мы... толькі вам можам... па сакрэту...

Фарадзеевіч усміхнуўся.

— Па сакрэту дык па сакрэту. Я люблю сакрэты.

Ён адышоўся з намі ўбок і схіліўся, наставіўшы вуха. І мы, перабіваючы адзін аднаго, шэптам расказалі ў тое вуха чыста ўсё. У канцы Ява сказаў:

— А цяпер скажыце ўсім... Няхай нам надаюць... па заходнім паўшар'і... Мы згодны.

Фарадзеевіч неяк дзіўна скрывіўся і працягнуў:

— Вунь яно што... Добра...

Потым рашуча накіраваўся да юннатаў. Мы, заклаўшы рукі за спіну, як арыштанты, папляліся за ім.

— Дык вось, таварышы-грамадзяне,— сказаў Фарадзеевіч.— Гэтыя маладыя людзі (мы апусцілі галовы) прапануюць спачатку добра ўзмацніць грэблю, ачысціць плёс, а тады ўжо...

Мы ўстрапянуліся, не верачы сваім вушам. Фарадзеевіч нахіліўся і шапнуў:

— Думаю, таго, што засталося, хопіць...

Потым выпрастаўся і голасна прамовіў:

— Правільна яны прапануюць, га?

— Правільна! Правільна!

— Ачысціць! Вядома! — пачуліся галасы.

— Сакрэт,— праз зубы працадзіў Грышка Бардадзім і ляснуў сваімі граблямі па патыліцы спачатку мяне, потым Яву.

А мы нават не адчулі. Мы пераглянуліся і засмяяліся.

А калі юннаты палезлі ўмацоўваць грэблю і ачышчаць азярцо ад раскі, мы з такім азартам узяліся дапамагаць, што вада ажно завірылася, закіпела навокал. Раз-пораз мы кідалі на Фарадзеевіча палкія ад захаплення позіркі. Вось гэта чалавек! Вось чалавек! Калі б ён нам сказаў цяпер: «Піце, хлопцы, возера!» — далібог, выхлебталі б усё да дна.

Неўзабаве возера было чыстае — ні расачкі. Усе вылезлі на бераг.

Фарадзеевіч нахіляе тэрмас, і тоненькім струменьчыкам ільецца ў возера празрыстая вадкасць (якая, выяўляецца потым, была «спажыўным асяроддзем» глабулуса). Ільецца і дзюрчыць. Ільецца і дзюрчыць. Гэтае дзюрчанне здалося нам чароўнай музыкай.

— Скажыце, калі ласка,— нясмела пытае Ява,— а які ён будзе? Калі прыжывецца?

— Які? Бачыце гэты плёс? Ён будзе смарагдавым, як... Як шоўк. Уяўляеце?

Мы заківалі галовамі, хоць я, па праўдзе кажучы, не вельмі гэта ўяўляў.

— А які ён на смак? — пачуўся за намі голас Бурмілы (мы яшчэ раней заўважылі яго ўскудлачаную галаву, якая выглядвала з «прэзідэнцыі», але нам не да яго было).

— Як вам сказаць,— павярнуўся да Бурмілы Фарадзеевіч.— Асабіста я не каштаваў. Але думаю, што падобнае на салату...

— На салату... Скажыце! Выходзіць, пад «Сталічную» ў самы раз. Люблю салацікі... Дасце хоць пакаштаваць з першага ўраджаю?

І ён хрыпла зарагатаў.

— А чаму ж, калі ласка,— так шчыра і сардэчна адказаў Фарадзеевіч, што Бурміла адразу зніякавеў.

— Ды не, я жартую... Гэта я так, пасмяяцца. Дзеля жарту.

Мне нават здалося, што ён пачырванеў. Я глянуў на яго і падумаў: «Няўжо гэта шпіён? Жывы шпіён? Цьфу! Нейкі зусім не падобны. Ні ў якім кінафільме не было шпіёнаў, якія б чырванелі. Ні ў адной кнізе дэтэктыўнай...» Але Яву я нічога не сказаў, не адважыўся.

...У той дзень у вёсцы толькі й гаворкі было, што пра глабулус.

Куды ні ткнешся:

— Чулі? Фарадзеевіч з вучнямі водарасць на Высокім востраве вырошчвае. Асаблівую нейкую.

— Кажуць, карысная — жах! Вітамінаў шмат. Адны вітаміны.

— А ты што думаў — касманаўтаў трэба макухай карміць?

— А ўжо ж, для іх найлепшае прыдумаюць.

— Там вітамін на вітаміне сядзіць і вітамінам паганяе.

— А па-мойму, найболей вітамінаў — у гарэлцы.

— Кажуць, сам Паповіч прыедзе паглядзець на гэты «глабулус».

— ...а як нанач ім памазацца — дык на дваццаць гадоў памаладзееш.

— Усміхацца трэба часцей — тады памаладзееш.

І наогул, гавораць, дужа спажыўная. Усе сто працэнтаў арганізм засвойвае, адыходаў ні на капейку няма.

Сказаў сваё слова пра глабулус, вядома, і мой тата. Я нават не сумняваўся, што ён скажа. Мой тата — страшэнны «любіцель прэсы», як ён сам гаворыць. Без газеты і часопіса я яго, здаецца, ніколі й не бачыў. Есць — чытае, ідзе куды — чытае, тэлевізар глядзіць — таксама чытае. Так з газетаю ў руках і засынае.

І штодня за вячэрай ён праводзіць для нас з мамай палітінфармацыю — расказвае, што цікавага прачытаў за дзень. От жа ад яго я даведаўся пра гітлераўскія архівы на дне азёр у Аўстрыі і Чэхаславакіі, і пра шпіёнаў з аквалангамі, і пра ўсё іншае. Столькі цікавага, як мой тата, ніхто ў свеце, па-мойму, не ведае (хіба, можа, Сцёпа Карафолька). І гэты глабулус (ад хларэлы) быў для яго, як насенне.

— Гэтая хларэла, разумееш, цуд прыроды! Гэта ж, разумееш, унікальная рэч! Такая, разумееш, малюпасенькая, і не ўбачыш, а вялікія справы робіць. Гэта ж не толькі ежа для будучых касманаўтаў, астранаўтаў, гэта ж, разумееш, і вада, і паветра... Вось у мінулым годзе ў «Известиях» пісалі пра унікальны эксперымент савецкіх вучоных у Сібіры, калі цэлы, разумееш, месяц лабарантка Галя М. правяла ў гермакабіне, дзе паветра ўвесь час абнаўляла «аранжарэя» хларэлы — паглынала, разумееш, вуглекіслы газ і ў працэсе фотасінтэзу ператварала яго ў кісларод. Такі ж, разумееш, кругазварот праз культыватар хларэлы, праўда, з дзе-якой дадатнай ачысткай, рабіла і вада.

Тут я татаў расказ вымушаны перапыніць, бо далей, нягледзячы на яго «разумееш», нічога не ўцяміў: нават мама толькі вачамі лыпала і чмыхала.

Зразумеў я толькі адно: хларэла — гэта рэч! Без яе да іншых планет няма чаго й рыпацца.

А раз хларэла — рэч, дык глабулус — тым больш, бо ён «за хларэлу, мабыць, яшчэ лепшы».

Адным словам, справа, якую робіць Фарадзеевіч з юннатамі-старшакласнікамі, мае сусветнае значэнне.

І яшчэ я зразумеў, што нічога ў гэтай справе не разумею. Нічагусенькі. Як карова. Зразумеў, што на адным жаданні, на гэтым: «Мы ўсё-такі хлопцы будзь здароў! Арлы! Сокалы! Гангстэры, а не хлопцы!» — далёка ў космас не заляціш. А каб нешта цяміць, трэба вучыцца, вучыцца і вучыцца. І тут я ўспомніў, што праз некалькі дзён — кантрольная, пра якую я праз гэтыя шпіёнскія справы зусім забыўся.

Эх, настаўнікі-настаўнікі! Хіба яны разумеюць што-небудзь у шпіёнах, у героях? Хіба яны разумеюць, як хочацца злавіць сапраўднага шпіёна і стаць героем? Каб пра цябе пісалі ў газетах, перадавалі па радыё ці нават па тэлевізары. Хіба яны разумеюць!

І не адменяць яны з-за шпіёна кантрольную, не, не адкладуць. Хоць ім сто шпіёнаў дай — не адменяць нізашто. Эх, настаўнікі-настаўнікі.

І так мне зрабілася адзінока, сумна, што

калі б я быў ваўком, то сеў бы пасярод хаты і завыў. Але я быў не воўк, а пяцікласнік. А пяцікласнікам выць нельга. «Непедагагічна», як кажа Галіна Сідараўна.

І я цяжка-цяжка ўздыхаю.

## РАЗДЗЕЛ VII

### Кантрольная. Дзе Ява? Што з ім?.. Заданне на лета

Хвалявацца я пачаў яшчэ, мабыць, у сне. Бо калі прачнуўся, то, яшчэ вочы не расплюшчыўшы, адчуў, як холад сціскае сэрца, а яно то шалёна б'ецца-б'ецца, то замірае, нежывое, а ў гэты момант праз спіну ад патыліцы да пятак бягуць-бягуць сцюдзёныя бурбалкі — як быццам хтосьці аблівае мяне халоднай газіроўкай — і па ўсім целе гусіная скура.

Я пачаў панікаваць ужо некалькі дзён назад. Але Ява смяяўся і нукаў. Нібыта не кантрольная нас чакае, а навагодняе свята.

— Ну! Не дрэйфі, Паўлуша! Трымай хвост абаранкам! Мы ж з табою не нейкія там двоечнікі-парушальнікі. Мы здольныя хлопцы. Сама Галіна Сідараўна сказала. І чацвёркі і пяцёркі атрымлівалі. А калі двойкі — дык больш за выбрыкі розныя. Не дрэйфі!

Млявы, ледзь рухаючыся (рукі задзервяне-

лі — так бывае, калі стукнешся аб нешта цвёрдае локцем), я падымаюся з ложка, апранаю новую сарочку. Выпіваю паўшклянкі малака і плятуся — яшчэ ёсць час — да Явы.

— Ява! — клічу праз плот.

Ён не адказвае.

«Няўжо гэта ў мяне няма сілы крыкнуць?»

— Ява! — клічу, як кажуць, на поўную катушку. Не адказвае.

Заходжу ў двор. Зазіраю ў хату. Потым у садок, гарод. Явы нідзе няма. І наогул нікога. Дзед Варава, мабыць, павёў Ярынку, сястрычку Явы, у дзіцячы садзік. А дзе ж Ява? Няўжо пайшоў у школу? Без мяне? Не можа быць?

— Ява! Ява! Ява! Ява! Ява!...

Наклікаўшыся да хрыпаты і зазірнуўшы ва ўсе самыя глухія закуткі, я пабег у школу.

«Можа, ён думае, што я сплю, вырашыў разведаць абстаноўку — яшчэ ж рана». Але і каля школы Явы не было. Усе былі, увесь клас (вось табе і рана!), усе, акрамя Явы.

Я кінуўся назад.

Я бегаў па вёсцы. Зігзагамі. З аднаго канца ў другі.

— Яву не бачылі? Не бачылі Яву? Ява Рэнь тут не праходзіў? — безнадзейна пытаўся я ва ўсіх, каго сустракаў.

Але ніхто не бачыў, ніхто.

Я выцягваў шыю, зазіраючы праз платы і

парканы, і мне здавалася, што яна стала доўгай, як у гусака.

Я падбег да школы тады, калі баба Маруся ўжо хадзіла па падворку і калаціла званком і, нібыта не давяраючы яму, крычала:

— Званок! Званок!

Я кінуўся да яе:

— Ой, бабуся! Ой, не званіце яшчэ хвіліначку! Не званіце! Явы няма! Адну хвіліначку толькі!

Баба Маруся сумна паківала галавой і неяк вінавата сказала:

— Не магу, родненькі! Пазваніла ўжо. Позна. Каб раней, сыночак. Дзе ж гэта ён гойсае? Вось бяда! Ну, бяжы ў клас, а то і ты не паспееш.

Давялося ісці.

Заходзіць Галіна Сідараўна і абводзіць вачамі клас. Насуплівае бровы, пытае:

— А дзе Рэнь?

Я падхопліваюся з месца:

— Няма нешта... Не ведаю... Усю вёску аблётаў...

Галіна Сідараўна толькі мацней насуплівае бровы.

Урок пачынаецца. Я пішу механічна, нават не думаючы, што пішу. І мне зусім не страшна, я зусім не думаю пра кантрольную. Я думаю пра Яву. Дзе ён? Што з ім? Гэта проста не

ўмяшчаецца ў галаве! Нешта здарылася... Можа, штосьці непапраўнае?.. Але — што? Што? Учора ж мы бачыліся, і ўсё было ў парадку. Разышліся позна ўвечары, калі трэба было спаць. Дамовіліся, што я раніцай зайду. «Можа, ён ужо нежывы?» — халадзею я.

— Цяпер уважліва праверце і здавайце,— ласкава-ласкава, як ніколі, кажа Галіна Сідараўна і ўсміхаецца нам, падбадзёрваючы.

Сапуць вучні, уткнуўшыся насамі ў кантрольную,— правяраюць. Аж пот на лбе выступіў ад напружання.

У мяне ў вачах літары скачуць рассыпаюцца ва ўсе бакі — не чытаецца. Не магу.

Вунь падхапіўся Карафолька, панёс. Першы. Выскачка!

Вунь ужо і Мацієўскі, і Грабянючка панеслі. А я яшчэ і да палавіны не дапоўз.

І раптам — дзверы расчыніліся і ў клас уляцеў Ява.

Я ажно падскочыў: жывы!

Жывы-то жывы, але — ну і ну! — які ў яго выгляд! Задыханы, брудны, мокры, у твані з галавы да ног.

Услед за ім у клас укаціўся такі ж запэцканы Сабакевіч.

Галіна Сідараўна адступіла назад і ледзь не ўпала.

— Што гэта значыць?

Ява маўчаў, апусціўшы галаву. І Сабакевіч не гаўкнуў, як у мінулы раз, не загырчаў нават, а падцяў хвост і схаваўся за Яву.

— У цябе нешта здарылася?! Што адбылося? Дома?

Ява маўчаў.

— Дзе ты быў?

Ява нарэшце растуліў вусны:

— У плаўнях.

— Што?!. У плаўнях? Што ты там рабіў?

Ява апусціў галаву яшчэ ніжэй і ціха сказаў:

— Лавіў рыбу.

Мне здалося, што ўнутры ў Галіны Сідараўны адбыўся выбух. І па ўсім класе разляцеліся асколкі.

— Што?!. Што?!. Ты пайшоў лавіць рыбу?! Ну... ну, ведаеш, гэта ўжо занадта! За-над-та! Гэта проста... проста абурае! Дык вось — пісаць кантрольную будзеш восенню! Як двоечнік! Май на ўвазе, што ты атрымаў двойку! Будзеш цяпер цэлае лета рыхтавацца.

Яшчэ нейкае імгненне Ява стаяў, не верачы ў тое, што адбылося. Потым крутнуўся на месцы і як ашпараны выбег з класа. Верны Сабакевіч — за ім.

— Хто здаў работу, можа ісці,— ледзяным голасам сказала Галіна Сідараўна. Але нават

калі б яна не сказала гэта — я не застаўся б у класе.

Не думаючы нават дачытваць дыктант, я кінуў яго на стол і выскачыў за дзверы.

Аднак Яву я ўжо не ўбачыў. Я памкнуўся ў адзін бок, у другі — Ява знік.

І зноў я бегаў па вёсцы, выцягнуўшы шыю, і зазіраў ва ўсе куткі. Але дарэмна. Явы не было.

І вы не думайце — я шукаў яго не для таго, каб спачуваць (хіба супакоіш чалавека ў такі час!). Я толькі хацеў, каб ён бачыў, каб ён ведаў, што я падзяляю яго гора і здольны дзеля яго на ўсё. Я ні слова не сказаў бы яму, толькі падняў бы вочы, і ён бы ўсё зразумеў.

І яшчэ — я ламаў галаву: што ж здарылася? Чаго ён апынуўся ў плаўнях? Гэта лухта, што ён лавіў рыбу — ніколі ў жыцці! Ён ніколі не пайшоў бы туды без мяне. Не паверу, хоць зарэжце! Мабыць, гэта звязана са шпіёнскімі справамі. Але калі ён паспеў? Пайшоў вечарам? Без мяне? Нічога не разумею.

Доўга я блукаў па вёсцы. І да рэчкі хадзіў, і на выган, і на могілкі нават зазірнуў (мы там калісьці вераб'ёў лавілі).

Потым падумаў: «Можа, ён ужо дома — абед хутка». Падышоў, выглядаю з-за плота асцярожненька (не хочацца дзеду на вочы трапіць, каб не распытваў). Не відно нешта Явы.

Па суседству, за высокім парканам — сядзіба Кныша. Ды і сам ён вунь — сядзіць на даху новай, не дабудаванай яшчэ хаты, кладзе чарапіцу.

Выйшаў на вуліцу дзед Варава — з вядром, да калодзежа.

Пабачыў Кныш дзеда Вараву, гучна павітаўся з вышыні:

— Добры дзень, дзеду!

— Здароў! — буркнуў нявесела дзед.

Тады Кныш неспадзявана, з наўмысным спачуваннем:

— Я чуў, што ў вас непрыемнасць вялікая. Хлопчык ваш дыктант у школе праваліў. Адзін на ўсю вёску... Вось, яй-бо!

Сярдзіта маўчыць дзед Варава. Моўчкі выцягвае з калодзежа вядро.

Кныш нязручна павярнуўся, седзячы на чарапіцы, і ледзь не паехаў па даху ўніз.

Я з нянавісцю гляджу на яго і, сашчапіўшы зубы, паўтараю ў думках: «Упадзі! Упадзі! Упадзі!»

Дзед Варава моўчкі выслухаў Кныша, выцягнуў вядро і, не прамовіўшы ні слова, патэпаў у хату.

Кныш пачаў усаджвацца лацвей і раптам паслізнуўся, сарваўся, прагрукацеў па даху і — гоп! — на зямлю. Нібы падзейнічала маё закляцце.

Я радасна загігікаў.

Кныш, крэкчучы, падняўся.

У гэты час з хаты (старой, што каля новай) выйшла Кнышыха.

— О, ты ўжо злез? — спакойна запытала.

— Злез, злез! Каб ты ўсё жыццё так злазіла! — сярдзіта прахрыпеў Кныш, паціраючы пабітае месца.

Тут мяне ўбачыла маці і паклікала абедаць.

Пасля абеду да саменькага змяркання я хадзіў па вёсцы як сам не свой. Месца сабе не знаходзіў.

Апусціўся на зямлю сіні вечар. Засвяціліся ў хатках вокны, прабіваючы чорны змрок садоў. Сеў я пад Явіным плотам і вырашыў — хоць да раніцы буду сядзець, а дачакаюся. Каб было мякчэй — сена ў суседзяў цераз дарогу з капіцы наскуб. Толькі добранька ўмасціўся — зірк, Ява. Паволі-паволі, як прывід, сунецца.

Падхапіўся я, сарваўся з месца, хацеў да яго кінуцца, ды адразу і спыніўся. Успомніў — не да мяне яму цяпер, перад адказнай «сяброўскай» сустрэчай з дзедам. Не паклікаў я яго, нават не варухнуўся, каб не паказаць, што я тут.

Схіліўшы сваю грэшную галаву, важка ступіў Ява на ганак. Зарыпеў дзвярамі. Знік.

А я гляджу на асветленае акно хаты затаіўшы дыханне. Мільгацяць у акне цені, чуваць гнеўны голас дзеда Варавы — усё гэта сведчыць пра тое, што «сяброўская» сустрэча пачалася адразу з ліку адзін-нуль не на карысць Явы.

І пры кожным гуку, пры кожным руху ценяў уздрыгваю я, нібыта са мною праводзіць «матч» дзед Варава.

## РАЗДЗЕЛ VIII

**Што здарылася з Явам. «Не паеду я...». «Дзяцей б'юць толькі імперыялісты...»**

Ранак быў сонечны і бліскучы, як новыя чаравікі.

Не ранак, а песня звонкая піянерская.

Але сэрца маё не спявала, не. Прачнуўшыся, я адразу ўспомніў пра Яву.

Я падхапіўся і як ашпараны кінуўся да яго — як жа ён там, як?

Праскочыў гарод і спыніўся каля крывой грушыны.

Ява сядзеў на прызбе і рэзаў бульбу і буракі для свінні. Я разгубіўся. Я не пазнаў яго. Хіба гэта ён, геройскі Ява, той, хто першы сярод хлопцаў скочыў у рэчку з саменькага вяршка старой вярбы? Той, хто выпусціў у клубе

4 Зак. 1437

на лекцыі савяня! Хто павесіў дзедавы споднікі на тэлевізійную антэну? Не, гэта не ён!

О людзі! Што вы зрабілі з маім сябрам!

І тут я ўспомніў пра сваю чацвёрку. Чацвёрку за кантрольную. І мне зрабілася так прыкра, нібыта я здраднік. О, я многае цяпер аддаў бы за тое, каб у мяне была тройка (я не кажу ўжо пра адзінку ці двойку). Мне было б лягчэй! Як бы добра я тады адчуваў сябе перад Явам! Між намі не было б такой прорвы.

Я падступіўся бліжэй да Явы.

— Здароў, Ява! — ціха прывітаўся.

— Здароў! — гэтак жа ціха адказаў ён, не падымаючы галавы.

— Ды плюнь ты, Ява! Плюнь, я табе кажу! Ну, падумаеш — работа на лета. Дробязі. Вось у князя Уладзіміра ў дзяцінстве, кажуць, таксама былі двойкі. Па гісторыі... А які яму помнік на Уладзімірскай горцы ў Кіеве паставілі!

— Не мані. Не было ў яго двоек.

— Было, было,— ажывіўся я, радуючыся, што Ява адказаў на мой жарт.— А калі не было, дык магло быць. Падумаеш! А ў Пушкіна точна здаралася. Ён жа такое вырабляў!

Я гаварыў і ўважліва сачыў — усміхнецца Ява ці не. Я замаўчаў. Памаўчаў трохі, потым ціха запытаў:

— Дык як жа яно так атрымалася?

Ён толькі махнуў рукою.

— Не пытайся.

— Ды што ж?

Ён уздыхнуў.

— Яшчэ трохі — і ад мяне толькі бурбалкі на вадзе засталіся б...

— Ды ну! Раскажы!

Ён зноў уздыхнуў.

— Дык вось выскачыў я з хаты пад ранічку — на хвілінку... У бур'ян. Яшчэ толькі шарэць пачынала. Сонны, як муха, выскачыў. Працэнтаў на дзевяноста яшчэ спаў. Толькі адно вока трохі расплюшчыў, каб не зачапіцца за што. Стаў у бур'яне і нават вока заплюшчыў — сплю... І тут чую галасы — за парканам у Кнышоў. Прыглушаныя... Сон адразу — як рукою. «Ты ж толькі глядзі мне, каб ніхто не бачыў...» Гэта яна, Кнышыха. А ён: «Не вучы вучонага...» А яна: «Вучоны! А потым перадачы насі, ага?» А ён: «Ну, не баба, а чорт ведае што! Турма народаў!» А яна: «Маўчы, пусцяльга! Калі б не я...» А ён: «Нічога-нічога. Я свайго дачакаюся! Пабачыш, які я пусцяльга!» А яна: «Ідзі ўжо! Разбалбатаўся! Суседзяў збудзіш». І — ррып! Гэта ён за фортку выйшаў. Бачу — ідзе па вуліцы. Азіраецца, як злодзей. На плячы вясло, мяшок з нечым, у руцэ серп, як шабля, паблісквае. Разгубіўся я: што рабіць? Куды гэта ён? Але зразумела — па нейкай сваёй шпіёнскай справе! Па цябе

бегчы — не паспею. Вунь ён ужо дзе. А школа? Ну, думаю, яшчэ толькі гадзіны чатыры — паспею. Не даруе мне айчына, калі я такую справу праваронію. Можа, ён зараз нейкае дзяржаўнае злачынства будзе рабіць. Недарэмна ж яго Кнышыха турмою, перадачамі палохала. А я пра ўласную скуру дбаю. Не, трэба ісці. Схапіў вясло, вудачкі (для канспірацыі) — і за ім. А тут з-пад ганка Сабакевіч выскачыў. Я спачатку прагнаць яго хацеў, а потым думаю: няхай, сабака ў такіх справах заўсёды можа спатрэбіцца. Узяў яго з сабою. На беразе пачакалі ў карчах, пакуль Кныш адплыў, а тады і мы следам. Вось тут мне і не пашчасціла. Як назло, усе добрыя чоўны дзед на бераг павыцягваў — учора смаліў. На вадзе была толькі тая гнілая пласкадонка, з якой мы падводную лодку зрабіць хацелі. Не было калі мне — я на тую пласкадонку, Сабакевіч за мной і — гайда! Плыву ціха, асцярожна і ўвесь час пільную: і каб Кныша не згубіць, і каб ён мяне не прыкмеціў (за чаратамі хаваюся). Заўважаю — плывём мы ў бок Высокага вострава. Далёка ўжо ў плаўні забраліся. Ажно раптам бульк — на́ табе! Прыгледзеўся, у чоўне, якраз на сярэдзіне днішча — дзюрка (руку можна прасунуць), і вада адтуль свішча, аж булькае. Як з той трубы, што ў арыфметычных задачах, памятаеш — «з адной трубы ўліваецца, а з другой вы-

ліваецца». Тая розніца, што ў мяне толькі ўліваецца... Ой-ой-ой! Праз хвіліны дзве будзе поўны човен і... Да вёскі плысці позна. Дый лотаць там такая і трава, ты ж ведаеш — умомант рукі і ногі аблытае, і ідзі сабе на корм ракам. Ну, ды пра сябе я не думаў. Сабакевіча шкада: булькне сабачка — і анігадкі! Сядзіць ён на носе мокры, дрыжыць усім целам і пазірае на мяне жаласліва. Гэта ж ён вінаваты. Дзюрка была заткнутая нейкай анучай. А Сабакевіч смыкаў яе, смыкаў і выцягнуў — дагуляўся. Я бачыў, як ён яе шматаў, але не падумаў... Што тут казаць, позна я схамянуўся. Махаю вяслом, аж хэкаю. Пра Кныша ўжо не думаю, трэба ратаваць Сабакевіча, прыставаць да якога-небудзь вострава. А навокал чарот толькі, зямлі не відна. А вада ўсё прыбывае і прыбывае, ужо лыткі мне халодзіць. Я галавою ва ўсе бакі кручу — сушу-зямлю шукаю. Нарэшце заўважыў нейкі астравок і з усіх сіл да яго. Ледзьве паспеў. Ад майго чоўна над вадою засталося толькі сантыметры два: такая сабе «рамачка» плыла — усярэдзіне вада, навокал вада, узровень аднолькавы. І я ў гэтай «рамачцы», як партрэт. Яшчэ трошкі — і быў бы гэты партрэт у чорнай рамачцы... Схапіў я Сабакевіча на рукі — і на бераг.

Уласна, берага не было. Адразу ж па пуп угразнуў. І адразу мне той ставок успомніўся,

у якім мы ад Кантрыбуцыі ратаваліся. Такая ж твань. Ні дрэўца на востраве, ні кусціка. Нават сушы сапраўднай няма. Адна гразь. Ну, ды выбіраць не прыходзілася. Дзякуй і таму, што ёсць. Жыць на ім я не збіраўся. Мне толькі човен трэба выцягнуць і дзюрку заткнуць. Можа, яшчэ, думаю, і за Кнышом паспею. Пасадзіў Сабакевіча на самую сухую лапіну і — за работу. Схапіў човен за нос, пачаў цягнуць. Ого-го! Вочы вылазяць. Жылы вось-вось палопаюцца. А човен — нібыта яго цвікамі да дна прыбілі — ні з месца.

Зайшоў я з кармы — пачаў пхаць. Куды там! Ногі па мулкім дне коўзаюцца. Я раз-пораз з галавой у ваду — і толькі.

Біўся-біўся, стараўся-стараўся, вады ўжо паўвядра накаўтаўся, а толку няма. І такое мяне зло ўзяло — сеў я проста ў ваду і ледзь не заплакаў. Ты ж мяне ведаеш, я ніколі не плачу, а тут слёзы самі коцяцца.

Вось у нерат ускочыў. Ну!

Тады плюнуў, падхапіўся і зноў — пхаю і цягну.

Сонца ўжо даўно ўзышло, свеціць на поўную катушку, а я, нібы той жук, у брудзе боўтаюся. Зусім з сілы выбіўся.

Гэта ж колькі ўжо часу прайшло, думаю. Урокі ўжо, можа, хутка. Ну, ды пра кантрольную я не думаю. Што мне кантрольная! Галоў-

нае — дзяржаўная справа... Я тут, у багне, як чарвяк, а той шпіёнішча, можа, ужо... А я ж мог яго высачыць. Мог жа! Не даруе мне айчына. І, скрыпнуўшы зубамі, я зноў бяруся за справу. Я і выліваць ваду з чоўна спрабаваў, думаеш, не! Ды дзе яе вyльеш, калі яна зноў адразу ж набіраецца. Гэта тое ж самае, што раку вычарпаць.

А сонца ўжо высока-высока ўгары. Гэта ж ты, думаю, ужо ўстаў, чаравікі паваксаваў, новую сарочку апрануў, гальштук завязаў.

Лупатае жабяня паблізу на лотаць села і крумкае — бы смяецца. Тут Сабакевіч на яго як гаўкне, яно толькі — шубоўсь у ваду. Сабакевіч мяне ўвесь час маральна падтрымліваў — гаўкаў, хвастом махаў. Мабыць, адчуваў, што праз яго я так мучаюся.

І раптам мне ў галаву ідэя стрэльнула. І чаго, скажы ты, гэтыя ідэі адразу ў галаву не страляюць!

Такая просценькая ідэя — заткнуць дзюрку, а потым ужо выбіраць ваду. Я ж, дурань, выбіраў не заткнуўшы.

Нарваў я жменю травы нейкай — якая толькі і расла на востраве,— намацаў дзюрку, заткнуў. Зноў пачаў выбіраць. О! Пайшла справа! Хоць не хутка, але пайшла. Сантыметр за сантыметрам барты чоўна з-пад вады вырастаюць. Ужо і на бераг цягнуць можна. Крэкчучы,

пацягнуў. Пацягнулася. Ёсць! Цяпер трэба човен нахіліць — ваду выліць, бо ўжо не выбіраецца. Ох і важка было. Нарэшце ваду выліў, дзюрку добра заткнуў. Сабакевіча ў човен, сам за вясло і ходу. Ох ужо і гроб — пырскі аж да неба ляцелі. Толькі ўвесь час на дзюрку паглядваў — ці не цячэ.

Сонца ўжо высока, а ўсё ж спадзяюся: можа, падманвае сонца, можа, не пачаліся яшчэ ўрокі? Па вёсцы бег, ажно сэрца выскоквала. Не падманула сонца...

Ява ўздыхнуў і замоўк.

Я пазіраў на яго з усім спачуваннем, на якое толькі быў здольны.

Вось якая неспадзяванка з ім атрымалася, што перавярнула ўсё яго жыццё дагары нагамі. І не раскажаш нікому, не паясніш! Бо нашы «шпіёнскія» справы патрабуюць абсалютнай канспірацыі. Калі міліцыянер таварыш Палянічка не паверыў нам, дык хто ж паверыць! У нас быў адзін выхад — знайсці найперш доказы, факты, злавіць за руку. І Ява, бедалага, змушаны быў усім, і ў школе, і дома, сказаць адно — што пайшоў замест урокаў лавіць рыбу. І панёс за гэта кару.

— Ну, а ў цябе як? — запытаў Ява, не пазіраючы на мяне.

Эх, лепш бы ён не пытаўся. Адчуваючы сябе так, быццам я нешта ўкраў у яго, і пазычыў-

шы ў сабакі вочы, прызнаўся пра тую няшчасную чацвёрку.

— Ну што ж, я рады за цябе. Віншую! — сказаў ён.— Гэта добра. Добры, значыць, у цябе настрой у лагеры будзе. Калі едзеш?

Ну навошта, навошта ён кроіць маё сэрца?! Мы ж разам марылі паехаць у піянерлагер да мора. У «Маладую гвардыю» ў Адэсу. З такімі цяжкасцямі бацькі даставалі нам пуцёўкі. Мы з Явам ніколі не былі на моры. Толькі ў кіно ды па тэлевізары бачылі. А як нам хацелася да мора! Сіняя далячынь, белыя караблі, чайкі, альбатросы лётаюць. «Курс норд-ост!» — крычыць капітан. У мінулым годзе мы двойчы ўцякалі да мора. І нас двойчы лавілі на станцыі.

І вось, калі мара была ў нашай кішэні, вось такое здарылася з Явам. Дзед Варава яшчэ ўчора занёс і здаў у школу пуцёўку. Давядзецца мне аднаму ехаць. Але хіба гэта тое! Хіба я сам адчую так усе марскія радасці, як бы мы адчулі іх разам з Явам? Дык навошта ж ён гаворыць?! Радасць, не раздзеленая з сябрам,— гэта не радасць, нават не паўрадасці, а нейкі мізэрны чацвяртак.

Толькі я хацеў яму гэта сказаць, як з гарода пачуўся сярдзіты голас дзеда Варавы:

— Свіння галодная. Нясі ўжо. Там языком паменціш. Двоечнік!

Ява ўздрыгнуў, стуліўся ўвесь, схапіў начоўкі.

А я паплёўся дахаты.

Бацька сядзеў за сталом і, як заўсёды, чытаў газету. Маці на машынцы страчыла матроску, даўно мне паабяцаную, спецыяльна для піянерскага лагера. Падняла галаву, лагодна ўсміхнулася (вельмі яе ўсцешыла мая чацвёрка, яна і не чакала). Пастаяў я трохі на парозе, тады падышоў да яе і, адчуваючы холад унутры (як тады, калі я ўпершыню скочыў з вярбіны ў рэчку), сказаў:

— Не трэба, мама... Не паеду я ў лагер.

Маці моўчкі здзіўлена падняла бровы.

— Што? — адклаў газету бацька.

— Не паеду я ў лагер,— яшчэ цішэй, але цвёрда паўтарыў я.

— Як гэта не паедзеш? Чаму? — запытала маці.

— Расхацелася...

— Гэта ён, разумееш, жартуе,— падміргнуў мне бацька.

— Нічога я не жартую. Не паеду. Точна.

— Можа, ты захварэў? — прыжмурыўся бацька.— Цэлы год, разумееш, галаву мне дурыў з тым лагерам, а цяпер, разумееш, калі пуцёўка ёсць,— конікі выкідваеш. Гэта ж такі, разумееш, лагер... Як Артэк. Дзеці, разумееш,

розных народаў... І ты з імі... дурань! Ніколі ж, разумееш, у жыцці не бачыў.

— Не выдумляй, сынок,— падхапілася маці.— Яшчэ і дакторка казала, што табе да мора трэба. Гланды ў цябе...

— Няма ў мяне ніякіх гландаў. Не паеду я.

— Паедзеш, паедзеш,— у голасе бацькі ўжо звінеў метал.

— Не паеду.

— Ты як, разумееш, з бацькам размаўляеш? Ой, глядзі, вазьму дзягу!

— Ну і бярыце. Толькі ў нас у краіне не б'юць дзяцей. Дзяцей б'юць толькі імперыялісты, падпальшчыкі вайны.

— Ты... ты... ты,— ускіпеў бацька і ўжо замахнуўся дзягай, але тут маці кінулася на абарону, абхапіла бацьку рукамі і, адштурхоўваючы, пачала цясніць яго ў іншы пакой. Выцягнуўшы шыю, бацька выглядваў з-за матчынай спіны і крычаў:

— Ну, цяпер, разумееш, ты такі не паедзеш! Вось! — і ён выхапіў з кішэні пуцёўку і пачаў ірваць.— Вось! Вось! Замест таго каб, разумееш, у моры хлюпацца, будзеш... будзеш... Гульні табе тут, разумееш, не будзе! Не будзе! Я табе пакажу, разумееш, характар паказваць! Малы яшчэ. У мяне таксама, разумееш, характар ёсць. Вось! Вось!

Не пуцёўку — маё сэрца ён ірваў на кавал-

кі. Белымі папяровымі кавалачкамі бязгучна падалі на падлогу сіняе мора, белыя караблі, чайкі і альбатросы.

Слёзы закіпалі ў маіх вачах.

— І няхай сабе! — крыкнуў я і як шалёны выскачыў з хаты.

...Я сядзеў у густым, непралазным бур'яне за клуняю і шморгаў носам. У носе свярбела і шчыпала, як пасля газіроўкі. А ў сэрцы была тая пустая халодная прорва, калі адчуваеш, што ўжо нічога не вярнуць. Ну і няхай! Не патрэбны мне вашыя караблі і альбатросы...

«Але ж ты сам гэтага хацеў?»

Так, сам. Вядома, сам. Але...

«Ці, можа, ты думаў, што цябе будуць упрошваць, на калені перад табой стануць, потым пабягуць да дзеда Варавы, пераканаюць яго, што з работай на лета можна ехаць у лагер, і вы з Явам спакойненька паедзеце? Ты гэта думаў?»

Не. Але...

Так, мабыць, адчувае сябе чалавек, які ідзе за свайго сябра нават на смерць. Складанае, але высакароднае пачуццё!

І дзеля Явы — я гатовы. Вы ж проста не ведаеце, што гэта за хлопец — Ява, як мы з ім пасябравалі.

Вось я раскажу вам...

## РАЗДЗЕЛ IX,

### у якім Паўлуша расказвае, як ён пасябраваў з Явам

Да чацвёртага класа я з ім не сябраваў.

Ён быў «урэдны».

Так мне здавалася.

Бо ён пры ўсіх мяне ў лужыну штурхнуў, калі я ягоную шапку на вярбу закінуў. А я быў у новенькіх штанах. Мне мама толькі раніцай іх у раймагу купіла. І тымі новенькімі штанамі я ў саменькую гразюку сеў. І Ганька Грабянючка так смяялася, так смяялася, што ў яе ажно булька з носа выскачыла.

Я сябраваў з Антосікам Мацыеўскім. Ён мяне малінай частаваў. У іхнім садзе было шмат маліны, а ў нашым не было. А маліна з малаком — вы ж ведаеце!

Я думаў, што буду сябраваць з Антосікам і есці маліну аж да старасці. Але...

Быў сонечны цёплы вераснёвы дзень. Мы сядзелі на баштане і з прыцмокваннем хрумалі кавуны.

Вы не былі на нашым баштане? О-о! Тады вы нічога не ведаеце. Такога гарода няма нідзе. Точна! Канца-краю не відаць. І кавуноў — тысячы, мільёны... І ўсе паласатыя. Як тыгры. Тысячы, мільёны тыграў. Я жывых бачыў у

цырку. У Кіеве. Але хіба там былі тыгры. Наш дзед Салівон — сторож — во гэта «тыгр!» Ох і б'ецца ж! Як улупіць сваёй кашчавай лапай па нагавіцах — два дні чухаешся. Ён чамусьці не любіў, калі мы самі бралі кавуны з баштана. Ён любіў, каб мы прасілі. А мы не любілі прасіць... Яны тады не такія смачныя.

Карацей, мы сядзелі на баштане і хрумалі кавуны. Дзеда не было. І блізка не відаць. Ён пайшоў у сельмаг па цыгарэты. Мы бачылі. І мы былі спакойныя. Ён там абавязкова сустрэне каго-небудзь са старых дружбакоў, дзеда Вараву напрыклад, і яны завядуць пра амерыканскіх агрэсараў ці рэваншыстаў да змяркання. Дзед Салівон цэлымі днямі слухаў на баштане транзістар «Атмасфера», што купіў у сельмагу, і яго проста распірала ад розных навін.

Дык вось, мы сядзелі і хрумалі. Ды ўжо і не хрумалі нават. Адзін толькі таўстун Рыгорка Сала хрумаў — той мог дзень і ноч есці. А мы ўсе сядзелі і цяжка дыхалі.

Во панаядаліся! Як кажуць, ад пуза. Далей есці ўжо няма сіл — няма куды.

Мы сядзелі пад вялізнаю гарою кавуноў — па іх заўтра прыедуць машыны.

І есці няможна, і кінуць гэты кавуновы рай сіл няма — калі яшчэ так пашчасціць, каб дзеда не было, ды і вывезуць іх заўтра!

Паглядзеў тады Сцёпа Карафолька на гару кавуноў і кажа:

— Здаравенная ўсё ж такі! Сапраўдная табе егіпецкая піраміда!

— Га? Што? Каго? — не ўцямілі мы. Сцёпу мы не любілі. Ён заўсёды нас падводзіў.

Бо заўсёды:

— А вось Сцёпа, бачыш...

— А чаму Сцёпа...

— А паглядзі на Сцёпу...

І — плясь! плясь! плясь!

«А каб табе, Сцёпа, чыр на носе выскачыў!» — думалася ў такія хвіліны.

Але дзе-калі мы прабачалі Сцёпу за тое, што, на нашу думку, ён багата чаго ведаў. Бо чытаў і ўдзень і ўначы. І быў для нас хадзячым даведнікам.

Вось і зараз.

— А... што гэта такое — егіпецкія піраміды? — злуючы, запытаў Рыгорка Сала.

— Не ведаеш, барахольшчык? Гэта такія грабніцы здаравенныя ў Егіпце. У іх егіпецкіх цароў-фараонаў хавалі. Шмат стагоддзяў таму. Да гэтага часу стаяць, як новенькія, і турысты з усіх краін ездзяць паглядзець на іх.

— Ага, гэта ў пятым класе праходзяць, я ў братавым падручніку бачыў,— пацвердзіў Антосік.

— А я па тэлевізары ў кіначасопісе,— сказаў Вася Дзяркач.

— Ну і што? — запытаў я.— А як жа гуляць?

— Як? Хм! — пагардліва хмыкнуў Сцёпа.— Выберам сярод нас фараона. Ён памрэ, і мы яго пахаваем. І піраміду зробім. З кавуноў.

— А што, гэта — во! — у Явы загарэліся вочы.— Цікава! Даём!

— Хлопцы! Ды вы што! Цьфу! — сказаў я.— На чорта нам у таго смярдзючага фараона гуляць! У мерцвяка! Вось табе весела — у пахаванне гуляць! Ха-ха!.. Давайце лепш у пагранічніка і шпіёна. Я згодны шпіёнам!

— Стары! Дамовіліся — усё!— рашуча сказаў Ява.— Давай палічым, хто фараон. Ну! Кацілася торба з высокага горба, а ў той торбе...

Я! Так і ведаў. Чула маё сэрца.

— Стары! Папраўдзе! — сказаў Сцёпа Карафолька. Гэта мы ад тых паляўнічых пераняплі «стары».

Я ўздыхнуў.

Мне заўсёды не шанцавала. У што б мы ні гулялі, мне заўсёды даводзілася быць то разбойнікам, то шпіёнам, то злодзеем, то фашыстам, то беляком. Карацей, ворагам. Я ўжо нават не памятаю, калі быў нашым, савецкім. Я так любіў нашых! А заўсёды быў ворагам.

— Стары! Нічога, не хвалюйся! Табе ў каханні пашанцуе! Точна! Ёсць такая прыкмета! — супакойваюць мяне хлопцы.— Вунь Грабянючка на цябе заглядваецца.

— Падавіцеся вы сваім каханнем. Пляваў я на гэтае каханне! Трыста гадоў! — з нянавісцю цадзіў я праз зубы і плёўся займаць свае варожыя пазіцыі.

Нават калі Сцёпа Карафолька толькі пачаў гаварыць пра тую егіпецкую піраміду, я ўжо не сумняваўся, што фараонам буду менавіта я. І не памыліўся.

— Ну, дык што рабіць?— сумна запытаў я.

— Значыць, так ,— хутка загаварыў Сцёпа.— Ты — слаўны, мужны, магутны егіпецкі фараон. Які хочаш выбірай: Хеопс... Тутанхамон... Гаменхатэп...

— Гаменхатэп,— раўнадушна сказаў я.

— Цудоўна. О вялікі і мудры фараон Гаменхатэп,— падняў рукі да сонца Сцёпа,— ты заваяваў шмат земляў, ты падначаліў шмат народаў, ты ўпісаў сваё імя ў гісторыю стагоддзяў Старажытнага свету. Але немінучая смерць падсцерагла цябе, і вось ты паміраеш. Плачце, рабы, вялікі Гаменхатэп памірае!

Хлопцы завылі, як шакалы.

— Ну, давай, давай лажыся і памірай,— пад акампанемент гэтага выцця сказаў Сцёпа Карафолька.

Я лёг.

— Развітвайся і...— махнуў рукой Сцёпа.

— Бывайце,— хмура сказаў я.— Не ўспамінайце ліхам. Прабачце, калі што не так. Кланяйцеся тату, маме, Галіне Сідараўне і ўсім нашым.

— Абыдзецца! Памірай, памірай хутчэй!— нецярпліва перабіў Сцёпа.

Я заплюшчыў вочы і гучна выдыхнуў паветра.

— О людзі! О народы! Вялікі Гаменхатэп сканаў! О гора-гора! — так адчайна завераешчаў Сцёпа, што мне зрабілася страшна і шкода самога сябе.

— Але імя яго будзе славіцца ў вяках! І піраміда вялікага Гаменхатэпа зберажэ для пакаленняў памяць пра яго. За работу, нікчэмныя рабы! За работу!

І хлопцы замітусіліся, абкладваючы мяне кавунамі. Праз некалькі хвілін я адчуў, што на грудзі мае навальваецца страшэнны цяжар і мне ўжо няма чым дыхаць.

— Гэй! — крыкнуў я.— Да́віце! Гэй! Так я праўда памру. Гэй!

— Цыц! — гаркнуў Сцёпа.— Не размаўляць. Мярцвяк, называецца! Забіваць трэба такіх мерцвякоў!

І паклаў мне кавун проста на рот. Я толькі хакнуў.

— Э не, хлопцы, так ён і сапраўды памрэ,— чую раптам голас Явы.— Так нельга.

І кавун з майго твару адкаціўся.

— А што ж? А як жа тады? Не атрымаецца ж піраміда,— пачуліся галасы.

— Як не атрымаецца? Атрымаецца! — закрычаў Сцёпа.— Я ж зусім забыў. Фараонаў хавалі седзячы або нават стоячы. Падымайся! Уставай, Гаменхатэп! Толькі маўчы — ты мёртвы.

Я падняўся на ногі, і работа зноў закіпела. Цяпер было лягчэй. Хоць і давіла ў бакі, але дыхаць было можна. Я стаяў з заплюшчанымі вачамі, а хлопцы абкладвалі мяне кавунамі. Неўзабаве навокал мяне ўжо была сапраўдная піраміда, з якой вытыркалася толькі мая галава, таксама падобная, як потым сказаў мне Ява, на кавун.

Сцёпа быў вельмі задаволены і весела напяваў пахавальны марш:

— Тра-та-та-ра-та-рай!

І раптам прагучаў пранізлівы крык Антосіка:

— Хлопцы! Уцякай! Дзед!

І ўсе кінуліся наўцёкі. Гэта было так нечакана, што я нават не адразу спалохаўся. І толькі калі за хлопцамі ажно пыл закурэў, я зніякавеў.

Я стаяў, абкладзены кавунамі, і не мог

варухнуць ні нагой, ні рукой, і глядзеў, як да мяне, размахваючы кіем, бяжыць дзед Салівон.

— Хлопцы! — безнадзейна крыкнуў я.— Куды вы?! А я? Рабы! Гаменхатэпа кінулі! Антосік! Дружа!

Але яны ўжо і пачуць не маглі.

Ну, усё! Пагібель! Зараз дзед падбяжыць, убачыць, што мы нарабілі, размахнецца і — кіем мяне па кумпале. І будзе на адзін разбіты кавун больш. Будзе мне грабніца... Піраміда...

Я ўжо бачыў раз'юшанае аблічча дзеда і чуў, як ён сапе. Бліжэй, бліжэй...

І тут, як з-пад зямлі, з'явіўся Ява. Дзед быў ужо зусім блізка, ужо замахнуўся кіем. Ява падскочыў да мяне, схапіў кавун, што ляжаў каля самай маёй шчакі, і шпурнуў у дзеда. Дзед выпусціў з рук кіёк і ледзьве паспеў злавіць кавун. Ён жа не мог дапусціць, каб кавун ўпаў на зямлю і разбіўся. А Ява ўжо схапіў другі кавун і зноў кінуў. І зноў дзед злавіў. Гэта было, як у цырку, як у кіно. Ява кідаў, дзед лавіў і клаў на зямлю. Ява кідаў, дзед лавіў і клаў на зямлю.

Я паціху вызваляўся. Вось ужо і я схапіў кавун і кінуў. Цяпер мы з Явам кідалі ўдвух, а дзед Салівон лавіў. Лавіў, хекаючы і прыгаворваючы:

— Ах, бэйбусы!

— Ах, басурманы!

— Ах, басякі!

Праз некалькі хвілін мы з Явам ужо што-сілы мільгалі пятамі па гародзе. Дагані цяпер, дзед! Шукай ветру ў полі.

Я бег нага ў нагу з Явам, нібыта мы былі адным механізмам. І мне здавалася, што сэрцы нашы таксама тахкаюць, як адно сэрца.

Мне было вельмі добра!

Вось так бег бы і бег на край свету. Няма нічога лепшага за дружбу!

На наступны дзень наша сяброўства з Явам было замацавана яшчэ больш. Так сказаць, крывёю. Бо дзед Салівон падзяліўся сваімі ўражаннямі пра фараонскую піраміду з нашымі бацькамі. А бацькі зрабілі нам чатырыста дваццаць восьмае папярэджанне на тым месцы, пра якое ўголас не гавораць. Папераджаючы вось так, бацькі прыгаворвалі:

— А вось Сцёпа! Сцёпа не такі! Сцёпа там не быў! Га? Не быў жа!

Мы сашчэплівалі зубы і маўчалі. Мы нікога не выдалі. Нікога. Няхай гавораць пра Сцёпу! Няхай! А я ўсё роўна ведаў, хто такі Сцёпа, хто такі Антосік і хто такі — Ява!

Дык хіба ж пасля ўсяго гэтага мог я адзін паехаць у лагер да мора?! Ніколі ў жыцці!

Дружба! Вялікае гэта слова! Можа, самае большае з усіх чалавечых слоў.

## РАЗДЗЕЛ X

### Мы — мацакі. Прыезд Явавых бацькоў. Пісталеты

Вы не падумайце, я татку вельмі люблю, але ён у нас такі ўпарты, або, як сам пра сябе кажа, «абсалютна прынцыповы» чалавек. Раз сказаў, дык няхай тут каменне з неба падае, а на сваім паставіць. Сказаў — як звязаў.

І калі ён паабяцаў мне, што гуляў не будзе, то не сумнявайся — не будзе як і ў неба глянуць.

З раніцы ён даў мне такую «нагрузачку» на дзень, што добры парабак не ўправіўся б. І я працаваў, аж дым курэў.

Маці мяне, вядома, шкадавала і, калі не было бацькі, заўсёды гаварыла: «Адпачні, сынок, пагуляй!» Але гордасць не дазваляла мне гэтага. Я ведаў, што калі б тата даведаўся, то ён бы толькі скрывіўся пагардліва і сказаў: «Мамін сынок няшчасны!»

І я працаваў.

Я не кажу ўжо, што рабіў тое, што трэба было рабіць; чысціў свінарнік, калоў дровы, поркаўся ў садзе.

Але найбольш выконваў работу, на мой погляд, не патрэбную нікому, работу, якую бацька проста прыдумваў для мяне. Напрыклад, капаў велічэзную яму для памыяў і

смецця. Навошта? Усё жыццё маці вылівала памыі ў бур'ян за клуняй — і нічога. А тут, бачыш, спецыяльная яма спатрэбілася.

Або — плот на мяжы нашага гарода з суседнім. Ніколі там нічога не было. Маўляў, каб куры ў суседні гарод у шкоду не лазілі. Смех! Лазілі і будуць лазіць — на тое яны і куры. І ніякія штыкеціны ім не перашкодзяць.

Я ведаю, гэта проста называецца — працоўнае выхаванне.

І чаму дарослыя так любяць выхоўваць! Толькі клопат лішні. Нібы я сам не разумею, што дрэнна, і што добра, што трэба рабіць, а чаго нявартa. Выдатна разумею.

І вось я незнарок падслухаў размову між маці і бацькам. Маці ўпрошвала, каб ён ужо даў мне спакой: «Ты хочаш, каб ён зусім... Бач, на каго падобны!» Але бацька быў непахісны: «Нічога-нічога, гэта яму толькі на карысць. А ты хочаш, каб ён гультаём вырас, басяком, разумееш, п'яніцам ці алкаголікам?!»

П'яніцам! Сказалі. Ды няхай яна гарыць сінім полымем, тая гарэлка! Каб я яе піў! Яны думаюць, што я не пакаштаваў. Мы з Явам неяк пакаштавалі. А як жа! Бр-р! Цьфу! Рыбіны тлушч і той смачнейшы.

А па-мойму, дарослым яна таксама не даспадобы (як яны крывяцца, калі п'юць!).

Проста дарослыя — такія ж, як дзеці: ім нязручна адзін перад адным, яны хочуць паказаць, што яны дарослыя, ну і...

З Явам мы бачыліся мала: не было часу. Вось толькі падыдзем да плота, што раздзяляе нашы двары,— ён з аднаго боку, я з другога. Паскардзімся адзін аднаму.

— Сапраўдным парабкам зрабіўся,— скажа Ява.— Прыгонным. Як Тарас Шаўчэнка. Толькі вершы пісаць — «Мне ўжо трынаццаты мінае...».

— А я! Як егіпецкі раб! — скажу я.— Спіну не разгінаю. Каторы ўжо дзень ломіць.

Паўздыхаем мы ды і разыдземся. Пра цуркі-палкі, пра футбол, пра квача і гаварыць няма чаго. Забылі, як гэта робіцца.

Ад усяго белага свету ізаляваныя былі. У другім свеце дзесьці там Фарадзеевіч з юннатамі вырошчваў фантастычны касмічны глабулус. Ужо хутка павінны быць вынікі.

Дзесьці там займаліся сваімі таямнічымі цёмнымі справамі Кныш і Бурміла.

А мы нічога не ведалі і не бачылі. Бо не маглі і нос з двара вытыркнуць. А як ты будзеш лавіць шпіёнаў, седзячы дома? Ніяк.

Адзін толькі раз Ява прыбег да мяне задыханы, усхваляваны, чырвоны.

— Гайда! Хутчэй!

— Што такое?

— Толькі што — на свае вочы бачыў — Кнышыха [redacted] хаты выйшла, Кнышу сказала: «Ану, ідзі толькі на вуліцу вызірні, ці няма каго, і фортку зашчапі. А то як пабачаць тыя злыдні, спасу не будзе». І Кныш пайшоў, і вызірнуў, і зашчапіў. І яны пайшлі ў хату і замкнуліся.

— Ну і што?

— Як «што?»! Галава! Можа, яны шпіёнскія грошы будуць хаваць або па радыё будуць перадаваць нешта... шпіёнскае.

— Ну-у?!

— Вось табе і «ну»! Гайда, пералезем праз Вялікую кітайскую, а тады ў гарох, што каля хаты, адтуль праз акно ўсё будзе відаць.

— Гайда!

Праз хвіліну мы ўжо шкрэбліся на высачэзны паркан, што раздзяляў Яваў двор ад Кнышоўскага. Гэты трохметровы паркан мы празвалі Вялікай кітайскай сцяной. І ведаеце чаму ўзвялі Кнышы гэтую сцяну? Праз грушу-дзічку. Якраз на мяжы расла ў Кнышоў дзічка і цягнула адну галіну на тэрыторыю Рэняў. І з той галіны грушы, вядома, падалі да суседзяў. Іх, звычайна, вярталі назад, але часам свіння якую-небудзь паданку і схрумае — хіба ўсочыш. Так праз тыя гнілушкі, якія і добрага слова нявартыя, Кнышы і збуда-

валі Вялікую кітайскую сцяну. А дзічка, як на тое, усохла.

Не любілі мы Кнышоў. Нават незалежна ад іх шпіёнскай дзейнасці. Проста так не любілі. Несімпатычныя яны нейкія былі.

Кнышыха — шыракаплечая, кашчавая і хоць і тоўстая, але нейкая квадратная. Вочы маленькія, як дзюрачкі ў гузіках, а нос, або, як гаварыў трактарыст Грыць Кучарэнка, «румпель», вялізны і падобны на сякеру.

У Кныша, наадварот, нос быў маленькі, як дулька. Затое валасаты, аброслы быў Кныш страшна. Рукі, ногі, плечы, грудзі, спіна — усё было пакрыта густымі рудымі валаскамі, цвёрдымі, як дрот. Нават у вушы было напіхана столькі валасін, што яны тырчалі, як клочча (дзіўна, як гэта даходзілі да Кныша гукі, не заблытваліся). І з носа тырчала таксама, і на пераноссі расло, і нават на кончыку носа.

Акрамя таго, быў Кныш нейкі мокры — як шэрая сцяна ў пограбе. Рукі заўсёды мокрыя, шыя мокрая, твар мокры. Неяк ён узяў мяне за плячо сваёй мокрай і халоднай, як у мерцвяка, рукой, я ажно ўздрыгнуў. Бр-р!

І яшчэ — калі Кныш смяяўся, нос у яго дрыжаў і скура на лобе дрыжала (не моршчылася, а менавіта дрыжала). І гэта было вельмі непрыемна. Хацелася адвярнуцца і не

глядзець. Жылі Кнышы ўдваіх, дзяцей у іх не было. І сваякоў, здаецца, таксама.

У калгасе працаваў адзін Кныш. Кнышыха прыкідвалася вельмі хворай. Хвароба ў яе была невылечная і вельмі таямнічая. Яна шэптам расказвала пра яе бабам, закочвала ўверх вочы і прыгаворвала: «Ох, якая ж я, жанчынкі, хворанькая!»

Аднак тая таямнічая хвароба не перашкаджала ёй кожны дзень валачы на рынак важкія кашы.

Святкавалі Кнышы заўсёды толькі ўдваіх. Нікога да сябе не запрашалі. Да іх ніхто не хадзіў, і яны ні да кога. Дужа былі скнарлівыя і баяліся, каб хто-небудзь не пабачыў, што ў іх у хаце ёсць. На людзях увесь час прыбядняліся.

— Ды я ж такі голы! — гаварыў Кныш.— З хлеба на ваду перабіваюся. Нават на зіму нічога не назапасіў.

А між тым Кнышыха, ідучы на рынак, ажно згіналася пад кашамі. І глякі з малаком вытыркаліся адтуль, як гарматы з танкавай вежы,— карова ў Кнышоў была самая лепшая на вёсцы.

Я неяк чуў, як бабы гаварылі пра тую карову:

— Ох ужо й малако ў гэтай каровы! Ну, як смалец! Хоць нажом рэж!

— Ага! А што ты хочаш, калі яна яе хлебам корміць. Кожны дзень цягне з горада сетку. А ў той сетцы, думаеш, што? Адны булкі. Карміла б я сваю Лыску так, дык і яна смятанай даілася б.

— Але ж! А на рынку, бачыла я, прадае рэдзенькае, ажно сіняе. Напалову, не менш, разбаўляе.

— І куды тая міліцыя глядзіць!

А неяк увечары, прысмеркам, прыязджалі да іх нейкія двое на матацыкле з каляскай, нагрузілі нешта ў каляску і адразу ж паехалі. І потым яшчэ двойчы прыязджалі і таксама понача.

А неяк каля чайнай Кныш, які набраўся як жаба бруду, прагаварыўся ў гурце п'яніц.

— Не баюся я вашага Шапку... Які ён Шапка? Нагавіцы ён, а не Шапка. Ён у мяне вось тут во,— Кныш паказаў сціснуты кулак.— Я ўжо напісаў куды трэба. Хутка вашаму Шапку дадуць па ш-шапцы... Гы-гы-гы!

Старшыня нашага калгаса, Іван Іванавіч Шапка, быў вельмі добры гаспадар, і ўсе яго любілі. Усе, акрамя лайдакоў ды п'яніц, таму што спуску ім не даваў. І Кныш увесь час пісаў на Шапку скаргі. Прычым пісаў так, каб гэта ўсе людзі бачылі. Расчыняў вароты, выносіў у двор стол, садзіўся і, як школьнік, на-

хіліўшы галаву і высалапіўшы язык, крэмзаў нешта на паперы.

— О, зноў піша нейкую дрэнь,— насмешліва казаў дзед Варава.

Скаргі Кныша, вядома, старшыні не прыносілі шкоды. Але ў людзей цёмных выклікалі да Кныша павагу і нават страх — калі чалавек піша, значыць, сілу мае.

Паверыць у тое, што ён шпіён, было не вельмі цяжка.

Мы пералезлі цераз паркан, асцярожненька, прыгнуўшыся, уздзёрліся на арэшыну і вось ужо пільна ўглядаемся праз акно ў хату. Было цёмна, і мы не адразу разглядзелі, што там робіцца. Нарэшце ўбачылі, што Кнышы сядзяць за сталом з лыжкамі ў руках і, зладзейкавата пазіраючы на акно, нешта ядуць. Мы здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго. Кнышы елі... торт. Бісквітны гарадскі торт з арэхамі і крэмавымі і шакаладнымі ружамі. Елі торт вялікімі лыжкамі, як боршч ці кашу. Елі ўпотай, хаваючыся ад людзей, як зладзеі. Елі спяшаючыся, мабыць, з гучным чмяканнем (акно было зачынена, і мы не чулі), а можа, нават рохкаючы. Раты ў абаіх былі залеплены крэмам, а ў Кнышыхі крэм быў і на «румпелі».

Вось Кныш падчапіў лыжкай вялікую цэнтральную ружу, якая красавалася пасярэ-

дзіне, і пацягнуў у рот. Але Кнышыха нешта сярдзіта буркнула, лоўка перахапіла ружу сваёй лыжкай і — шух! — сабе ў рот.

Мы зноў пераглянуліся. Кіно!

— Ну, усё! Зразумела! — сказаў Ява.— Шпіёны! Нашы савецкія людзі тарты так не ядуць.

Я не стаў спрачацца, хоць такое сведчанне шпіёнскай дзейнасці Кнышоў здалося мне не вельмі пераканаўчым.

Паколькі глядзець на ўсё гэта было гідка, мы спусціліся з арэшыны і пайшлі дахаты.

...І зноў пацягнуліся працоўныя будні.

Больш кантактаў з Кнышамі, а тым больш з Бурмілам не было.

Лета мінала... Нам нават пачало здавацца, што ўсё пра Кныша і Бурмілу мы прыдумалі, што не было ні таямнічай размовы («Падаруначак ад немцаў»... «Дваццаць жалезных»... «Вермахт шчодры»...), ні акваланга, ні падазроных паводзін, нічога...

— Не, ніякія яны не шпіёны,— гаварыў я.— Памятаеш, як Бурміла бусляня параненае знайшоў і выхадзіў, выпусціў потым. Хіба шпіён такое зрабіў бы? Ніколі!

Ява спачатку імкнуўся пярэчыць, а потым пачаў пераводзіць размову на іншае.

Аднойчы Ява сустрэў мяне асабліва засмучаны і невясёлы.

— Заўтра прыязджаюць бацькі,— уздыхнуў ён.— Хоць ты з моста ды ў рэчку. Маці як даведаецца... Праўда, дзед паабяцаў у першы дзень не казаць. «І не праз цябе, кажа, двоечнік, а праз маці. Неахвота ёй першы дзень псаваць. Колькі не была дома, засумавала, а тут на табе — сынок такі падаруначак падрыхтаваў». Так што мне адзін толькі дзень мірнага жыцця і застаўся. А потым ужо будзе такі «вермахт», што... Ты ж маю маці ведаеш...

Маці ў Явы сапраўды была жанчынай рашучай. У адрозненне ад маіх бацькоў у Явы было наадварот: тата быў добры-дабрэнны (муху не пакрыўдзіць, ніколі голас не павысіць, толькі на скрыпцы іграе), а маці — гром і бліскавіца. Карацей, тата быў мамай, а мама — татам. І трывогу Явы я добра разумеў.

— Нічога,— супакойваў я свайго сябра,— як-небудзь абыдзецца. Не заб'е ж яна цябе.

— Да смерці, можа, і не заб'е. А інвалідам зрабіць можа. Знаеш, якая ў яе рука! Як у Жабацінскага!

— А ты патрэніруйся пáдаць. Як толькі што-якое — адразу падай. Нібыта табе дрэнна.

— Мне й так будзе дрэнна. Без «нібыта». Не хвалюйся.

Што й казаць, спачуваў я свайму тавары-

шу ўсім сэрцам, усёй душою, але дапамагчы нічым не мог. Заставалася толькі спадзявацца на лёс ці на шчаслівы выпадак. Можа, абыдзецца...

І вось Явавы бацькі прыехалі. Радаснага гоману і мітусні — поўны двор. Фортка толькі рып-рып! Дзверы не зачыняюцца. Сваякі, суседзі, знаёмыя... Яшчэ б! З-за мяжы прыехалі! Цікава ж! А што? А як? А дзе? А калі? А якое? А па чым?

У садку цэлы дзень стол стаяў з прысмакамі ды розным пітвом: адны выходзілі, другія сядалі

І падарункаў Явавы бацькі навезлі ледзь не ўсёй вёсцы. Падарункі ў большасці выпадкаў дробненькія, як гузікі,— сувеніры называюцца. Але што вы хочаце: калі б столькі вялікіх падарункаў — на двух вазах змясціліся б.

І я падарунак атрымаў. Нам з Явам абодвум падарылі па пісталету! Па чэшскаму замежнаму пісталету, які страляе вадой. І як страляе. Націскаеш на курок, і ён тоненька-тоненька цвыркае метраў на дзесяць. Магутна! Вось гэта пісталет дык пісталет! Сіла!

Праз пятнаццаць хвілін пасля таго, як нам падаравалі пісталеты, мы ледзь іх не страцілі назаўсёды.

Ну, вы ж разумееце, было б смешна, калі б

мы адразу не пачалі страляць. Навошта тады пісталеты?

Дык вось мы адразу...

Сабаку на мушку — цвірк!

— Гаў-гаў-гаў!

Сабака хвост падціснуў і ў будку.

Мурка рудая сядзіць на сонцы, мыецца. Цвірк!

— Ммяў! — і мурка ўжо на яблыні.

Чубатка грабецца.

Цвірк!

— Ко-ко-ко-ко-ко! — няма чубаткі — недзе ў гародзе.

А тут ідзе дзед Салівон.

Ну, выпадкова ж, чэснае слова, выпадкова курок націснуўся.

— Цвірк! — дзеду Салівону проста па лысіне.

— А каб вы ляснулі, разбойнікі! Я вам пацвіркаю! Я вам... Я вам...

Праз некалькі хвілін мы паціралі свае чырвоныя вушы далёка ад хаты.

Пісталеты аддалі нам з адной умовай — страляць толькі па нежывых прадметах.

Але ж настраляліся мы, ажно абрыдла.

А што ўжо нам хлопцы папазайздросцілі — і не кажыце!

Толькі і чулася:

— Дай паглядзець!

— Дай хоць глянуць!
— Дай патрымаць!
— Можа, я стрэльну?
— Можа, я паспрабую?
— А я? А я?
— Ох ты!
— Ох і б'е!
— Сіла!

Скажам шчыра, мы неахвотна давалі не тое што стрэльнуць, але нават і патрымаць.

Можна аддаць новыя штаны, чаравікі, сарочку зняць, усё, што хочаце, але выпусціць з рук пісталет у першы дзень — не хопіць сіл. Як жа яго аддасі, калі сам яшчэ не настраляўся!

Але папастралялі мы — дык папастралялі! Добранька! Ужо ж і адпомсціў я за ўсе пакуты, якія мне давялося перажыць, быўшы «шпіёнам», «разбойнікам», «беляком» і наогул «ворагам».

Мы нейкую хвіліну сумняваліся, успомніўшы ўмову страляць толькі па нежывых мішэнях. Але потым вырашылі, што і Сцёпа Карафолька, і Антосік Мацыеўскі, і Грышка Сала, і нават Вася Дзяркач па характарах поўнасцю адносяцца да «нежывых мішэняў».

Праз гадзіну ўсе былі мокрыя, хоць выкручвай.

Спачатку яны адносіліся да ўсяго раўнадушна, нават падбухторвалі.

— Ану! Ану, пацэль на такой адлегласці. І не пацэліш, не пацэліш! Ану!

А потым, калі мы сталі добра цаляць, пачалі злавацца:

— Ды ну, перастаньце!

— Ды годзе ўжо!

— Досыць, ну!

А Сцёпа Карафолька, калі Ява вельмі спрытна пацэліў яму проста ў нос, раптам вырашыў абурыцца і закрычаў:

— Гэй ты, двоечнік! Нешта залішне ўжо ты расцвіркаўся! Ідзі лепш урокі вучыць! Бо на наступны год застанешся. Вось я скажу тваёй маці!

Эх, Сцёпа, даўганосік, недалікатны чалавек. Хіба можна ўспамінаць пра такія рэчы!

Ява павярнуўся і пайшоў.

На наступны дзень рана-раненька бацькі Явы паехалі на некалькі дзён у Кіеў дакладваць пра сваю замежную камандзіроўку на Выстаўцы перадавога вопыту. І дзед Варава не паспеў нічога расказаць.

Але ўсё роўна настрой у Явы быў кепскі, прыгнечаны.

— Гад я,— упікаў ён сябе.— Маці мяне цалуе: «Сыночак, сыночак!»— падарункі для мяне, а я... Ведала б яна, які я... Лепей бы ад-

разу... І што ж гэта будзе! Эх, калі б высачыць, пакуль няма маці, тых шпіёнаў! Усё было б добра. Можна было б расказаць праўду. Як я тапіўся і наогул... Эх, калі б высачыць...

Я невыразна мгыкаў:

— Мгы... вядома... так...

Я не верыў у рэальнасць гэтай справы.

Але на другі дзень пасля ад'езду бацькоў у Кіеў Ява прыбег да мяне белы, як смятана, ледзь дыхаючы.

— Хутчэй... хутчэй... хутчэй...

Я ўжо думаў — ці пажар, ці землетрасенне, ці футбол па тэлевізары перадаюць. Я сама што вядро цягнуў з калодзежа. Да палавіны выцягнуў. І вядро, калі ён прыбег, шубоўснула назад.

— Што такое?

— Гайда хутчэй! Яны ідуць у плаўні. Вось зараз. Сам чуў размову. Кныш кажа: «Штосьці доўга няма справы. Прысохла. Ерунда атрымліваецца». А Бурміла: «Так-так, трэба канчаць, паедзем сягоння, я ж не вінаваты, што прастудзіўся. Захварэў...» А Кныш: «Дык я зайду да цябе праз паўгадзіны, і паедзем...» Хутчэй, Паўлуша! Я адчуваю, нешта будзе! Гайда, ну!

Ён гаварыў так горача і пераконліва, што маё вядро, запоўненае вадой напалавіну, здаецца, само выскачыла з калодзежа, імгненна

апынулася на ганку, а мы з Явам, як выстраленыя з рагаткі, памчаліся па вуліцы.

## РАЗДЗЕЛ XI

### Трагедыя ў кукурузе. І хто б, вы думаеце, нас выратаваў?..

Нам не давялося доўга сядзець у карчах каля Бурмілавай хаты. Не прайшло і дзвюх хвілін, як з форткі выйшаў Кныш, а за ім Бурміла з мяшком за плячамі.

Хата Бурмілы стаяла за школай, на ўскраіне вёскі. Адразу за ёй пачыналася вялікае кукурузнае поле. Міма яго вілася палявая сцяжына.

Кныш і Бурміла пайшлі па сцежцы, а мы з Явам — па кукурузе. Не прайшлі і сто метраў, як Кныш раптам спыніўся і, чуем, кажа:

— Слухай, здаецца, да нас нейкія пацаны прычапіліся.

— Дзе? Хай іх халера! — здзіўлена прагудзеў Бурміла.

— Ды вунь там, у кукурузе.

— Ану, ідзём напрасткі праз кукурузу. Праверым.

Мы з Явам гэпнуліся на зямлю і, як зайцы, на карачках шуснулі ў глыб кукурузы.

Шорсткае лісце па-здрадніцку шапацела

навокал. І не здагадаешся, ці гэта ад ветру, ці нехта ідзе. Здавалася, Кныш і Бурміла ўжо над галавой. Вось-вось наступяць і раздавяць цябе, як жука.

Адчуваючы ў жываце агіднае «ой-ой-ой», я бег на карачках усё далей і далей. І калі ўжо зусім паабдзіраў калені, спыніўся і прыпаў, цяжка дыхаючы, да зямлі. «Больш не магу! Няхай наступаюць!» Але ніхто на мяне не наступіў. Я паляжаў трохі, прыслухваючыся.

Ш-шу-шу... шрх-хр... шшшу...

Увесь час, без перапынку, шапаціць навокал.

І не чуваць у гэтым шапаценні ні Кныша, ні Бурмілы, ні майго сябра. А каб убачыць — і марыць няма пра што. Далей свайго носа нічога не ўбачыш — суцэльная сцяна з кукурузных лісцяў. Ох і густая ж кукуруза, як джунглі!

Паляжаў я яшчэ трошкі, вушы наставіў. Нічога. Нічагусенькі. Дзе ж Ява? Мы ж нібыта разам беглі.

— Ява! — шапчу я нарэшце.

Ані-ні.

— Ява! — шапчу ўжо трохі мацней.

Кінуўся я ў адзін бок, у другі.

— Ява! — крычу я голасна. Чорт яго бяры! Кныша і Бурмілу мы ўжо ўсё роўна пра-

варонілі — гэта факт. Яны ўжо ого-го як далёка.

— Ява! — крычу я з усіх сіл.— Ява! Агу! Дзе ты?

— Цыць! — чую нарэшце таямнічы голас Явы.— Цішэй!

— Ды што «цішэй»! — крычу я.— Іх ужо даўно няма! А я нічога не бачу ў гэтым гушчары. Не ведаю, у які бок ісці. Паўзі сюды.

Ява трошкі памаўчаў, потым кажа:

— Паўзі ты сюды!

Папоўз я на Яваў голас.

Поўз-поўз — няма Явы.

— Ява,— клічу нарэшце.

— Агу! — чуецца далёка злева (а было ж у правым баку).

— Ява!— раззлавана крычу я.— Куды ты папоўз, хай цябе! Не туды ты паўзеш!

— Гэта ты,— крычыць ён,— гэта ты не туды паўзеш! Я паўзу правільна.

— Ды ну цябе! Паўзі сюды.

— Гэта ты сюды паўзі!

Вось так, пераклікаючыся, мы пачалі зігзагамі падпаўзаць адзін да аднаго. Нарэшце я з маху носам у Явавы нагавіцы ўткнуўся.

— Цьфу!

Яшчэ трошкі — і мы б размінуліся.

Селі, аддыхваемся.

— Раскрычаўся! З табой толькі шпіёнаў і

лавіць! — цэдзіць праз зубы Ява.— З табой толькі гаршкі ў печы лавіць, а не шпіёнаў!

— Які смелы! Чаго ж ты драпануў? Скажы дзякуй, што яны яшчэ не падушылі нас, як мышэй...

Ява адразу падскочыў.

— Пайшлі. Пайшлі хутчэй на дарогу. Можа, яшчэ і паспеем. У рэшце рэшт я ведаю, дзе іх трэба шукаць.

І Ява бадзёра рвануўся наперад. Я — за ім. Не звяртаючы ўвагі на боль у нагах, мы ішлі вельмі хутка, нават беглі. Кукурузнае лісце хлёстала нас па шчоках, лезла ў вочы, абдзірала рукі.

Ісці рабілася ўсё цяжэй.

— Ява,— сказаў я, цяжка дыхаючы,— нешта мы доўга ідзём.

Ява маўчаў.

— Ява,— сказаў я, дыхаючы яшчэ цяжэй,— дзе дарога?

Ява маўчаў.

— Ява,— сказаў я, задыхаючыся,— мы не туды ідзём.

Ява спыніўся:

— Давай адпачнём.

Мы селі на зямлю.

— Ты ведаеш, якія гэтыя кукурузныя масівы, на колькі яны кіламетраў цягнуцца? — сказаў Ява.— Калі не туды пойдзеш, можна

ісці два дні — і не дойдзеш. Зусім заблудзіцца можна.

— Што? Што ты вярзеш? — сказаў я, адчуваючы, як ледзянее маё сэрца.— Кукуруза не лес і не плаўні, у кукурузе нельга заблудзіцца. Уставай, пайшлі.

Мы ўжо не думалі пра Кныша з Бурмілам, мы думалі толькі пра тое, як выбіцца з гэтага жахлівага кукурузнага палону.

Праз паўгадзіны мы зноў селі адпачыць.

І раптам у мяне ўзнікла ідэя.

— Ява,— кажу,— а што, калі залезці і паглядзець, куды ісці.

— Залезці? Гэта табе што — дрэва? Гэта ж кукуруза. Злак. Не чуў я, каб людзі на злакі лазілі.

— Ну дык і што,— кажу я.— Глянь, якое тоўстае! Як бамбук! Можа, утрымае.

— Ну, дык лезь.

— Не, ты лезь. Ты лягчэйшы — у цябе штаны карацейшыя і гузікаў менш. А я падсаджу.

Ява махнуў рукой:

— Ну, давай паспрабуем.

Мы выбралі самую высокую і тоўстую кукурузіну, я павярнуўся да яе спіною, сашчапіў пальцы, каб вытрымаць Яву, калі ён стане на іх нагой, і сказаў:

— Ты больш на мяне абапірайся, а за кукурузіну толькі трымайся.

— Добра, добра,— сказаў Ява і, крэкчучы, пачаў лезці на мяне. Вось ужо каленам на плячо стаў, абапёрся рукамі аб галаву.— Ой! — чаравікам за нос зачапіўся. Але я маўчу, трываю. Чаравік давіць мне на плячо, ключыцу ламае. Я пачынаю хістацца, калені трымцяць, падгінаюцца, падгінаюцца...

— Ява! — крычу.— Хутчэй глядзі, я падаю.

І... вось затрашчала і зашумела,— нібыта бомба ў кукурузу ўпала.

Я ляжу, уткнуўшыся носам у зямлю. У роце — пясок, у вушах — пясок, вочы зацярушаныя. Адплёўваюся, праціраю вочы і гукаю:

— Ява, дзе ты? Ты жывы?

— Жы... апчхі!.. вы! — і з груды патрушчанай кукурузы высоўваецца Явава галава.

— Ну, што,— пытаюся,— бачыў?

— Дулю з макам я бачыў. Вярхі самыя пад носам.

Ява ўздыхае.

Я паглядзеў у неба.

«Дзіўна,— падумаў я.— Касманаўты лятаюць у бязмежным небе, сярод зорак, на такой адлегласці ад зямлі — і нічога. А мы ў кукурузе заблудзіліся. Ды яшчэ ў такі адказны момант! Кіно!»

— Ява,— падскочыў я.— Гэта ж дурніца нейкая. Гэтага не можа быць, бо гэта немагчыма. Яшчэ ніхто ў свеце не заблудзіўся ў кукурузе. Мы проста пайшлі не ў той бок. Я добра памятаю, што сонца, калі мы выйшлі, свяціла нам у спіну. Хадзем назад.

Спачатку Ява недаверліва пазіраў на мяне. Але я гаварыў, мабыць, так пераконліва, што ён падняўся.

— Хто яго ведае, можа, і праўда. Хадзем.

І мы папляліся назад.

Ох, як цяжка было ісці. Мы ўжо не чулі ног. Мы проста механічна перастаўлялі іх, як хадулі. І навошта мы поўзалі на каленях? А тут я яшчэ спатыкнуўся і падвярнуў нагу, ажно ўскрыкнуў, так забалела.

Сеў я на зямлю і скрывіўся, як серада на пятніцу. Калі б не Ява, заплакаў бы.

— Што? Што? — схіліўся нада мною Ява.

— Кінь мяне! Ідзі, прабівайся сам,— сказаў я хрыплым, безнадзейным голасам.

— Цьфу, дурны! — Ява абняў мяне за плечы.— Зараз пройдзе.

Ён дапамог мне падняцца. Я абапёрся на яго, і мы паціху пайшлі.

Праз некалькі крокаў боль аціх, і я зашкандыбаў досыць бадзёра. А хутка і зусім забыў пра нагу.

Цяжка сказаць, колькі мы ішлі; паўгадзі-

ны, гадзіну ці дзве — і колькі мы прайшлі: кіламетр, два ці дзесяць. Але нарэшце я не вытрымаў:

— Ява,— кажу,— я болей не магу. Я зараз паналюся. Давай адпачнём.

Мы леглі на зямлю.

Доўга ляжалі.

Было ціха. Толькі кукурузнае лісце шаргацела над намі. Нават конікаў-скакункоў не чутна было.

— А што, калі мы зусім адсюль не выберамся? — ціха сказаў я.— І ніхто не ведае, куды мы пайшлі. І нас не знойдуць. І мы загінем. І праз два тыдні камбайн разам з кукурузай збярэ нашы костачкі.

— Добра б паабедаць. Усё ж такі даўжэй бы пратрымаліся. А так да раніцы і памерці можна,— сказаў Ява.

Пры згадцы пра абед мне так захацелася есці, што я ледзь не заплакаў.

— У нас сёння на абед боршч і варэнікі з мясам,— сумна паведаміў Ява.

— А ў нас суп з галушкамі і смажаная курацінка,— сказаў я, ледзь стрымліваючы слёзы.

Не, далей я ўжо цярпець не мог.

— Ява,— кажу,— давай клікаць людзей. Давай людзей клікаць, Ява.

Але Ява быў больш стойкім.

— Ты што,— кажа,— каб смяяліся? Здаровыя бугаі і сярод белага дня ў калгаснай кукурузе «ратуйце» крычаць.

— Няхай,—кажу я.— Было б толькі над кім смяяцца.

— Не,— кажа Ява,— калі ўжо на тое пайшло, давай лепш спяваць.

— Няхай,— кажу,— хоць і спяваць.

І мы зацягнулі першае што прыйшло ў галаву. А першай чамусьці прыгадалася песня касманаўтаў.

На пыльных тропинках далеких планет...—

жаласна-жаласна выводзіў Ява.

...Останутся наши следы,—

яшчэ больш жаласна падцягваў я.

Доўга мы спявалі. Амаль усе песні, якія ведалі, праспявалі. Чамусьці асабліва добра спяваліся тыя, што пачыналіся з «ой»: «Ой, у полі магіла», «Ой, я няшчасны», «Ой, не свяці, месячыку», «Ой, не шумі, лужок», «Ой, чаму ты, дубе», «Ой, адна я, адна», «Ой, у полі жыта». Гэтае «ой» мы выкрыквалі так, як быццам нас у бок нехта штурхаў.

Добра пайшла ў нас таксама песня «Раскинулось море широко». Асабліва куплет «Напрасно старушка ждет сына домой». Тройчы

мы спявалі гэтую песню, і тройчы, калі даходзілі да гэтага «напрасно», у мяне пачынала шчымець у горле.

Нарэшце мы зусім захрыплі і спыніліся, змоўклі.

Мы ляжалі, знясіленыя ад голаду, песень і безнадзейных думак.

— Недарма я адчуваў, што сягоння нешта будзе! — уздыхнуў Ява.

Я выпадкова засунуў руку ў кішэню і раптам намацаў там нешта цвёрдае. Выцягнуў і ледзь не падскочыў. Дык гэта ж цукерка, якую я яшчэ ўчора забыў з'есці! Ды яшчэ й мятная. І піць меней будзе хацецца.

— Ява,— хрыплю,— бач!

Ява глянуў і ўздыхнуў.

— Адна?

— Адна.

Цукерка зляжалася ў кішэні, размякла, абгортка прыліпла так, што і зубамі не аддзярэш. Раней я яе, мабыць, проста выкінуў бы. Але цяпер гэта была такая каштоўнасць, што ой-ой-ой!

Я асцярожна перакусіў цукерку, але няўдала — адна палавінка атрымалася большай, другая — меншай. А яшчэ кусаць — толькі раскрышыць. Я ўздыхнуў і працягнуў Яве большую.

— Чаго гэта? Давай мне тую.

— Не,— кажу,— бяры. Ты вельмі есці хочаш.

— Чаму?

— Таму, што я,— кажу,— добра снедаў. Яешню еў, і каўбасу, і малако піў.

— А я? Я бульбы цэлую талерку з'еў. Значыць, ты галаднейшы за мяне. Бяры.

— Не. Я яшчэ пірог з яблыкамі во такі і варэння сподачак. Бяры ты.

— А я два пірагі, і цэлы глечык малака, і шклянку смятаны, і яшчэ сыр, і...

— А я яшчэ блінцы і...

Нашы сняданкі рабіліся ўсё большымі і большымі. Калі б іх скласці разам, дык атрымаўся б, мабыць, дзённы рацыён слана. Закончылася тым, што Ява ад большай палавіны вельмі спрытна адкусіў маленькі кавалачак, і такім чынам «порцыі» зраўняліся.

Мы стараліся смактаць цукерку як мага даўжэй, але праз некалькі хвілін ад яе ў роце ўжо і паху не засталося. Есці захацелася яшчэ мацней. І есці, і піць. Асабліва піць. Мы нават забылі пра голад. Вады, мы хацелі толькі вады. Вось цяпер мы адчулі сябе па-сапраўднаму няшчаснымі. Мы ледзь варушылі перасмяглымі вуснамі. Сонца пачало садзіцца, набліжаўся вечар. Мы з жахам падумалі пра сваё будучае.

І раптам мы пачулі, як нехта ахрыплымі, гугнявымі галасамі выводзіць песню.

Нас падкінула, як на спружынах. Людзі!

— Гэй! Гэй! — закрычалі мы і прыціхлі, прыслухваючыся.

І тады мы, забыўшы пра ўсё на свеце, кінуліся на песню і адчайна закрычалі:

— Людзі! Пачакайце! Людзі! Родненькія! Сюды!..

І здаецца, я нават крыкнуў ганебнае: «Ратуйце!» — дакладна ўжо не прыпомню.

Песня перарвалася.

— Родненькія! Пачакайце! — праверашчалі мы і змоўклі, чакаючы адказ.

І недзе зусім блізка пачулі галасы:

— Гука-ае нехта...

— А, пайшлі!

— Не! Крык-чыць нехта... Каб я так бога бачыў!

Мы так і прыселі.

Вось бяда, дык гэта ж Бурміла! І Кныш.

— Ды пайшлі! — кажа Кныш.— Гэта нехта жартуе.

— Не, не жартуе. Ратуйце крык-чыць. Агу! Хто тут ёсць? Дзе вы? — загукаў Бурміла.

Ява глянуў на мяне і прыклаў палец да вуснаў: «Цс!» Але ўжо было позна.

— Тут,— піснуў я. Яно неяк само вырвалася, я не хацеў.

Кукуруза над намі рассунулася, і мы ўбачылі чырвоныя насы Кныша і Бурмілы.

— Го-го! Дык гэта вы? Галубчыкі! — расплыўся ў яхідна-радаснай усмешцы Кныш і падміргнуў Бурмілу.— Што я табе казаў. І заблудзіліся? У кукурузе? Га-га! Го-го! Ге-ге-ге!

Ён аж надвое перагінаўся, трымаючыся за жывот, так рагатаў. Бурміла смяяўся толькі праз пэўныя прамежкі часу. Ён быў п'янейшы за Кныша. Смех булькаў у яго недзе ўсярэдзіне, а на паверхню вырываўся невялікімі порцыямі, як пара з чайніка, які вось-вось закіпіць.

— Гы-ш... Гы-ш... Гы-ш!..

— Эх, вы... с-смаркачы! — нарагатаўшыся, сказаў Кныш.— Ну, трымайцеся за дзядзькавы штаны, бо зноў згубіцеся.

І, абняўшы Бурмілу, ён павярнуўся да нас спіною.

## РАЗДЗЕЛ XII

### «Не заві мяне больш — Ява, заві мяне — Кукуруза!»

Я іду ў сельмаг. Маці паслала. Па алей. Гэта на наступную раніцу пасля трагедыі ў кукурузе.

У магазіне і каля магазіна поўна людзей —

сёння нядзеля. Хто купляе, хто піва п'е, хто проста гамоніць, семкі лузгае. Сельмаг у нас насупраць клуба — тут заўсёды людна, а ў нядзелю тым больш.

Заўважыўшы мяне, людзі адразу пачынаюць усміхацца, перашэптвацца, пераміргвацца.

А дзед Салівон кажа:

— А, здароў, хлопец! Штосьці я цябе даўно не бачыў?

— Дык яго ж не было ў вёсцы,— падкідвае Грыць Кучарэнка.

— А дзе? — «здзіўляецца» дзед Салівон.

— Ды ў кукурузе блукаў... тыдзень ці два.

— Га-га-га! — рогатам выбухнуў сельмаг. Тут і прадавец дзядзька Кузьма не вытрымаў, усунуў свае тры грошы:

— Мы нядаўна компасы атрымалі... Не трэба?

— Га-га-га!

— От хлопцы!

— От артысты!

— І кіна не трэба...

Узяў я алей і як ашпараны на вуліцу. За мной услед рогат коціцца. Хто б ні сустрэў, слоўца кіне:

— Прывітанне кукурузніку!

— Наша вам ад каралевы палёў!

Можа, хто проста так вітаецца, а мне зда-

ецца, што глумліва, насмешліва. І, магчыма, нехта смяецца зусім па іншай прычыне, а я ўсё на сябе пераводжу.

Каля клуба агромністая рэклама кінафільма «Тарас Шаўчэнка» (сягоння будзе ісці). Намалявана, як праз строй гоняць салдата.

І адразу мне здаецца, што ажываюць навокал цені і шпіцрутэны свішчуць у паветры. І гаршкі, і гладышы на платах — ужо не гаршкі і не гладышы, а салдацкія галовы ў бесказырках... Як той салдат, бягу я праз строй — вуліцу...

Ускочылі мы ў пекла. Некалькі дзён будуць смяяцца, не меней. Хоць на вуліцу не выходзь. У нас такія!

Занёс я алей, пайшоў да Явы душу адвесці. Сустрэў яго ў садзе — ён да мяне якраз накіроўваўся.

— Здароў, Паўлуша! — сур'ёзна-сур'ёзна сказаў ён.— Я да цябе.

— Здароў, а я да цябе!

— Развітацца ішоў,— адвёў Ява вочы ўбок.

— Што, пасылаюць кудысьці? — здзівіўся я.

— Ат! — махнуў рукой Ява.— Зусім з хаты ўцякаю.

— Куды?

— На які-небудзь бязлюдны, незаселены востраў.

— Ды ну цябе, дурны! Мелеш такое, абы-што. Дзе ты возьмеш такі востраў? Цяпер такіх астравоў не бывае.

— Бывае. Гэта ты не ведаеш.

— Як ты ўцячэш, калі мы з табой нават да мора не змаглі даехаць? Цябе ж на першай станцыі зловяць.

— А я і не пайду на станцыю. Навошта мне станцыя?

— А што?

— У плаўні падамся. Колькі там астравоў бязлюдных...

— А як жа ты там жыць будзеш? Прападзеш, як мыш рудая.

— Не прападу,— упэўнена сказаў Ява і выцягнуў з-пад сарочкі кніжку.— Жыў вось чалавек на бязлюдным востраве — і нічога. Не прапаў.

— Што гэта за кніжка? — пытаю.

— «Прыгоды Рабінзона Круза». Чытаў?

— Кніжка кніжкай, а плаўні плаўнямі. Ты падумай лепш.

— Я ўжо думаў. І вырашыў канчаткова. Ты мяне знаеш. Я толькі хачу, каб ты мне трошкі дапамог.

Я быў абяззброены.

— І надоўга ты збіраешся на той востраў?

— Рабінзон прабыў на бязлюдным востраве дваццаць восем гадоў два месяцы і дзевятнаццаць дзён,— уздыхнуўшы, сказаў Ява.

— Ого-го! — я ажно рот разявіў.— Гэта ж колькі табе будзе? Сорак з гакам. Гэта ж мы ўжо і школу, і інстытуты пакончаем. Карафолька акадэмікам стане, Грабянючка аграномам. Я лётчыкам — калі атрымаецца. А ты...

— Што ж зробіш,— зноў уздыхнуў Ява.

— Слухай, а хто ж будзе за Кнышом і Бурмілам сачыць? Хто будзе іх выводзіць на чыстую ваду? Можа, яны і сапраўды вельмі небяспечныя шпіёны і злачынцы? Га? Ты што, забыў пра тую таямнічую размову? І акваланг? І торт, і ўсё астатняе? Забыў?

Ява адразу пачырванеў, няйначай я злавіў яго за руку. Я ўжо думаў, што ён адмовіцца ад сваёй прыгоды. Але ён сказаў:

— Не, нічога я не забыў. Але давядзецца табе аднаму сачыць за імі і выкрываць іх. Ты хлопец кемлівы, смелы, сам управішся. І станеш вядомым. І пра цябе ў газетах напішуць, і па радыё, і па тэлевізары. А я не магу тут больш жыць. Не магу. Праз некалькі дзён прыедзе маці і... хоць — куды вочы глядзяць!

Я ўздыхнуў.

— А можа, усё-такі не ўцячэш? Неяк патрываем.

— Не, раз я вырашыў — усё!

— А каб яго, Кукурузу гэтага! Цябе толькі з панталыку збіў. Няўжо ж мы ў дзяцінстве ўжо не пабачымся? — з адчаем запытаў я.— З кім жа ў цуркі-палкі буду гуляць? З Карафолькам? Дзякуй табе вялікае!

Ява зморшчыўся, паглядзеў на мяне — прамармытаў нешта. І, памаўчаўшы трохі, сказаў:

— Чаму не пабачымся? Толькі ты адзін будзеш ведаць пра мой востраў. І прыязджаць дзе-калі... Рабінзон таксама не адзін быў. Потым ён выратаваў дзікуна Пятніцу і жыў з ім удвух. Так што...

— Выходзіць, я буду ў цябе дзікуном,— ужо весялей сказаў я.— Ён, значыць, герой... А я, значыць, дзікун. От Кукуруза!

— Ды Круза, а не Кукуруза! Рабінзон Круза.

— Гэта ён быў Круза, а ты — Кукуруза. Якраз падыходзіць імя... Асабліва пасля ўчарашняга...

— А што? Можа, гэта ты нядрэнна прыдумаў. Кукуруза! Гучыць! Га? Ведаеш што! Дык ты не заві мяне — Ява, а заві — Кукуруза. Няхай так і будзе. Дамовіліся?

Так Ява перастаў быць Явам, а зрабіўся Рабінзонам Кукурузай. Пэўна, на вяку напісана яму было насіць прыдуманыя імёны. Так

што запомніце добранька, далей я буду зваць яго Кукуруза.

— Дык ты што — сёння не хочаш уцячы на востраў? — запытаў я.

— Эх, які ты! «Сёння»! — раззлаваўся Кукуруза.— Трэба ж спачатку выбраць надзейны бязлюдны востраў, а тады ўжо ўцякаць.

— Ды што там выбіраць? Высадзіўся на які-небудзь і жыві сабе.

— Табе што... А мне — дваццаць восем гадоў два месяцы і дзевятнаццаць дзён там жыць. Думаеш, лёгка?

— Хіба я супраць, можна і выбраць. Хоць цяпер. Паедзем?

— Пачакай трохі. Праз гадзіну. Няхай дзед у сельмаг пойдзе.

— А што ты наогул дома скажаш, калі будзеш уцякаць? Яны ж хвалявацца будуць. Усіх на ногі падымуць. Будуць шукаць. Ох, уяўляю...

— Вядома ж, не скажу: «Дарагія бацькі, я ўцякаю ад вас на бязлюдны востраў. Бывайце. Пішыце». Гэта ж камедыя. Ніхто ж так на бязлюдны востраў не ўцякае. Маці і бацьку ўвогуле нічога не трэба будзе гаварыць. Яны ў Кіеве. А дзеду я што-небудзь прыдумаю. Скажу, напрыклад, што пайду ў Пяскі да цёткі Ганны. Там якраз і Ярынка ў гасцях. Ат, нешта прыдумаю... Каб панікі не нарабіў.

— А потым што? Калі маці прыедзе і даведаецца, што ты знік?

— Нічога, як там ужо будзе...— тут голас у Кукурузы задрыжаў. Мабыць, думка аб тым, што яго забудуць, была ўсё-такі горкаю для яго. І ён паспяшаўся перавесці гаворку на іншае: — Галоўнае, востраў трэба добры адшукаць. Каб і месца было рыбнае, і дзічына каб...

— А ты стрэльбу возьмеш?

— А як жа. У Рабінзона нават некалькі стрэльбаў было. Але я і з адной бярданкаю не прападу. Ты ж ведаеш маю бярданку. Б'е, як шалёная. Нават лепш за той «Заўэр», што ў дзеда ёсць.

Гэта ўжо Кукуруза перабольшваў. Але я не стаў спрачацца — хлопец на дваццаць восем гадоў на востраў уцякае, няхай хоць цяпер нацешыцца.

У сенцах пачуўся кашаль, скрыпнулі дзверы, на двор выйшаў дзед Варава. Зірнуў сярдзіта на нас і сказаў:

— Я ў магазін. На хвілінку. Глядзіце мне тут!

— Ды мы нічога. Вось толькі на рэчку, можа, пакупаемся. Бачыце, як сонца смажыць,— з просьбаю ў голасе адказаў Кукуруза.

— Урокі, урокі трэба вучыць, а не купацца. Двоечнік! — буркнуў дзед і, закрактаўшы, падаўся з двара.

Я з сумненнем глянуў на Кукурузу.

— Нічога, пойдзем,— ціха сказаў ён.— Ведаю я тую «хвілінку». Як сустрэнуцца каля магазіна з дзедам Салівонам, то гадзіны тры прагавораць, не меней.

Хоць нічога дзіўнага не было ў тым, што мы паплывём на чоўнах у плаўні (колькі разоў ездзілі і рыбу лавіць, і проста так катацца), а таму ні ў кога не магло ўзнікнуць ніякіх падазрэнняў, але мы прабіраліся да ракі цішком і ўвесь час, крадучыся, азіраліся. І ніводнага добрага чоўна не зачапілі. Хаця ўсе яны былі прыткнутыя каля берага, і нам не забаранялася іх браць — тут быў і наш човен, і ажно тры чаўны дзеда Варавы (даўбанка і дзве пласкадонкі). Мы распрануліся і пераплылі на той бок на пясчаны астравок, дзе за вялікім кустом вырбалозу ляжала тая гнілая, зношаная, як стары чаравік, пласкадонка, з якой мы думалі зрабіць, але так і не зрабілі падводную лодку і на якой тапіўся Ява. Мы яе пасля таго выпадку законапацілі, прасмалілі, і яна хоць і прапускала ваду, але ўжо не тануля. Калі вычэрпваць ваду, то можна было і плысці. Тут жа, пад чоўнам, ляжала доўгае патрэсканае весла, якое мы пазычылі ў дзеда Варавы.

Ён і не заўважыў — у яго яшчэ дзесяць такіх вёслаў валяецца: і кароткія — для даўбанкі, і доўгія — для пласкадонак. У нас жа, ведаеце, як на пласкадонках ездзяць! Стоячы. Стаіш на карме (можна і на носе) і то з аднаго боку, то з другога вяслуеш. Таму вясло доўгае. Так веславаць — умець трэба. Калі не ўмееш, то — брык! — і гадуй ракаў. Ну, мы з самага маленства ўсё ўмеем, нам не страшна.

— Конаўку якую вазьмі, а то цяжка будзе. Глянь, працякае ўсё ж, чарпак стары,— сказаў Кукуруза.

Адштурхнуліся мы вяслом і паплылі.

Абагнулі астравок — і вось ужо ў чароце. Вузенькаю стружкаю плывём. Грабе Кукуруза — хоць і я добра вяслую, але ён большы майстар. Грабе ціха, асцярожна. Пільнуецца. Стружка павілястая, увесь час павароткі. Штурхнеш мацней, чым трэба,— раз! — і човен ужо носам у чарот утыркнуўся. Адпіхвайся потым назад, выцягвай нос — марока! Добра грабе Кукуруза — ні разу чарот не клюнуў.

Я ляжу на носе, гляджу ў ваду. Вада празрыстая-празрыстая — усё да самага дна відаць: водарасці, карчы. Відаць нават, як рыба шмыгае. Цікава!

Усё далей і далей зашываемся мы ў плаўні. Нечакана за паваротам адкрыўся шырокі плёс. Гладка — ні маршчынкі. Белыя і жоў-

тыя лілеі параскіданыя паўсюль — як на малюнку. Пасярэдзіне — дзве качачкі-ныркі плаваюць. Заўважылі нас — і няма. Так хутка нырнулі, нібыта іх і не было. Толькі гладкі плёс. Ажно бульк — метраў за дваццаць — ці гэта яны, ці іншыя...

Зноў мы ў стружку ўплылі.

— Ш-ш-ш! С-с-с! Ш-ш-ш!

Качачкі праляцелі.

Паляўнічы сезон не пачаўся, і яшчэ няпуджаныя птушкі хмарамі лётаюць над намі.

— Вось бы стрэльбу! — кажа Кукуруза.

— Ага,— кажу я.

Плывём.

— Вунь тое месца, дзе я тапіўся,— з гарыччу ўспомніў Кукуруза.

— Цьфу! — плюнуў я ў той бок.

Мы зноў выплылі на плёс, даволі вялікі, на якім нават гулялі пеністыя хвалі (бо якраз пачаўся вецер) — як на сапраўдным моры. Гэта быў ужо пяты плёс, які мы праплылі, і астравоў ужо з дзесятак абмінулі. Я кожны раз пытаўся: «Можа, гэты? Ці гэты? Прыгожанькі ж бязлюдны востраў. Тое, што трэба». Але Кукуруза думаў па-свойму, і ўсе тыя астравы ён забракаваў. Па розных прычынах. Той быў вельмі маленькі — няма дзе разгуляцца. У гэтага берагі надта ўжо чаротам зараслі — да вады цяжка даставацца. На тым дрэў няма —

дзе ж ламачча на вогнішча браць? І так далей.

І вось перад намі новы востраў. Нібыта суцэльная зялёная купіна: вербалоз паўсюль, а дзе-нідзе нават таполі выраслі. Бераг толькі часткова зарос чаротам — ёсць выхад да вады. З трох бакоў востраў абмываецца чыстым плёсам.

— Здаецца, ён,— сказаў Кукуруза.— Давай прыстанем.

— Давай,— з радасцю згадзіўся я, бо мне ўжо надакучыла бадзяцца.

Мы прысталі.

Востраў быў цудоўны. Нібы спецыяльна створаны для такой справы, якую задумаў Кукуруза. Дрэў многа і сухога ламачча — на дваццаць гадоў хопіць. Каля берага рыбка скача з вады, сама ў юшку просіцца. Пасярод вострава гала — не толькі ў цуркі-палкі, у футбол гуляць можна. Наўскрай галы вялізная старая вярба стаіць, голлем зямлю падмятае. І без страхі ад дажджу схаваешся. Але страха, вядома, патрэбна.

— Жыллё я табе дапамагу зрабіць,— сказаў я,— ты ж знаеш, як я буданы раблю!

Па буданах — гэта ўжо я быў майстар. Такіх буданоў, як я, ніхто з хлопцаў не рабіў. Гэта мяне бацька навучыў. У мяне бацька цясляр. Палавіна хат у нашай вёсцы — яго работа.

На твары Кукурузы было замяшанне.

— Рабінзон звычайна сам усё рабіў. Ён жа адзін трапіў на бязлюдны востраў.

— Дык гэта ж быў Рабінзон Круза, а ты Кукуруза,— запярэчыў я.— Не трэба ж так усё рабіць, як ён.

Мне абавязкова хацелася як мага больш дапамагчы сябру. Кукуруза не стаў пярэчыць. Я адразу ж выцягнуў з кішэні сцізорык з драўлянаю ручкаю і кінуўся да вербалозу. Я вельмі любіў стругаць, рэзаць што-небудзь сваім складанчыкам, заўсёды насіў яго з сабою ў кішэні, і ад гэтага ручка так наглянцавалася і адпаліравалася, што блішчала, як лакавая. Ажно свяцілася.

Кукуруза пакорліва дапамагаў мне, без пярэчанняў прызнаючы мяне ў гэтай справе галоўным. Ён насіў лазу, расчысціў месца, зрабіў каркас. Неўзабаве пад старою вярбой ужо стаяў новенькі будан, моцны-моцны (ніякія навальніцы не страшныя) і такі ўтульны, што ажно мне самому адразу ж захацелася пажыць у ім. Я быў вельмі задаволены сваёю работай.

— Усе дваццаць гадоў прастаіць — гарантыя! — упэўнена сказаў я.

Толькі цяпер мы ўспомнілі, што дзед ужо, напэўна, вярнуўся з магазіна, і заспяшаліся назад. Ускочылі ў човен...

Нарэшце — наш бераг. І нарэшце мы ўжо бяжым дахаты. Дабегшы, з радасцю ўбачылі, што дзеда яшчэ няма. Кукуруза не памыліўся: «хвілінка» дзеда Варавы ўмела расцягвацца на некалькі гадзін.

— Ну што? Дзеда няма, можна сабраць усё неабходнае,— сказаў Кукуруза.— Сёння ўсё падрыхтуем, перанясём у човен, а заўтра...

— Значыць, вырашыў ужо заўтра? — запытаў я.

— А як жа... Ты што! Гэта ж маці ўжо вось-вось прыедзе.

Кукуруза хадзіў па хаце, задумліва пацiраючы падбародак рукою, і прымерваўся, што ж браць з сабой.

— Перш за ўсё лыжку,— ён узяў у буфеце шчарбатую драўляную лыжку і засунуў яе за апаяску.— Соль абавязкова. Без солі прападу.— Адсыпаў сабе палову пачка.— Хлеб! — з сумам глянуў на чэрствы акраец, які ляжаў на стале.— Мала...

— Я табе прынясу. У нас ёсць,— супакоіў я яго.

— Чай? — ён пакруціў у руках пачак з чаем.— Абыдзецца. Бо тады і чайнік патрэбны. А ў нас адзін.

— Ліхтарык не забудзь. Спатрэбіцца,— напомніў я.

— Ліхтарык абавязкова. Без ліхтарыка нельга.

Ён прайшоўся па хаце, узяў у рукі сякеру, якая стаяла ў парожку.

— Сякеру. Нават дзве добра было б. У Рабінзона было ажно дванаццаць сякер.

— Ён што, жангліраваў імі, ці як? — здзівіўся я.— Навошта яму столькі? Дзіўнаваты нейкі твой Рабінзон, вось што!

— Ты вельмі разумны! — раззлаваўся Кукуруза.— Маўчы! Ты ніколі на бязлюдным востраве не жыў — і маўчы!

У гэты час дзверы расчыніліся, і на парозе з'явіўся дзед.

Убачыўшы яго, Кукуруза так і скамянеў з сякераю ў руках.

— Ав-ва! — спакойна сказаў дзед.— Мэблю секчы думаеш? Ану, пастаў сякеру на месца! Двоечнік!

— Ды я нічога,— замармытаў Кукуруза.— Я... я... хацеў паказаць яму, якая ў нас сякера добрая... З махам... ён кажа, што ў іх лепшая... Ага, у нас лепшая, так?!

Дзед нічога не адказаў, і мы шмыгнулі з хаты.

— Ху! Ледзь не засыпаліся! — ужо за клуняю адсопся Кукуруза.— І як гэта мы не пачулі, што ён ідзе!

Гэта сапраўды было дзіўна. Гэта значыць,

што мы вельмі захапіліся. Бо дзедавы крокі чутныя здалёку.

Дзед ходзіць, як на лыжах, не падымаючы ногі ад зямлі: чаг-чаг, чаг-чаг.

Здаецца, ледзь ногі перастаўляе, вось-вось упадзе. А паглядзелі б вы на яго на паляванні. За зайцам па чарнатропе дзед можа пратэпаць кіламетраў так пяцьдзесят — і хоць бы што.

Сядзім мы за клуняю і абмяркоўваем, як лепш перацягнуць усё неабходнае ў човен. Гэта ж трэба ўзяць і хлеб, і крупы, і сала трохі. А яшчэ не забыць пра бярданку. Бо як з'явяцца на тым бязлюдным востраве дзікія звяры, то... Ой-ой-ой! Аднак жа не лішне яшчэ падумаць і аб тым, [redacted] што давядзецца апрануць. Летам яшчэ нічога. А восенню? А зімою?! Адным словам, многа чаго назбіралася. Але як усё гэта трапіць у човен? Нарэшце дамовіліся. Кукуруза паціху вынесе з хаты і схавае за клуняю. Ужо няхай толькі сцямнее, то я (каб Кукуруза быў у дзеда на вачах і не выклікаў падазрэння) спакойненька перанясу ўсё ў човен.

А заўтра...

6 Зак. 1437

## РАЗДЗЕЛ XIII

### Рабінзон Кукуруза высаджваецца на бязлюдны востраў

Раніца наступнага дня. Сонечная, звонкая, галасістая: пеўні спяваюць, гусі гагочуць, каровы мукаюць. Я прытаіўся каля плота іназіраю, што робіцца на падворку майго сябра.

Падрыхтоўчыя работы ўжо закончаны. Усе набыткі Рабінзона Кукурузы ўжо ў чоўне: і бярданка, і вудачка, і ліхтарык, і лыжка, і канькі (на зіму), і сякера (на жаль, адна, ды і тая старая), і шмат чаго іншага. Чарвякоў поўненькая ржавая банка з-пад бычкоў у тамаце (я слова «бычкі» закрэсліў і напісаў алоўкам «чарвякі», атрымалася «чарвякі ў тамаце»). І харчу цэлая торба. І нават дзве таблеткі пірамідону (на выпадак хваробы). Адным словам, усё ў парадку.

Цяпер засталося галоўнае — адпрасіцца ў дзеда.

Дзед сядзіць на калодзе. Кукуруза ходзіць каля яго і канючыць:

— Дзеду!

— Га?

— Дык я пайду да цёткі Ганны ў Пяскі.

— Адчапіся.

— Дзеду!

— Га?

— Дык я пайду.

— Адчапіся, табе сказана. Ідзі ўрокі вучы. Двоечнік.

Памаўчалі трошкі. Потым зноў:

— Дзеду!

— Га?

— Мне з вамі сумна.

— Мне што, на галаву стаць, каб развесяліць цябе?

— Я да цёткі Ганны пайду. Там жа Арынка. Я яе колькі ўжо не бачыў.

— Калі яна дома, дык ты толькі б'ешся з ёй, а тут, бач, засумаваў...

— Я вам і самасад прынясу. Вы ж ведаеце, які ў цёткі Ганны самасад.

— У мяне свой не горшы. Адчапіся.

Зноў памаўчалі.

— Дзеду!

— Га?

— Дык я пайду? Так?

— От прычапіўся як смала. А ўрокі?

— Дык я ж кніжку вазьму і там буду вучыць. Вось запытаеце тады ў цёткі Ганны.

Я прыціх і думаю: «Ох, і цяжка ў наш час уцякаць на бязлюдны востраў!»

— Дзеду!

— Га?

— Я толькі на пару дзён. З мяне ж уся вёска смяецца пасля ўчарашняга... От вы які!

— А не швэндайся дзе не трэба! Хто цябе ў кукурузу пагнаў?

Зноў памаўчалі.

— Дзеду!

— Га?

Доўга канючыць Кукуруза. Нарэшце дзедава цярпенне канчаецца, і ён кажа:

— От чортава стварэнне! Зусім замучыў. Ну, ідзі ўжо, каб я цябе не бачыў. Толькі на пару дзён, не больш. Але калі цётка Ганна скажа, што ўрокі не вучыў,— атрымаеш... Двоечнік!

Кукуруза не стаў затрымлівацца, хуценька пабег у хату, схапіў «Граматыку» і — да варот. Тады раптам спыніўся, агляніўся, патупаў на месцы, уздыхнуў:

— Бывайце здаровы, дзеду. Добры вы... Я заўсёды ведаў, што вы добры...

— Ідзі-ідзі! — буркнуў дзед. Хіба ён ведаў, што Кукуруза развітваецца з ім на дваццаць восем гадоў, два месяцы і дзевятнаццаць дзён...

На вуліцы я далучыўся да Кукурузы.

Моўчкі дайшлі мы да рэчкі, моўчкі селі ў човен і моўчкі паплылі.

Толькі Сабакевіч, калі бег за намі, гаўкаў весела і імкнуўся схапіць за лытку то мяне, то Яву. Не разумее ўрачыстага моманту дурное сабачанё.

Не сказаўшы ні слова, павеславалі мы да вострава. Не кажучы ні слова, перанеслі ўсе рэчы на палянку.

І вось у апошні раз стаім на беразе каля чоўна. Насупіўшыся, дзяўбём наскамі чаравікаў зямлю. Стаім і ўздыхаем. Трэба развітвацца, а мы не ведаем, што гавораць у такіх выпадках на развітанне. Бо ж не на адзін дзень развітваешся, не на месяц, нават не на год. Яшчэ ніхто ў свеце не развітваўся так надоўга.

Кукуруза нахіліўся да Сабакевіча, пачухаў яго за вухам, узяў яго за пярэднюю лапу, пацiснуў:

— Бывай! Я б цябе тут пакінуў, але сам не ведаю, як у мяне з харчамі будзе... Не бойся... Паўлуша цябе ў крыўду не дасць. Ты ж, Паўлуша...

— А як жа! — не даў я яму дагаварыць.

І замаўчаў, думаючы, якім бы словам супакоіць яго на развітанне.

— А тыя двое ўсё ж не шпіёны,— сказаў я.— Сапраўдныя шпіёны прыдушылі б нас тады ў кукурузе. І ніхто б не ведаў. Яны ж точна цяпер ведаюць, што мы за імі сачылі. Так што не хвалюйся — ніхто пра нас ні ў адной газеце не напісаў бы, ні па радыё, ні тым больш па тэлевізары...

Але Кукуруза на гэта нічога не адказаў.

І зноў мы стаім і маўчым.

— Ну дык што? Давай едзь ужо! — не вытрымлівае нарэшце Кукуруза.

— А ты што, спяшаешся? — кажу я.

— Ды не, я нічога, але наогул... Табе ж дахаты трэба. Хлопцы, мабыць, зараз у футбол на выгане гуляюць.

— Ат! — махаю рукой. Маўляў, не патрэбны мне ні футбол, ні хлопцы. А сам думаю: «Няўжо Кукуруза ніколі не будзе ў футбол гуляць? Вось бедны хлопец!» І так мне стала яго шкада! Такі ж добры варатар быў! Сапраўдны Леў Яшын мог бы з яго вырасці.

Уздыхнуў я, палез у кішэню і выцягнуў адтуль сцізорык.

— На,— кажу,— табе спатрэбіцца. Ты ж ведаеш, які гэта сцізорык. Як брытва. Такога ні ў кога няма.

Кукуруза ажно пачырванеў ад задавальнення. Ён заўсёды зайздросціў мне з-за гэтага сцізорыка і неаднойчы мяняцца прапаноўваў, ды я не хацеў.

Я яшчэ раз уздыхнуў, палез у другую кішэню і выцягнуў карабок ад запалак. Там ляжаць кручкі для вудачак, якія падараваў мне бацька. Цудоўныя кручкі! Цэлае багацце для рыбалкі. І маленькія — на чырванапёрак, плотак і карасёў, і большанькія — на яршоў, акунёў і ляшчоў. і вялікія — на шчупакоў, лін-

коў, і зусім вялікія — трайчастыя — на самоў ды іншае рыбінае звяр'ё.

— Лаві,— кажу,— на здароўе. Рыбай ты цяпер забяспечаны. Але знаеш, калі я да цябе як-небудзь прыеду, то і мне дасі палавіць. Добра? Вельмі прывык я да гэтых кручкоў.

Чаму я так сказаў — не ведаю. Я ж яшчэ ні разу імі не лавіў. Мабыць, усё ж такі вельмі мне іх шкада. Нават больш, чым сцізорыка. Кукуруза адчуў гэта:

— Ды навошта. Не трэба. У мяне ж ёсць.

Але не мог адарвацць ад карабка захопленых вачэй. Хіба стане чалавек адмаўляцца ад такога падарунка? Не, не патрэбны мне кручкі. Кукуруза ж застаецца на бязлюдным востраве адзін, як той зуб у роце дзеда Салівона. І ніхто яго болей не ўбачыць. Нават ліст яму не напішаш. А як жа, нельга. У яго ж няма адрасу. Ва ўсіх людзей на свеце ёсць адрасы, а ў яго няма. Гэтая нечаканая думка вельмі мяне расхвалявала.

— Слухай,— кажу,— так нельга. Выходзіць, у цябе цяпер няма адрасу.

— Ну дык што?

— Як — «ну дык што»? Адрасу няма, разумееш! Атрымліваецца, што ты наогул на свеце не жывеш.

— А што я магу зрабіць? — разгубіўся Кукуруза.

— Трэба неадкладна неяк назваць востраў. Будзе назва, тады і адрас будзе.

— Давай. А я што — супраць? Толькі як?

— Хіба я ведаю? Астравы па-рознаму называюцца. Востраў імя Урангеля, востраў Мадагаскар, востраў Таймыр. Не, гэта, здаецца, паўвостраў. Ну, як-небудзь так.

— Ну, няхай будзе востраў Мадагаскар. Прыгожая назва. Мне падабаецца.

— Ды ўжо ж ёсць Мадагаскар. Патрэбна назва невядомая.

Кукуруза задумаўся. Доўга варушыў вуснамі, мабыць, перабіраючы ў памяці назвы. Потым сказаў:

— А ведаеш што — няхай будзе імя Пераэкзаменоўкі. Пераэкзаменоўка мяне сюды прывяла. Такой назвы яшчэ няма — ручаюся.

Я не стаў спрачацца. Так на карце свету (хаця пра гэта яшчэ ніхто не ведаў) з'явілася новая геаграфічная назва — востраў Пераэкзаменоўкі. Хто ведае, можа, калі-небудзь школьнікі будуць нават вучыць пра гэта на ўроку. «Востраў Пераэкзаменоўкі. Вядомы тым, што на ім правёў у самоце амаль трыццаць год вучань пятага класа Рабінзон Кукуруза». І нейкі целяпень атрымае двойку за тое, што не будзе пра гэта ведаць.

— Не дрэйфі, Рабінзон, усё будзе добра,— бадзёра сказаў я.— На такім востраве не тое

што дваццаць восем — сто гадоў пражыць можна. Абы рыба клявала.

— Я таксама так думаю.

— Ну, бывай!

— Бывай.

Я кінуў у човен Сабакевіча і сеў сам. Кукуруза раптам уздыхнуў і ціха сказаў:

— Ты прабач мяне, Паўлуша, што я ў мінулым годзе цябе пры ўсіх у лужыну штурхнуў. Прабач.

Я таксама ўздыхнуў і ціха сказаў:

— А ты прабач, што я тады, памятаеш, тваю шапку на вярбу закінуў. І наогул, прабач, калі што не так.

— Бывай! — сказаў Кукуруза.

— Бывай! — сказаў я і нарэшце адпіхнуўся ад берага.

Апошняя сувязь Рабінзона Кукурузы з людзьмі перарвалася. Ён застаўся адзін на бязлюдным востраве.

Цяпер нават калі б ён і захацеў вярнуцца дадому, то не змог бы гэта зрабіць сам, без старонняй дапамогі. Бо ў яго не было чоўна. А без чоўна з нашых плаўняў выбрацца немагчыма — утопішся, як сляпое кацяня.

Я прапанаваў, каб ён пакінуў сабе наш «падводны», але ён катэгарычна адмовіўся.

— Гэта несур'ёзна,— сказаў ён.— Гэта была б нібыта нейкая прагулянка: надакучы-

ла — вярнуўся. Калі б у Рабінзона быў транспарт — чорта з два ён сядзеў бы так доўга на востраве! Не, трэба па-сапраўднаму. Ніякіх чоўнаў, ніякай магчымасці вярнуцца.

Мужным чалавекам быў Рабінзон Кукуруза.

## РАЗДЗЕЛ XIV

### Першы дзень на бязлюдным востраве. Раздзел, расказаны Рабінзонам Кукурузай свайму сябру і аднакласніку Паўлушу

Дык вось, як адштурхнуўся ты ад берага і адплыў, знік за чаратамі, толькі бурбалкі пасля чоўна на вадзе засталіся, то такая цішыня раптам наступіла — ніколі я такой цішыні не чуў (нават тады, калі мне вушы пасля аднаго стрэлу з бярданкі залажыла). Стаю я і не дыхаю, як скамянеў. Ціха-ціха... І толькі неба, здаецца, звініць,— нібы мяне вялізнай блакітнай міскай накрылі. І пад той міскай адзін, як мышаня пад сітам, і нікуды не дзенешся.

Стаю я і, што рабіць, не ведаю. І спяшацца мне не трэба, і рабіць няма чаго. Хоць стой, хоць цераз галаву куляйся — усё роўна. Ніхто не бачыць, нікому да гэтага справы няма.

Не па сабе мне было. І галоўнае, думка гняла, што самастойна адсюль я не выберуся.

Хоць крычы, хоць галавой аб дрэва бíся — нічога не дапаможа. Я не ведаю, што і рабіў бы, калі б раптам не адчуў, што есці хачу. Ты памятаеш, я так хваляваўся і спяшаўся, што дома нават добра не паснедаў. Гэта адразу мяне астудзіла. Вырашыў налавіць рыбы. Выбраў мясцінку добрую, разматаў вудачкі, нажывіў, закінуў. Чакаю. Сяджу, на паплаўкі гляджу і чакаю. Чакаю, чакаю, чакаю... Паплаўкі — ані дрыгнуць! Не клюе. Я ўжо і на чарвякоў пляваў, і мяняў іх, і з месца на месца пераходзіў — няма клёву, і ўсё тут. А голад мяне ўсё мацней дапякае. Сяджу я, сліну каўтаю і шапчу: «Клюйце, рыбкі! Клюйце, калі ласка! Я ж есці хачу». А паплаўкі, як цвікі з дошкі, тырчаць сабе з вады, і ўсё. Няма рыбы. Плавае мой сняданак пад вадою, і ніяк яго не дастаць. Нервуюся я, раз-пораз вудачкі выцягваю, але толькі з аднымі чарвякамі. Хоць ты гэтыя чарвякі еш. Цьфу!

Сам разумею, што час не падыходзіць для клёву, ведаю ж добра, што клюе ці на світанні, ці надвячоркам, але ад гэтага лягчэй не робіцца. Не чакаць жа да вечара — жывот падцягне, зусім змарнею. Кончылася тым, што я зачапіўся кручком за корч. Прапаў кручок — адзін з лепшых, які ты мне падараваў. Раззлаваўся я, плюнуў і пайшоў да торбы з харчам — не мог болей вытрымаць. Як дапаў — палаві-

ну торбы ўмалоў. Наеўся, як дурны мыла. Лёг на зямлю, драмаць пачаў і непрыкметна заснуў. Доўга, мабыць, спаў, прачнуўся, адчуваючы, што пячэ. Сонца смажыцца на небе, як яешня на скавародзе. Мац-мац — шчокі агнём гарацъ. Апёкся я на сонцы. Пайшоў памыўся — пячэ. Мокрай зямлі наляпіў — пячэ. Успомніў — смятанай або кіслым малаком трэба. Ды дзе ж яе возьмеш — смятану! Вось калі я адчуў, што бязлюдны востраў — гэта бязлюдны востраў, а не наш калгас «Светлая зара», дзе смятаны цэлыя стаўкі. А мне б зараз толькі лыжку альбо хоць бы паўлыжкі. Ох і пячэ! Залез я ў будан. Цёмна, халадок. Паляжаў трошкі, бо хоць і пячэ, а жыць жа трэба. Нельга ж дваццаць восем гадоў у будане праляжаць. Вылез я, узяў сякеру, сцізорык твой і пайшоў выразаць тапарышча.

Знайшоў добрую сухую галіну, выразаў тапарышча, пачаў абстругваць нажом і раптам скабку загнаў у палец. Ды такую балючую — пад самы пазногаць. Смакчу — не высмоктваецца, зубамі цісну — нічога! Эх, іголкай бы, іголка б адразу выцягнула. «А дзуські! — сам сабе злосна.— У вёску па іголку трэба бегчы. Бяжы, чаму ж ты не бяжыш?» Ледзь не заплакаў я — такую патрэбную рэч, як іголка, забыў. Узяў кручок, пачаў калупаць. Але вельмі калупаць баюся. Там жа на канцы зазубі-

на: калі загоніш, дык не тое што са скабкай, але і з кручком у пальцы будзеш хадзіць. Ох і памучыўся ж! Аж успацеў. А скабку ўсю так і не выняў — маленькі кончык застаўся. І потым доўга балела. Добра, што хоць не нарвала.

Сонца пачало садзіцца, і я зноў захацеў есці. На торбу нават глядзець баяўся, бо ведаў: калі падыду да торбы, то заўтра давядзецца зямлю грызці. Рыба, толькі рыба магла выратаваць мяне ад голаду. Я зноў закінуў вудачку. І на гэты раз мне пашанцавала. Эх, Паўлуша, як я ўзрадаваўся, калі нарэшце выцягнуў першага печкура! Ён быў маленькі, як палец, але ён быў для мяне даражэйшы за таго паўметровага шчупака, якога мы з табой злавілі мінулым летам. Ён трапятаўся на кручку, а маё сэрца трапяталася ў грудзях. Я нават пацалаваў яго. Потым пайшлі акунькі, чырванапёркі, карасікі... Я так захапіўся, што не заўважыў, як перакулілася банка з чарвякамі. А калі заўважыў, яны ўжо распаўзліся па ўсім беразе. Я ажно падскочыў. Ой-ёй! Без чарвякоў і рыбы не будзе. Куды ж вы ўцякаеце, чарвякі? На каго мяне пакідаеце, даражэнькія?

Упаў я на калені, давай поўзаць па беразе ды збіраць. Але большасць ужо пахавалася. Ды і цямнець пачало. Ледзь-ледзь чвэрць бан-

кі назбіраў. Рыбу болей не лавіў, вырашыў чарвякі эканоміць.

Распаліў я вогнішча, пачысціў тую драбязу, што злавіў, пачаў юшку ў старой каструльцы варыць. Вару я і заўважаю, што нешта хутка вада выкіпае — не паспяваю даліваць. І пад днішчам нешта шыпіць. Паглядзеў — а гэта ж мая каструля цячэ-працякае. І як я раней не заўважыў, што там дзюркі?! Ледзь не заплакаў ад гора. Што ж мне цяпер рабіць? У такой жа каструлі толькі гліну мясіць, а не юшку варыць. Гэта ж рэшата, а не каструля. А іншай у мяне няма, і пазычыць няма ў каго. На бязлюдным востраве я. Добра было Рабінзону Круза. Усё патрэбнае яму мора на бераг выкідала пасля караблекрушэння. Усё, нават грошы.

Захацеў сабе дваццаць сякер — на табе дваццаць сякер. Захацеў сарочак шаўковых — на табе сарочкі шаўковыя... А мне хоць бы адну каструльку, што не цячэ. Хоць бы аднюнькую! Ды дзе там. Хіба дачакаешся тут, у плаўнях, караблекрушэння? Хоць сто гадоў чакай! Вось пацярпеў караблекрушэнне кіеўскі паляўнічы Папуша, утапіў стрэльбу, але што мне з таго. У мяне свая бярданка ёсць. А то яшчэ некалі дзед Салівон у райцэнтр на рынак бульбу вёз і перакуліўся. Ды хіба ён дасць дабру прапасці, да поўначы бараду ў вадзе мачыў,

па картопліне з дна збіраў. Потым тыдзень чарапашкі і раску з барады вычэсваў. Не, на караблекрушэнне спадзявацца не варта. Пасёрбаў я з агідай недавараную юшку, што не паспела выцячы, пажаваў напаўсырую рыбу і сяджу.

Ужо зусім сцямнела, ноч сваю чорную апранаху на мяне накінула. Нават зорак на небе не відна — хмарна. Толькі вугалькі ў дагарэлым вогнішчы.

Ты ж ведаеш, я не баязлівы, але... У жываце холадна робіцца, і адтуль у сэрца страх перабіраецца — слізкі і агідны. Трэба нешта рабіць, бо ён зараз сэрца сцісне, і нікуды не дзенешся. Палез у будан, намацаў ліхтарык, засвяціў. Знайшоў сшытак па мове (ты ж ведаеш, я і сшыткі і «Граматыку» на дзедавых вачах узяў — нібыта ў цёткі буду вучыцца). Аловак адшукаў у торбе.

Табе цікава, ці праўда, што я ўрокі вучыць збіраўся? Не! Каб ты ведаў — Рабінзон Круза на востраве дзённік пісаў, запісваў усе падзеі, якія з ім здараліся. Што ж я горшы за яго? Я таксама, як і ён, на востраве. А на востраве без дзённіка нельга.

Ну, усё па парадку я пісаць не ўмею. Я табе не пісьменнік. Вырашыў я кораценька запісваць толькі факты — дрэнныя і добрыя. Правёў па сярэдзіне ліста ў сшытку рыску,

раздзяліў яго такім чынам на дзве палавіны — левую і правую. У левай зверху напісаў «Прыгоды» (гэта добра, гэта для мяне, ты ж ведаеш, наогул галоўнае, дзеля гэтага я на востраў высадзіўся, без прыгод маё жыццё — не жыццё, асабліва на востраве). На правай палавіне напісаў зверху «Непрыемнасці» (што ж зробіш, бывае).

Доўга я думаў, доўга грыз аловак і нарэшце напісаў. І вось што ў мяне атрымалася:

**Прыгоды**

1. Налавіў рыбы і з'еў.

**Непрыемнасці**

1. Апёкся на сонцы.
2. Загнаў пад пазногаць скабку.
3. Згубіў кручок (адзін з лепшых).
4. З'еў паўторбы харчу.
5. Уцяклі амаль што ўсе чарвякі.
6. Працякае каструля, і я не знаю, у чым юшку варыць (хоць у жмені вары).

Як бачыш, адна прыгода і тая дробная, як пячкурык. А непрыемнасцей ажно шэсць, і ўсе вялізныя, як акулы.

Усё гэта я пісаў, прыціскаючы локцем сшытак да калена і чыркаючы сабе над вухам ліхтарыкам, таму што вогнішча ўжо дагарэла, а

зноў яго распальваць мне не хацелася (толькі не думай, не таму, што хмызняк трэба было ў цемры непрыветлівай збіраць).

Ліхтарык у мяне, ты ж ведаеш, «дынамічны», вечны, ніякіх батарэек не трэба. Пачвыркаеш — і светла. Не чвыркаеш — няма святла. Чвыркай сабе і пішы. Або не чвыркай і не пішы. Я чвыркаў. Паўгадзіны пасля гэтага ў мяне ў вуху гудзела. І рука адзервянела, нібыта я локцем аб край стала стукнуўся.

Напісаў я і думаю — усё, дзень скончыўся і больш нічога не будзе.

Спаць не хочацца — удзень выспаўся. Я сеў на беразе, абхапіў рукамі калені, і думкі розныя ў галаве снуюцца: пра вёску, пра школу, пра цябе (што ты там зараз парабляеш, спіш, пэўна)...

Ражок месяца з-за хмаркі вытыркнуўся — як шабля,— асвятліў плёс серабром.

Нябачныя качкі прасвісталі-прашалясцелі крыламі над галавою, і зноў ціха. Ветру няма, і нават заўсёды шапаткія чараты маўчаць, не перашэптваюцца між сабою.

Я гляджу сабе на ваду і думаю.

Ажно раптам цень упаў на плёс: доўгі-доўгі, бо якраз супраць месяца. З-за чаратоў выплыў човен — без гуку, без усплёскаў, як прывід. І гэта было самае страшнае (нібыта ў сне). У чоўне на поўны рост стаяў нехта выса-

чэзны і доўгім вяслом нячутна правіў. Я залыпаў вачамі — ці не прывід?! Не! Човен плыў проста да вострава. Рабіўся большым, большым, як на экране ў кіно: каля самага берага павярнуўся і знік за прыбярэжнымі карчамі. Сэрца маё так забухала ў грудзях, што зямля задрыжала. Хто гэта?! Хто гэта ноччу ў плаўнях? Вадзянік? Вядзьмар? Нячысцік?.. Ды што гэта я? Толькі старыя непісьменныя бабулі ў гэта вераць. А я ж піянер! Барабаншчык! Я веру ў радыё, у тэлевізар, у касмічныя ракеты! І адразу ж успомніў пра Гуньку... Таго самага прыдуркаватага Гуньку, які два гады таму знік, прапаў у плаўнях... Гунька! А што, калі гэта Гунька? Што, калі ён таксама, як я, жыве ў плаўнях, на бязлюдным востраве? Гунька! Ён жа вар'ят, нічога не разумее. Ён можа ўбачыць мяне, падумаць, што я нейкі злы дух (чаго б гэта звычайны хлопец апоўначы быў у плаўнях!), і задушыць. Задушыць — і нічога яму не дакажаш. Хоць крычы, хоць плач, хоць прасі... Нібыта слімакі пачалі поўзаць у мяне па спіне — халодныя, слізкія, мокрыя. Нібыта хтосьці шворку зацягнуў на шыі — дыхнуць нельга.

Я замёр, прыслухаўся. Нават сэрца, здалося, спынілася, каб я лепш чуў. З-за кустоў пачуўся ўсплёск, нешта шубоўснула ў ваду, нібыта некага выкінулі з чоўна. Можа, гэта

Гунька некага вёз і ўтапіў? Цяпер мая чарга. Я не мог больш усядзець на месцы. Я падхапіўся, адступіў некалькі крокаў адзервянелымі нагамі да будана. І раптам на некага наткнуўся... Нехта вялізны схапіў мяне пруткімі рукамі за плячо. Спалоханы войк захраснуў у маім горле — не вырваўся. Я ўздрыгнуў, убрыкнуў некага нагамі, упаў. Хтосьці наваліўся на мяне, драпнуў мяне па твары і...

Тут расказ Рабінзона Кукурузы абрываецца, бо Паўлуша ў гэтым месцы войкнуў, перабіў і пачалася размова, якой чытач не зразумее, пакуль не пачуе пра тое, што здарылася ў той дзень і тую ноч з Паўлушам Заўгародным.

## РАЗДЗЕЛ XV,

### які зноў расказвае Паўлуша Заўгародны. Пра тое, што ён рабіў у той дзень і тую ноч

Прыехаў я з вострава Пераэкзаменоўкі, дзе пакінуў свайго сябра Кукурузу на дваццаць восем гадоў два месяцы і дзевятнаццаць дзён. Выцягнуў човен на бераг. І адразу ўсхадзіўся яго ладзіць. Да абеду правазіўся, усе дзюркі наноў зашпакляваў і прасмаліў добра. Працаваў заўзята — гэта ж наш з Кукурузай човен,

з якога мы яшчэ падводную лодку хацелі зрабіць, дык няхай гэты наш човен будзе ў парадку. Я нібыта выканаў нейкі абавязак перад Кукурузай.

Пакуль быў заняты работай, дык яшчэ нічога, а як пайшоў пасля абеду на вуліцу, як глянуў на тую высокую таполю за варотамі, каля якой мы кожны дзень сустракаліся з Кукурузай з самай раніцы, каб не разлучацца да позняга вечара, дык такая нуда мяне ахапіла, хоць плач. Такой бязлюднай здалася мне вуліца, уся вёска, увесь свет — нібыта бязлюдны востраў. Ёсць людзі — і няма іх, бо няма сярод іх майго найлепшага сябра.

І сабакі нібыта не гаўкаюць. І пеўні не спяваюць. І каровы не мукаюць. Нібыта прапалі гукі ў наваколлі — так вось у кіно бывае.

Сноўдаюся па вёсцы, месца не знаходжу. І кожны куточак, кожны кусцік і дрэўца кожнае пра яго мне нагадваюць. Вось тут мы ў цуркі-палкі заўсёды гулялі. У гэтых кустах хаваліся, калі шчыглоў лавілі. На гэтым дрэве змаганне верхалазаў было. Памятаеш, тады яшчэ галіна пада мной паламалася і я дагары нагамі на суку павіс, а потым упаў проста на галаву і думаў, што галава мая ў плечы зусім угрузла — дыхнуць не мог. Гы-гы! А ты не смяяўся, ты мне штучнае дыханне рабіў. Думаеш, я гэта забуду!

А вунь стары калодзеж, з якога мы, не, з якога ты Сабакевіча выцягнуў. Не думай, я яго даглядаю. Толькі што яму вось такі кавалак мяса даў. За абедам не з'еў, для яго збярог. Так што не хвалюйся.

А вунь будыначак Фарадзеевіча, дзе мы... З форткі выходзіць гурт юннатаў на чале з Фарадзеевічам. Нешта ўзрушана абмяркоўваюць.

— Глабулус... Наш глабулус... кіеўскія юннаты... прафесар... бліскучыя вынікі... толькі б не асаромецца...— далятаюць да мяне абрыўкі сказаў.

А, навошта мне ваш глабулус, вашы вынікі, калі няма са мною лепшага сябра! Калі ён на бязлюдным востраве... Усё роўна мне, усё роўна...

Гурр...— грузавік праехаў. Кныша. І ў кабіне з Кнышом — Бурміла. Куды гэта яны? А, няхай едуць куды хочуць!

Быў бы ты, мы абавязкова ззаду прычапіліся б. А як жа. А самому... Нецікава мне аднаму. Не ловяцца шпіёны. Калектыўная гэта справа.

Да позняга вечара блукаў я, самотны, па памятных для мяне мясцінах.

Нарэшце лёг спаць. Ляжу, а мне не спіцца. Я думаю. За вокнамі цёмна — хоць вока выкалі. На небе ні зорачкі — хмарна.

Што робіць там, на бязлюдным востраве, мой сябар Кукуруза? Ці спіць? Навокал нікога. Дагарэла вогнішча, і з усіх бакоў насоўваюцца чорныя хімерныя цені. А ён адзін, няма з кім словам перакінуцца, толькі слухае, як стукае яго сэрца.

А што, калі здарылася з ім якая-небудзь бяда і крычыць, кліча ён на дапамогу, і ніхто-ніхто не чуе, толькі лупатыя жабы раўнадушна крумкаюць у адказ, качары ў чаратах кракаюць і рэха стогалосае коціцца-коціцца па вадзе і не дакочваецца да людзей, губляецца, заблытваецца ў густых чаратах. Хто яму дапаможа, хто выратуе?!

Я ляжу, напружыўся ўвесь, затаіўшы дыханне. І раптам пачулася мне, што недзе далёка-далёка разнеслася тонкае і сумнае: «А-а-а-а!» Ці гэта ледзь чутны гудок цягніка на далёкім паўстанку, ці гэта сапраўды голас — ці зразумееш. Але сэрца ўжо шалёна б'ецца ў грудзях, і чамусьці я ўпэўнены, што сябар у бядзе. І ніхто ж, ніхто не ведае, дзе ён. Акрамя мяне. І ніхто туды дарогі не знойдзе.

Не, не магу я спакойна спаць, калі друг у бядзе. Не магу.

— Мама,— кажу,— я пайду на сена спаць. Горача вельмі.

— Ідзі,— спрасонку кажа маці.— Толькі коўдру вазьмі, накрыйся добра.

Я бяру коўдру і выходжу з хаты. І адразу трапляю ў густую і нават, здаецца, ліпучую цемрадзь. Іду амаль што навобмацак, як сляпы. Каб неспадзеўку не рыпнуць форткай, крадуся ў сад і ўжо там перамахнуў цераз плот. Іду па вёсцы, як па лесе,— цемра і цішыня. Толькі ў адным месцы блымае агеньчык. Гэта на слупе каля сельсавета гарыць ліхтар. Вецер гайдае яго, і круглая светлая пляма коўзаецца ўзад-уперад па зямлі. А далей зноў цемра. Я двойчы ўжо спатыкнуўся і ледзь не ўпаў. Але вось і рэчка. Тут трошкі святлей. Цьмяна блішчыць вада. Я сядаю ў човен, асцярожна, каб не намачыць, кладу на нос коўдру (чаго я яе ўзяў, сам не ведаю) і адплываю. Рукі мае — як бы і не мае. Грабуць механічна — я іх амаль не адчуваю. І ўсё цела не маё: нейкае драўлянае. І галава не мая. Нібыта ўсё не ў сапраўднасці адбываецца, а ў мроях. Шалясцяць чараты, нібыта па спіне маёй шкрабаюць.

Толькі б не збіцца з дарогі, толькі б не заблудзіцца! Першы плёс. Струга. Другі плёс. Цяпер направа. Вунь той гнілы астравок, каля якога тануў Кукуруза. Правільна. Добра плыву. З-за хмар выглянуў месяц, і не толькі ў плаўнях, а і ў душы маёй адразу зрабілася святлей і весялей. Яшчэ трохі, яшчэ... Ужо блізка. Вунь яшчэ адна струга. Потым паварот

і — нібы з вузенькай вулічкі выбраўся я на вялізную плошчу. Шырокі роўны плёс пасерабрыўся рагатым месяцам. І раптам зялёная купіна вострава здалася гіганцкай казачнай гарой сярод бязмежнага мора, і да той гары далёка-далёка, а сам я маленькі-маленькі, як камар.

Здалося мне, што я нават бачу незвычайна прыгожыя гарады на схілах гары, з палацамі, з высокімі вежамі (гэта перапляліся вербавыя галіны), і коннікаў нават бачу, што імчаць па горных павілястых дарогах (ці не птушка паварушылася ў чаратах), і нават чую цокат капытоў (гэта звінела ў вушах ад цішыні). Вось як часам перablытвае ўсё чараўнік-месяц.

І тым больш неверагоднымі і фантастычным здалося мне тое, што я раптам убачыў. А ўбачыў я велічэзную шэрую постаць на чоўне каля самага берага — нібы казачны волат Гулівер трапіў у краіну ліліпутаў. Я ўздрыгнуў ад нечаканасці. Хто гэта? Кукуруза? Але ж у яго няма чоўна. Нейкі рыбак? Але ж рыбакі ніколі так далёка ў плаўні не заплываюць, ды яшчэ ноччу. Рыба каля самай вёскі выдатна ловіцца...

Кныш? Бурміла?

Сэрца ў мяне пакацілася-пакацілася некуды ўніз... Тым часам той човен знік за прыбярэжнымі чаратамі. Мне так захацелася па-

вярнуць назад і штосілы пусціцца наўцёкі. Але я стрымаўся. Там жа на востраве Кукуруза, мой сябар, зусім адзін. Я плыву да яго на дапамогу. А можа, менавіта цяпер, у гэтую хвіліну, мая дапамога вельмі-вельмі патрэбна. У мяне ж човен. І калі незнаёмы, якога я толькі што бачыў, сапраўды Кныш або Бурміла, хоча нарабіць бяды майму сябру, я выратую яго — мы ўцячом на чоўне. Хутчэй, хутчэй! Я налёг на вясло і скіраваў човен да берага — вядома, з іншага боку. Прыстаў, вылез і асцярожна пачаў красціся. Кукуруза, напэўна, у будане — можа, і спіць, бо не чутна ні гугу. Клікаць яго небяспечна — адразу звернеш на сябе ўвагу таго тыпа.

Ох, як цёмна, якія карчы. Нічога не відна. Раптам там, дзе быў незнаёмы, нешта шубоўснула ў ваду. Сэрца ў мяне спынілася. Што гэта?.. Што? Ой! А што, калі гэта... ён ужо ўтапіў майго сябра?! Халодны пот абсыпаў мой лоб. Мінула хвіліна, другая. Я стаяў у абсалютнай цемры, выцягнуўшы ўперад рукі, і не мог паварушыцца. І раптам... раптам на мае рукі нехта наткнуўся. Вялізны, як мядзведзь. Рукі мае міжволі канвульсіўна сціснуліся, учапіліся ў яго грудзі, адпіхваючы. У наступны момант я адчуў страшны ўдар па нагах і паляцеў на зямлю. Але чамусьці не назад, а наперад, на яго. Мабыць, ён падбіў мяне і кі-

нуў на сябе. Я войкнуў і шалёна пачаў малаціць рукамі і нагамі, вырываючыся. Драпнуў па нечым мяккім, здаецца, па абліччы, штосілы рвануўся, скочыў на ногі і кінуўся наўцёкі. Я імчаўся цераз карчы, ламаючы галіны, спатыкаючыся і налятаючы на дрэвы. Але я не адчуваў болю ні ад драпін, ні ад udараў. З разгону ўскочыў я ў човен і, схапіўшы вясло, штосілы пачаў грэбці ад берага. Я ніколі не веславаў так шалёна, човен ляцеў, як ракета. Увесь час я ў паніцы азіраўся — ці не гоніцца ён за мной. Не! Пагоні не было. Апамятаўся я толькі тады, калі прыстаў да берага каля сяла. Я ўвесь час трымцеў ад напружання, стомы, перапалоху. Але, нягледзячы на стомленасць, па вёсцы я таксама не ішоў, а бег амаль што ўвесь час — у поўнай бяспецы я мог адчуць сябе толькі ў сваім двары. Мокры канец коўдры (намачыўся ўсё ж такі) ляпаў мяне па спіне, нібыта падганяў. Як палена, упаў я ў сена каля паветкі і доўга ляжаў зусім нерухома — аддыхваўся. У галаве, нібыта ў сапсаваным тэлевізары, мільгалі адрывістыя кадры толькі што перажытага. Што ж здарылася? Хто гэта быў? Няўжо Кукуруза загінуў? Што рабіць? Можа, пабудзіць бацьку, усё расказаць, сабраць людзей і — туды... А калі Кукуруза не загінуў? Я ж не ўпэўнены ў гэтым. Тады яго таямніца раскрыецца і

атрымаецца, што я здраднік. О не! Здрадзіць сябру — гэта жахліва. Я ніколі не пайду на здраду. Усё, што хочаце, толькі не гэта. Што ж рабіць? Што рабіць? Доўга я мучыўся гэтым пытаннем, але так нічога і не змог прыдумаць. Нарэшце стома і сон перамаглі, і я заснуў.

Начная прыгода была настолькі невераемнай, што калі я раніцай прачнуўся, то нават падумаў спачатку, ці не прыснілася мне гэта.

Ды вось да мяне падышла маці, нахілілася:

— Ну, як спалася на вуліцы, сынок? О, чаму гэта коўдра мокрая? Хіба ноччу быў дождж? Ці, можа...— маці ўсміхнулася.

Я густа пачырванеў.

— Ды што ўжо... гэта... гэта... я... вады захацелася, кружку сюды ўзяў і разліў выпадкова.

Добра, што маці спяшалася даіць карову і не пачала распытваць.

Начная прыгода ўспомнілася мне з усімі падрабязнасцямі. Але цяпер яна не здавалася мне такой жахлівай, як ноччу. Можа, таму, што раніца была сонечнай і вясёлай, а, як вы ведаеце, усе начныя страхі раніцай перайначваюцца. Ноччу ўсё здаецца яшчэ страшнейшым ад таго, што цёмна і ціха і людзі спяць. А раніцай свеціць сонца, шчабечуць птушкі,

бразгаюць вёдрамі жанкі каля калодзежа і навокал людзі. Я быў бадзёры і энергічны. На востраў! Неадкладна трэба на востраў. Даведацца, як жа там сябар — ці жывы...

Хуценька памыўшыся, я пабег у хлеў. Маці яшчэ даіла. Цялё таксама лезла да каровы. Маці адганяла яго: «Пайшло! Пайшло!»

— Мама! — паклікаў я.— Дайце малака хутчэй, калі ласка, бо я бягу.

— Куды гэта ты? Зараз снедаць будзем.

— Ды потым. Я не хачу. Я малака толькі. Я з хлопцамі дамовіўся на рыбу.

— Хоць хлеба вазьмі.

Выпіў я шклянку малака, схапіў вялікі акраец хлеба — за пазуху — і на вуліцу з усіх ног. За вароты выбег і з разгону проста на дзеда Вараву наскочыў — не заўважыў. Аж пахітнуўся ён.

— Цьфу на цябе! — буркнуў сярдзіта.— Бач, разагнаўся, як голы ў лазню!

— Прабачце! Добрай раніцы, дзеду!

— Здароў! Куды гэта цябе нясе? Як, не раўнуючы, сабакі гоняцца ўслед. Людзей з ног збіваеш.

— Ды я на рэчку, на рыбалку з хлопцамі дамовіўся.

— Праспаў, гультай? — ужо спачувальна і дакорліва запытаў дзед: сам жа рыбак — разумее.

— Ага! Дык я пабягу. Прабачайце! — А сам думаю: «Эх, не ведаеце вы, нічога не ведаеце, куды я спяшаюся. Калі б зналі, не тое б заспявалі...»

## РАЗДЗЕЛ XVI

### «Сягоння ноччу...» Таямніца вось-вось раскрыецца

З трапяткім сэрцам даплываў я да вострава. І чым бліжэй падплываў, тым больш трапятала маё сэрца: жывы ці нежывы, жывы ці нежывы...

І раптам радасць шалёным крыкам вырвалася з маіх грудзей:

— Ого-го-го!

Я ўбачыў яго. Жывенечкі і цэленькі стаяў мой дружа Кукуруза на беразе, вытыркнуўшы з карчоў галаву, і радасна ўсміхаўся мне. Толькі нос у яго быў аблуплены і на правай шчацэ наўскасяк ружавела свежая драпіна. Але што гэта значыць для такога геройскага хлопца, як Кукуруза? Так сабе!

Калі я прыстаў да берага, мне хацелася кінуцца і абняць яго ад радасці, але я стрымаўся. Я толькі штурхнуў яго ў плячо і запытаў:

— Ну як? Як ты тут?

— Нічога,— ляснуў ён мяне па жываце і адразу дадаў, узяўшыся рукою за шчаку і хітаючы галавой:

— Тут такое было-о-о...

— Што?! — запытаў я, нібыта нічога не падазраваў.

— Ты ўсё роўна не паверыш, падумаеш, што я зманіў.

— Ну?

— Шпіёны на мяне ноччу нападалі. От табе й ну! Біўся я. Так біўся, як ніколі ў жыцці. Думаў, што загіну. Вось бачыш,— ён ткнуў пальцам у падзёртую шчаку, тады задраў сарочку і паказаў сіняк на рэбрах.

— Ну? Ну? — нецярпліва запытаў я.— Як жа яно было?

— Чакай. Я ўсё па парадку.— І Кукуруза пачаў расказваць мне ўсё тое, пра што вы ўжо ведаеце.

Калі ён дайшоў да апісання бойкі з незнаёмым — як ён убрыкнуў нагамі, як незнаёмы ўпаў на яго і пачаў драпацца,— у мяне ў жываце раптам нешта засмяялася, прабулькала ў горле і вырвалася кароткім гікам.

Кукуруза ад абразы толькі хмыкнуў.

— Ты што — дурны? Табе, вядома, смех. Паспрабаваў бы ты.

— Ану, паўтары яшчэ раз, як яно ўсё было,— папрасіў я.

Кукуруза паўтарыў.

Я пахітаў галавой, уздыхнуў і сказаў:

— Гэта быў я.

Кукуруза вылупіў на мяне вочы, потым моўчкі скруціў дулю і паднёс да майго носа:

— На!

Я адвёў яго дулю сваёй дуляй і паўтарыў:

— Гэта точна быў я... Глядзі,— я закасаў калашыну і паказаў на назе вялізны сіняк.— Твая работа.

І расказаў усё, што здарылася са мной гэтай ноччу. Кукуруза толькі лыпаў вачамі.

— Дык выходзіць, што гэта... што гэта... біліся мы з табой? А мне ж здавалася, што быў нехта такі вялізны...

— А мне, думаеш, не? Проста волат.

Мы пераглянуліся і раптам як зарагаталі.

— Вось здорава!

— Вось гэта штука!

— І як я мог цябе не пазнаць?

— А я?

— Хоць бы слова сказаў.

— А ты чаго ж — як вады ў рот набраў?

— З перапуду.

— З перапуду!

— А незнаёмы, значыць, і не вылазіў з чоўна?

— Не вылазіў.

— А куды ж потым падзеўся?

— Знік недзе. Паехаў. Я на дрэва з перапалоху залез — усю ноч на галіне, як малпа, прасядзеў, аж да світання. І вачэй не звёў. Толькі як развіднела, уніз спусціўся і задрамаў трохі.

— А чаго ён прыязджаў, як ты думаеш?

— А я ведаю? Не ў госці ж да мяне, напэўна.

— А ты чуў, як нешта ў ваду боўтнула?

— Чуў, вядома. У мяне аж у жываце нешта здрыганулася.

— Можа, кагосьці ўтапілі? Га?

— Хто яго ведае.

— Дык, можа...

— Цыць! — Кукуруза раптам схапіў мяне за руку.— Прыгніся.

Яшчэ не ведаючы, у чым справа, я паслухмяна прыгнуўся.

— Глянь! — прашаптаў Кукуруза.

На плёс выплыў човен. У ім сядзеў Кныш. Човен плыў тым самым «курсам», што і ноччу. Каля вострава. Потым знік за карчамі.

Мы кінуліся ў траву і паўзком — туды. За тымі карчамі востраў канчаўся. Там нікога не было.

— У човен!

Мы кінуліся да пласкадонкі.

Кукуруза спыніўся.

— Узяць ружжо?

— Не трэба! — запярэчыў я, потым дадаў: — Няма калі.

Мы селі ў човен і пачалі набліжацца да таго месца, дзе ноччу знік незнаёмы. І хоць была раніца, свяціла сонца, сэрцы ў нас біліся трывожна — мы не ведалі, што нас чакае там, за карчамі. А што, калі сапраўды нешта жахлівае...

За карчамі пачыналася струга. А навокал — густыя чараты. Шлях быў адзін. Мы ўплылі ў стругу. Яна была вузенькая, але роўная і амаль што нікуды не паварочвала.

Неўзабаве мы выплылі на невялікі плёс і ўбачылі востраў. Я здзіўлена глянуў на Кукурузу. Гэта быў Высокі востраў. Вунь і Бурмілаў будан — «прэзідэнцыя» — якраз каля берага. Я і не ведаў, што па гэтай струзе можна трапіць на Высокі востраў.

Мы асцярожна падплывалі да берага. Каля яго стаялі два чоўны.

З будана даносіліся галасы Бурмілы і Кныша. Іх не было відаць. Мабыць, сядзелі каля вогнішча — курыўся сіні дымок.

— Нядобра гэта...— дакараў Бурміла.— Нядобра.

— Хопіць ужо — «нядобра»! Маральны кодэкс мне знайшоўся. А жакі ноччу хто ставіць?

— Ды што ты! Пару паставіў, гнілых ней-

кіх, маленькіх. Туды і рыба не ідзе. Каб я так бога бачыў!

— Нічога-нічога. За гэта Савецкая ўлада таксама па галоўцы не пагладзіць.

— Але ж... Дык гэта ж зусім іншая справа.

— Ну, калі ты такая цаца, дык і каціся адсюль, не ўмешвайся. Каб я цябе тут і не бачыў. Сёння ноччу сам усё зраблю — і ўсё тут! І глядзі мне!

— Ды добра ўжо! Толькі хоць цяпер ідзі адсюль, бо як прыедуць тыя юннаты... Каму гэта трэба!..

Я схапіўся за вясло.

— Давай адсюль, ён зараз паплыве.

Добра, што чоўны ў нас такія, што можна і носам і кармою (яна таксама вострая) плысці. А то не развярнуліся б — вузка. Ды і не паспелі б. А так мы як узяліся — заднім ходам у стругу, да вострава Пераэкзаменоўкі.

І толькі калі добра замаскіравалі човен у чаратах каля свайго вострава — аддыхаліся.

Дык вось яно што! Значыцца, ноччу Бурміла жакі ставіў. А мы ледзь не пазабівалі адзін аднаго.

Але што сёння ноччу Кныш будзе рабіць на Высокім востраве?! Нават Бурміла яго адгаворваў. Пэўна ж, не ў цуркі-палкі гуляць!

— А можа, ён хоча глабулус украсці і за мяжу перадаць? — кажа Кукуруза.

— А ён хіба сакрэтны?

— А што ты думаеш, можа, і сакрэтны. Ва ўсякім выпадку, акрамя глабулуса, на гэтым востраве няма што красці. Не жаб жа.

Няўжо глабулус?

І раптам я ўспомніў.

Гэта было месяца паўтара таму. Я паехаў з мамай на рынак. Яна папрасіла дапамагчы падвезці ёй кошыкі.

Рынак у нас у райцэнтры, дванаццаць кіламетраў ад вёскі. Раней туды на чоўнах ездзілі. А цяпер часцей на веласіпедах. Хутчэй.

Паехалі мы. Мама на «Украіне», я на сваім «Арлёнку». Не люблю я рынкаў, ды што ж зробіш.

Адвёз я кошыкі, збіраюся назад ехаць. І тут бачу — Кнышыха. Гандлюе там, дзе прадаюць насенне, сухія травы ды розныя «спецыі». На скрыні, за якой яна стаіць, прыклееены партрэт касманаўта Паповіча.

Спрактыкаваным рыначным голасам Кнышыха выкрыквае:

— А каму лябулі? А каму лябулі? Дваццаць капеек пучок! Каму лябуля? Чыстая лябуля! Сто працэнтаў вітамінаў. Усе вітаміны! А! Б! В! Г! Д! Больш нідзе не купіце! Навaліся, у каго грошы завяліся.

Яе абкружылі пакупцы. Гандаль ідзе поўным ходам.

— У чаёк заварыць,— паясняе Кнышыха нейкай маладзіцы.— Ад злога вока памагае... Ад прыстрэку... Ад...— шэпча нешта маладзіцы на вуха.

— Ну?! — радасна-здзіўлена кажа маладзіца.— Дайце тры пучкі.

— Саступілі б трохі, цётка... Дорага,— дакарае каторая.

— Дорага — міла, дзяшова — гніла, мая даражэнькая. Не магу меней,— і Кнышыха зноў убівае нешта ў галаву нейкай дачніцы.— Можна і ў боршч... Смаката! Бярыце, дама, не пашкадуеце. Мужык вам ногі будзе цалаваць!

І зноў заводзіць сваё:

— Ану — водарасць! Лекавая водарасць для ўсяго! Смачная прыправа для халоднага і гарачага. Можна ў чай. Можна ў гарэлку. Можна сушыць. Можна варыць. Можна ў далёкую дарогу. Ежа касманаўтаў! — тыцнула пальцам у партрэт касманаўта Паповіча.— Трыццаць капеек пучок. Украінскі жэньшэнь.

Пакупцы ўсміхаюцца, але бяруць.

Прыгледзеўся я, чым яна гандлюе. Гэта былі пучочкі нейкай сушанай травы, а, можа, водарасці сапраўды. Але тое, што гэта не глабулус, і сумнення не было. Глабулус жа, як гаварыў Фарадзеевіч,— мікраскапічная аднаклеткавая водарасць і такі выгляд мець не магла.

Расказаў я тады пра ўсё гэта Яву, здзівіліся мы рыначнаму таленту Кнышыхі («Вось людзей абдурвае, змяя!»), а потым забылі. Чым толькі не гандлююць на тых рынках!

— Так ці іначай,— сказаў рашуча Кукуруза,— ты як хочаш, а я сёння ноччу...

Кукуруза не дагаварыў. Раптам з плёса даляцела звонкая песня:

Пусть всегда будет солнце,
Пусть всегда будет небо,
Пусть всегда будет мама,
Пусть всегда буду я!

## РАЗДЗЕЛ XVII

### Неспадзяваныя Ігар, Валька і іншыя

Галасы былі бадзёрыя, піянерскія. Здавалася, што проста па вадзе і балоце крочыць праз чараты вясёлы піянерскі атрад. Мы здзіўлена пераглянуліся — што такое? Потым ірвануліся з месца і пабеглі на бераг — туды, адкуль было відаць. Але нічога не ўбачылі. Перашкаджаў чарот.

Мы хутка ўзлезлі на старую вярбу, пад якой стаяў будан. Гэта было самае высокае дрэва на востраве. І тады ўбачылі — на плёс выплывалі белыя, як лебедзі, лодкі. У лодках

сядзелі піянеры — у белых майках, белых панамках, з чырвонымі гальштукамі.

У першай лодцы стаяў на поўны рост стройны высокі юнак у белых штанах, без майкі, але таксама з чырвоным гальштукам. Гэта быў, мабыць, важаты. Пад бронзавай скурай выпіналіся магутныя мускулы. Здавалася, гэты юнак — проста з фізкультурнага плаката «Рыхтуйся да значка ГПА!».

Ды вось песня закончылася, і важаты гучна сказаў:

— Сябры, прапаную на гэтым востраве зрабіць прыпынак! Як вы думаеце, таварыш штурман? — нахіліўся ён да маленькага галавастага хлопца з насупленымі бровамі, які сядзеў на карме.

— Толькі так,— вельмі сур'ёзна адказаў хлопец. Усе чамусьці засмяяліся.

— Тады трымайце курс на востраў, штурман! — у тон яму сказаў важаты.

— Толькі так! — паўтарыў хлопец, і зноў усе засмяяліся. Але хлопец не звярнуў на гэта ўвагі. Хоць бы хны!

Адна за адной лодкі падплывалі да берага. І адразу востраў ператварыўся ў піянерскі лагер: смех, крыкі, беганіня. Хто гуляў у мячык, хто плёхаўся ў вадзе, хто лавіў сачком матылькоў. Сярод піянераў мы пазналі некалькі васюкоўскіх юннатаў, але яны былі не з на-

шай вуліцы, мы іх дрэнна ведалі. Мы сядзелі на дрэве, не ведаючы, што нам рабіць — ці паказвацца, ці не. Але доўга раздумваць нам не давялося. Нейкая цыбатая дзяўчынка падбегла да будана і крыкнула:

— О! Глядзіце! Тут нехта жыве!

Усе збегліся да яе. Падышоў і важаты. Смуглявы шустры хлопец з фотаапаратам на плячы шмыгнуў у будан і адразу ж выскачыў, трымаючы ў руках электрычны ліхтарык.

— Ліхтарык! — паясніў ён.— Механічны. Дае святло толькі тады, калі націскаеш на гэтую ручку.

І пачаў чвыркаць, паказваючы. Кукуруза неспакойна заёрзаў на галіне.

Цыбатая дзяўчынка таксама шмыгнула ў будан і выцягнула адтуль стрэльбу.

— Паглядзіце, сапраўдная, паляўнічая...

— Ой, асцярожна, яна, можа, зараджаная! Яшчэ стрэльне,— войкнуў нехта з дзяўчат.

Тут Кукуруза ўжо не вытрымаў:

— Ану, не чапай!

Усе адразу паднялі галовы. Хавацца ўжо не трэба было. Мы злезлі з дрэва. І адразу ж нас акружылі піянеры.

— Хто вы?

— Што вы тут робіце?

— Гэта ваш будан?

— І ружжо ваша?

— Вы паляўнічыя?

— Вы тут жывяце?

Я разгублена паглядзеў на Кукурузу.

Ён насупіўся і маўчаў.

— Ды яны, пэўна, проста рыбу ловяць тут. Гэта нашыя, з Васюкоўкі,— сказала васюкоўская юннатка, здаецца, з восьмага класа.

— Ці з дому ўцяклі,— дадала другая (мы пра яе ведалі толькі тое, што яна вельмі злая і дачка калгаснага бухгалтара).

— Ці ў індзейцаў гуляюць. Як «Маленькія дзікуны» Сетана-Томпсана. Памятаеце? — улезла цыбатая.

— Ці ў Рабінзонаў... Праўда ж? — сказаў важаты.

Я, зусім аглушаны, глянуў на Кукурузу. Мой сябар густа-густа пачырванеў. І раптам сказаў:

— Ні ў што мы не гуляем. У нас тут справа ёсць... А вы хто такія?

— А мы з Кіева. Юннаты мы,— засакатала вастраносенькая дзяўчынка ў акулярах.

— Прыехалі сёння,— перабіла яе цыбатая.

— От, Валька, не перабівай! Дай я скажу!— зноў засакатала вастраносенькая.— Сёння прыехалі. Прыехалі сёння. Так... Пачулі, што ў вас глабулус вырошчваюць, і вось прыехалі. Наш кіраўнік прафесар Дудка гаворыць, што... Вы ведаеце прафесара Дудку? О, гэта на

ўвесь свет знакамітасць. Гаворыць, што ваш глабулус незвычайны! Яны прыедуць заўтра — і прафесар, і карэспандэнт з «Зоркі». А мы сёння прыехалі. Прафесар і карэспандэнт таксама сёння прыехалі б, але ў прафесара сягоння тэрміновы вучоны савет у акадэміі. Неспадзявана. А ў нас ужо білеты былі. Вось мы і прыехалі. А вашы не хочуць нам паказваць глабулус без прафесара. Кажуць: «Заўтра». Ну, мы разумеем — людзі столькі стараліся. Ім хочацца, каб урачыста... Мы разумеем... А ў вас якая справа? Якая? Га?

Кукуруза нахнюпіўся:

— Справа... І ўсё тут...

— Сакрэт? Так? Сакрэт? — не хацела адчапіцца вастраносенькая.

— Вось яшчэ, Аксана! Прычапілася як смала! — сказала цыбатая Валька.— Раз не гавораць, значыць, сакрэт.

— Ну добра, не кажыце, не кажыце, хай будзе сакрэт, — згадзілася вастраносенькая Аксана.

— Дык мы вам, мабыць, перашкаджаем?— запытаў важаты.

— Не, аж да вечара можаце быць,— злітасціваўся Кукуруза.

— Ды не, мы толькі на гадзінку. Проста захацелася пакупацца і пасядзець на свежым паветры, каля вогнішча. Дзяўчаты з самага

Кіева пра гэта мараць. Вунь Аксана ні разу ў жыцці каля вогнішча не снедала,— усміхнуўся важаты.

— Яна і жывую карову ніколі не бачыла. Толькі на малюнку,— падміргнуў важатаму хлапчына з фотаапаратам.

— Ты вельмі многа бачыў! Зараз як дам! — кінулася на яго Аксана.

— Брэк! Бой закончаны! Перамога Аксаны! — весела сказаў важаты.— А цяпер — за справу! Памыйце прадукты. Распальвайце вогнішча!

— Толькі так! — аўтарытэтна пацвердзіў маленькі «штурман».

Піянеры адразу закрычалі і пабеглі да лодак.

— Ты, Ігар, распалі вогнішча,— сказаў важаты хлапчыне з фотаапаратам.— Ты ў нас майстар.

— Хадзіце, я пакажу, дзе ламачча,— па-гаспадарску прапанаваў Кукуруза.

І мы ўтрох пайшлі ў глыб вострава. Ішлі і, як гэта заўсёды бывае на пачатку знаёмства, ніякавата маўчалі — не ведалі, пра што гаварыць. І раптам Ігар, не адкрываючы рот (мы гэта добра бачылі), гучна не то бэкнуў, не то гаўкнуў. І адразу недзе ўнутры ў яго заіграла музыка. Сапраўдная музыка. Джаз. І потым нешта заспявала жаночым голасам па-нянаша-

му... Мы сталі і вылупіліся на Ігара. Што такое?

Ён засмяяўся і перасунуў на грудзі тое, што нам здавалася фотаапаратам.

— Прыёмнік! На транзістарах, паўправадніках. Толькі я яго ў футарале ад фотаапарата сабраў. Іншага не было. Ды і зручна. Цераз плячо насіць можна.

Вунь яно што. Дык гэта транзістарны прыёмнік, такі, як у дзеда Салівона! І як мы адразу не здагадаліся?

— Добрая рэч,— апамятаўся Кукуруза.— Колькі аддаў?

— Што — аддаў?

— Заплаціў колькі?

— Нічколькі. Сам зрабіў.

— Што-што? — Кукуруза скрывіўся і прыклаў далонь да вуха, нібыта не пачуў.

Я хіхікнуў.

— Сам, кажу, зрабіў,— сур'ёзна паўтарыў Ігар.

— Ага,— крыва ўсміхнуўся Кукуруза,— Я ж і пытаю: колькі заплаціў? У нашым магазіне «Турыст» прадаецца. Трыццаць пяць рублёў. Прыгожы, пад перламутр. Ну, а гэты, вядома, горшанькі.

— От дзівак, не верыць. Ну, як хочаш.

З кустоў выйшаў важаты.

— Пра што гэта вы, хлопцы, спрачаецеся?

— Ды нічога, проста так,— махнуў рукой Кукуруза, але потым, глянуўшы знізу на важатага, запытаў яхідна: — Дзядзька, а ў вас усе піянеры такія во... ці адзін толькі?

— А што такое?

— Проста ён гаворыць, што сам гэты прыёмнік зрабіў. Можа, тая ваша худая сама аўтамабіль зрабіла, а той «штурман» — у космас лятаў?

— Адносна аўтамабіля і космасу не скажу, а вось прыёмнік ён сапраўды сам зрабіў. Гэта праўда. Ён у нас малайчына. У радыёгуртку ўжо трэці год. Акадэмікам будзе.

Важаты гаварыў сур'ёзна, без жартаў. Не верыць яму было немагчыма. Кукуруза адразу скіс — насмешлівыя агеньчыкі ў вачах патухлі, куточкі вуснаў апусціліся.

Я таксама здзівіўся. Мне чамусьці заўсёды здавалася, што ўсе гэтыя разумненькія вучні, якія майструюць дзеючыя мадэлі атамных ледаходаў і самалётаў, абавязкова павінны быць хударлявымі, заморанымі, у акулярах. І абавязкова дзікаватымі. А тут перад намі стаяў звычайны канапаты хлопец — мускулісты, загарэлы, відаць, фізкультурнік. Неяк ён больш уяўляўся на спартыўнай пляцоўцы, сярод гаманлівай ватагі расхрыстаных хлопцаў, а не паглыбленым у пераблытаныя цельбухі радыёпрыёмніка.

Мы маўчалі, разгубленыя, збітыя з панталыку.

Важаты ўважліва паглядзеў на нас і наўмысна сярдзітым голасам сказаў:

— Ну што вы, браткі, разгульваеце тут, а ламачча не несяце. Людзі ж галодныя! Ану, хутчэй!

Гэта адразу вывела нас са здранцвення. Мы кінуліся збіраць ламачча. І праз хвіліну цягнулі ўжо цэлыя абярэмкі. Асабліва стараўся Кукуруза. Ён столькі цягнуў, што я баяўся, каб у яго пуп не развязаўся.

Цыбатая Валька, убачыўшы, войкнула ад захаплення:

— Ого-го!

І я не ведаю, ад чаго быў такім чырвоным Кукуруза, ці ад напружання, ці ад гэтага «огого». Ён наогул вельмі часта паглядваў на гэтую Вальку. Знайшоў на каго глядзець. Страшыдла нейкае! Лупатае, цыбатае! Цьфу!

Горшая за Грабянючку ў сто разоў!

Усе стаялі вакол і здзіўляліся, як спрытна распальвае Ігар вогнішча. Бач ты, гарадскі, а ўмее...

Неўзабаве пасярод паляны ўжо лізала неба вялізнае полымя.

— Ну, а чыя сёння чарга варыць?

— Сашкі! — радасна выкрыкнула цыбатая Валька.

— Сашкі! Сашкі! Правільна! — закрычалі з усіх бакоў, і ўсе паглядзелі на «штурмана».

— Твая? — запытаў важаты.

— Толькі так,— адказаў той.

— Значыць, нам сёння шанцуе,— усміхнуўся важаты.

— Шанцуе! Шанцуе! Юшку! Сашачка, абавязкова юшку! Юшку! — зліліся ў адзін дзесяткі крыкаў.

— Толькі так! — упершыню за ўвесь час усміхнуўся, заківаў галавою Сашка.

Цяпер, калі ўсе стаялі вакол вогнішча, было асабліва добра відна, што Сашка вельмі маленькі, меншы за іншых. Можа, таму ён і трымаўся так сур'ёзна, каб здавацца больш салідным. Але было прыкметна і тое, што яго ўсе любяць і калі нават смяюцца з ягонага «толькі так», дык зусім не абразліва, а хутчэй лагодна.

Сашка забегаў, рыхтуючы ежу. Дзяўчаткі дапамагалі яму, абіралі бульбу, чысцілі рыбу, якую дасталі з сеткі, прывязанай да кармы аднаго з чоўнаў і апушчанай у ваду. Іншыя піянеры разышліся па востраве. Неяк само сабой атрымалася, што мы апынуліся каля Ігара. Ігар сядзеў на пяньку і стругаў сцізорыкам кіёчак. Мы з Кукурузай сядзелі каля пянька, уткнуўшыся падбародкамі ў калені, і задумліва калупаліся ў зямлі. Потым Кукуру-

за кхыкнуў і, насупіўшыся (каб прыхаваць ніякаватасць), сказаў хрыпла:

— Дай паглядзець... Прыёмнік... Можна?

Ігар адразу адклаў убок сцізорык і палачку.

— А чаго ж... Вядома. Калі ласка.

Ён адкрыў футарал.

— Вось настройка, вось дыяпазоны, гэта гучнасць— паказаў, дзе што круціць. Кукуруза схіліўся над прыёмнікам. Засоп.

І я свой нос усунуў. Кукуруза адпіхнуў мяне локцем.

— Не хукай туды. Запацее і сапсуецца.

Ігар усміхнуўся.

— Ды нічога. Ад гэтага не сапсуецца.

Доўга Кукуруза круціў ручкі, і мы моўчкі, затаіўшы дыханне, слухалі галасы далёкіх краін.

— Та-ак... Каштоўная рэч,— сказаў нарэшце Кукуруза і дабавіў: — Ну, па фізіцы ў цябе, вядома, пяцёрка?

— Пяцёрка,— проста і без ганарлівасці адказаў Ігар.

— А двойкі калі-небудзь ты хапаў? — з надзеяй запытаў Кукуруза.— Хоць па паводзінах, хоць бы па спевах? Ці круглы выдатнік?

— Выдатнік,— з прабачэннем у голасе сказаў Ігар.— Усе нашыя юннаты выдатнікі. Такая ўмова.

Кукуруза ціха ўздыхнуў.

У гэты момант з кустоў выглянула Валька. Відаць, дзяўчаты ўжо закончылі чысціць рыбу. Я яе бачыў, а Ігар, які сядзеў да кустоў спіною, не. Валька ціхенька падкралася да яго, і я не паспеў нават раскрыць рот, як яна моцна штурхнула яго з пянька. Ігар нічога не padзраваў і, вядома, паляцеў потырч.

— Дамам трэба заўсёды даваць месца,— сказала Валька, сядаючы на пянёк.

Ігар, устаючы і абцярушваючыся, толькі ўсміхнуўся ў адказ.

Мы з Кукурузай здзіўлена пераглянуліся.

Вось дык справа! Талковага хлопца — фізкультурніка, які змайстраваў во які прыёмнік, цыбатае дзяўчо штурхае сабе так, быццам гэта не хлопец, а нейкая мэбля.

І ён толькі ўсміхаецца...

Калі б, напрыклад, са мной такое зрабіла ну хоць бы тая ж Грабянючка, я ёй так даў бы, так даў бы, што яна б доўга памятала.

Але што гэта з Кукурузай?!

— Ану, дай мне,— нахабна гаворыць Валька і працягвае руку да прыёмніка, які трымае Кукуруза. І Кукуруза, цяля, спакойненька аддае прыёмнік. Цьфу, дурны! Што гэта — яе прыёмнік, ці што?! Чаго яна распараджаецца! Бач, якая разумная!

Аднак усе гэтыя выкрыкі, вядома бязгучна, праносяцца толькі ў маёй галаве. Я маўчу. Гэта ж не мой прыёмнік, і не ў мяне яго адбіраюць.

Валька пачала настройваць прыёмнік, паптушынаму нахіліўшы галаву набок і пазіраючы ў неба. Натрапіла на нейкую цягучую мелодыю і раптам радасна ўскрыкнула:

— О! О!

Мы перапалохана глянулі на яе — што такое?

Мройна гледзячы на плёс і ўважліва слухаючы музыку, яна ціха сказала:

— «Лебядзінае возера»... Адажыо...

Я скрывіўся. Цьфу, задавака! Такое гаворыць, што й не ўцяміш!

А Кукуруза напусціў на сябе сур'ёзнасць і, насупіўшы бровы, кажа:

— Не, гэтае возера хутчэй не Лебядзінае, а Качынае, бо лебедзі ў нас не водзяцца. Затое качак — як той раскі.

Валька раптам як зарагоча:

— Ой, трымайце мяне! Ой, не магу! От дзівак! Я ж не пра гэтае возера, а пра музыку. «Лебядзінае возера». Балет кампазітара Чайкоўскага. Якраз цяпер вось перадаюць.

Абліччa Кукурузы быццам апарылі. Уся кроў, якая толькі была ў ягоным арганізме, кінулася ў твар.

— Можна падумаць, што я не знаю,— сярдзіта буркнуў ён.— Цудоўна знаю гэты вядомы балет. А пра нашае возера я проста так сказаў. Для інтарэсу... Для смеху...

Я адвярнуўся. Не магу я глядзець чалавеку ў вочы, калі той маніць. А Кукуруза зараз хлусіў адчайна. Нічога ён не ведаў, ніякага «Лебядзінага возера». Бо слых у яго вельмі-вельмі дрэнны. Спяваць ён мог толькі са мною. Падцягваць. Я злаваў на Вальку, якая прымусіла майго сябра так ілгаць. І наогул, навошта яна прыехала да нас?

І раптам, нібыта падслухаўшы мае думкі, Валька рэзкім рухам выключыла прыёмнік і сказала:

— Вы на мяне сярдуеце, хлопцы, так? Што я прычапілася, так?.. Дык я зараз пайду. Вы не сярдуйце. Проста мне хацелася пазнаёміцца з вамі.

І так проста яна гэта сказала, што мне зрабілася ніякавата. І ні я, ні Кукуруза не знайшлі, што адказаць.

Валька паднялася, усунула Кукурузе ў рукі прыёмнік і пабегла да вогнішча.

— Дзівачка нейкая. Праўда? — пацісnуўшы плячамі, ніякавата прамовіў Кукуруза.

— Яна харошы хлопец, — неспадзявана пачырванеўшы, сказаў Ігар.— У нас з ёй усе сябруюць. А чаго ты не ўключаеш прыёмнік?

Ты ўключай, не саромейся. Я нядаўна памяняў батарэйку.

Я ўважліва глянуў на яго і зразумеў, што ён наўмысна мяняе тэму гаворкі, што болей пра Вальку гаварыць не варта. Я яго добра разумеў. Мне таксама было б непрыемна, калі б нехта пачаў гаварыць пра Грабянючку.

Не знаю, колькі мы прасядзелі на беразе, каля пянька, але неўзабаве ад вогнішча даляцеў голас важатага:

— Ігар, хлопцы, ідзіце хутчэй! Юшка гатова!

— Пайшлі,— сказаў Ігар.

Як раніцаю выпіў я шклянку малака, дык больш і крошкі ў роце не было — быў я цяпер галодны, як арыштант. І гэтая прапанова мне, вядома, вельмі спадабалася. Думаю, што Кукуруза хацеў есці не менш за мяне, таму што пасля ўсіх начных перапалохаў зусім не снедаў.

Але неспадзявана ён сказаў Ігару:

— Ты ідзі, а мы тут пасядзім. Мы якраз перад вашым прыездам добра паснедалі.

Я залыпаў вачамі і разявіў рот, але прамаўчаў.

— Ды не выдумляйце, хлопцы, хадзем! Такой юшкі вы зроду не елі,— угаворваў Ігар. Кукуруза ўпарта адмаўляўся. Нарэшце Ігар махнуў рукою:

— Ды ну вас! Пачакайце, я зараз важатаму скажу! — і пабег да вогнішча. Але праз хвіліну замест важатага прыбегла цыбатая Валька. І адразу накінулася на нас:

— Гэта што такое? Ану, марш есці юшку! Калі б вы мяне запрашалі, я хіба адмовілася б? Я б адмовілася, калі б вы мяне запрашалі?! Ану, хутчэй!

І, на маю радасць, Кукуруза, які так упарціўся перад Ігарам, раптам адразу зніякавеў і пакорліва паплёўся за дзяўчынай. І мне зноў чамусьці ўспомнілася Грабянючка...

Не ведаю, ці гэта, можа, я проста быў вельмі галодны, ці сапраўды юшка была смачная, але я такой зроду не еў. А я ж разбіраўся ў юшцы. У нашым сяле ўсе ўмелі яе варыць, ды і сам я колькі разоў варыў. Але гэтая проста аж дых забівала — такая смачная. Усе прыцмоквалі і хвалілі Сашку-«штурмана». А ён сядзеў каля сагана з чарпаком у руках і, насуплены, як заўсёды, уважліва сачыў, каму даць дабаўкі.

Цяпер я добра зразумеў, чаму ўсе так узрадаваліся, калі гатаваць абед выпала Сашку. Ён быў для ўсіх прызнаным кухарам.

Неўзабаве ўсе панаядаліся і палеглі на траве вакол вогнішча — адпачыць. Нехта замармытаў мелодыю, хтосьці падцягнуў, і песня

вырасла, памацнела і паляцела над плёсам, ажно папрыгіналіся чараты...

Як было прыемна вось так ляжаць на траве тварам уверх, пазіраючы ў блакітнае бяздоннае неба, і хорам спяваць песню! Здавалася, уся зямля, увесь свет чуе яе.

Важаты ціхенька падняўся, пайшоў да чоўнаў і вярнуўся з акардэонам. Песня загучала яшчэ мацней і яшчэ больш зладжана.

Калі закончылі «Раве ды стогне Днепр шырокі», важаты сказаў:

— А цяпер нашу, піянерскую,— «Вейце агнямі». Пачынай, Саша.

— Толькі так,— адгукнуўся Сашка, пракашляўся і, пачакаўшы, калі акардэон закончыць уступ, заспяваў. Я ніколі б не падумаў, што ў яго такі чысты, звонкі і высокі голас. Вось табе і дзікаваты «штурман» Сашка: «Толькі так». Мала таго, што выдатны кухар, дык яшчэ і спявак!

Нават калі ўсе падхапілі песню, і тады быў чутны яго голас, які чайкай узлятаў над хваляй іншых галасоў у хоры.

Спявалі мы гадзіны паўтары, а то і болей. Якія толькі песні мы не спявалі! І народныя, і рэвалюцыйныя, і старыя камсамольскія, і сучасныя, і песні з кінафільмаў...

Потым Ігар сказаў:

— А цяпер, можа, няхай Валька патанцуе...

«Зараз будзе нос дзерці, а яе ўгаворваць»,— падумаў я.

Але яна адразу ж згадзілася.

— Калі ласка, магу станцаваць.

Тут я заўважыў, што Кукуруза чамусьці пачырванеў і неспакойна завалтузіўся на месцы. Дарэчы, я яшчэ і раней, калі спявалі, заўважыў, што мой сябрук Кукуруза ўвесь час пазіраў на Вальку, а калі яна выпадкова падымала на яго вочы і іхнія позіркі сустракаліся, ён адразу ўтаропліваўся ў зямлю.

— Украінскі танец казачок! — аб'явіў важаты і зайграў на акардэоне.

Валька пачала танцаваць. І адбылася дзіўная змена. Нязграбная цыбатая Валька ўмомант ператварылася ў лёгкую птушку, кожны рух якой зліваўся з музыкай.

І цыбатыя ногі яе, вось гэтыя цыбатыя ногі, на якіх, здавалася, нельга нават устаяць (вось-вось упадзеш), гэтыя ногі, ледзь дакранаючыся да зямлі, нібыта ўвесь час былі ў паветры, у палёце — стройныя, моцныя і пругкія.

Каля майго вуха часта-часта, як натомлены, нібыта ён сам танцаваў, дыхаў Кукуруза. А калі Валька закончыла танец і ўсе пачалі апладзіраваць, ён не стаў апладзіраваць, а, су-

стрэўшыся са мною позіркам, чамусьці нахмурыўся і адвярнуўся.

Потым Аксана чытала вершы Маякоўскага. Добра чытала, толькі вельмі крычала — пэўна, ажно ў вёсцы чутно было.

А потым пачалі купацца. Ігар плаваў кролем, Сашка-«штурман» брасам, ды і Валька нядрэнна плавала (праўда, па-дзявочаму, задраўшы галаву і фыркаючы, як кацяня). Але скакаць у ваду з вярбы ніхто не ўмеў. І вось тут мой сябар Кукуруза паказаў, што такое васюкоўскія хлопцы. Уздзёрся на саменькую вершаліну, разгайдаўся, як малпа, на галіне і я-ак скокнуў — амаль хвіліну ляцеў і амаль на сярэдзіну плёса заляцеў. Усе толькі ахнулі. А важаты сказаў:

— Малайчына! З цябе можа атрымацца добры спартсмен. Табе трэба ў секцыю па скачках з трампліна. Малайчына!

Кукуруза ажно пачырванеў ад задавальнення.

Мяне распірала, і я захацеў даказаць, што я таксама геройскі хлопец. Я папляваў на рукі і пашкробся на вярбу. Але мяне напаткала няўдача. Прыкрая, жахлівая няўдача. Я зачапіўся за сучок і разарваў трусы, нават рызінка лопнула. Пра тое, каб скакаць, і размовы не магло быць. Прытрымліваючы сваё няшчасце адной рукою і ледзь не заплакаўшы ад со-

раму, я спусціўся ўніз. Але ніхто не стаў здзекавацца з мяне. «Нічога, бывае. З кожным можа такое здарыцца»,— супакойвалі мяне ўсе. Я толькі ўздыхаў і ад прыкрасці махаў рукою. Дзяўчаткі прапанавалі мне зашыць трусы, але я катэгарычна адмовіўся. Сядзець галяком, пакуль дзяўчаты будуць зашываць парванае,— лепей утапіцца! Я ўзяў у іх толькі іголку з ніткаю і палез у будан — зашываць сваю ганьбу. Там, у цемры, доўга і няўмела я торкаў іголкаю, пакалоўшы сабе пальцы і каўтаючы слёзы сораму.

Неспадзявана мой позірк упаў на кніжку, што ляжала ў кутку будана, прыкрытая лісцем. Я зацікавіўся, пацягнуў яе. Гэта была «Граматыка». Я спачатку здзівіўся, але потым успомніў, што Кукуруза яе ўзяў, каб пусціць пыл у дзедавы вочы.

У «Граматыку» быў закладзены сшытак. Я разгарнуў гэты сшытак (няхай прабачыць мне мой сябар такую цікавасць!). На першай старонцы пачынаўся «Дзённік Рабінзона Кукурузы». Што там — вы ўжо ведаеце: «прыгоды» і «непрыемнасці» першага дня. «А што далей?» — зацікавіўся я. Перагарнуў старонку — і вылупіў вочы. Далей ішлі практыкаванні. Амаль палавіна сшытка была спісана практыкаваннямі з падручніка — і на дзеясловы, і на назоўнікі, і на прыметнікі.

Практыкаванні былі напісаны алоўкам — таксама, як і дзённік. Можна было не сумнявацца — усё гэта пісалася ўжо тут, на востраве.

Дык вось яно што!

Рабінзон Кукуруза, які збіраўся пражыць на бязлюдным востраве дваццаць восем гадоў, два месяцы і дзевятнаццаць дзён, рыхтаваўся да дыктанту.

Ах ты ж хітрун! Ах ты вужака! Твая гордасць, твая шалёная гордасць атамана не дазволіла прызнацца, што ты старанна рыхтуешся да дыктанту, і ты ўцёк ад людскіх вачэй на бязлюдны востраў і зубрыш граматыку. Ну, чакай! Я табе... А дарэчы, што «чакай»? Хіба я скажу яму што-небудзь?! Хіба я хачу, каб ён застаўся на другі год? Ды не! Вядома ж, не! І я нічога яму не скажу, ні слова, ні паўслова. Няхай думае, што я ні аб чым не здагадваюся. Няхай думае!

Я хуценька паклаў сшытак і «Граматыку» на месца і прыцерушыў лісцем, як і не чапаў.

Ад гэтага адкрыцця мне адразу зрабілася лёгка і весела — нібыта пасля дажджу сонейка засвяціла. Пра свой сорам я і думаць перастаў. Зусім іншым чалавекам выскачыў я з будана. Усе заўважылі перамену ў маім настроі і цяпер смела пачалі насміхацца.

Неспадзявана з плёса данеслася:

— Го-го! Вось вы дзе!

Да вострава падплываў яшчэ адзін човен. У чоўне сядзелі Рыгорка Бардадзім і некалькі нашых хлопцаў-юннатаў.

— Амаль гадзіну вас шукаем,— сказаў важатаму Бардадзім, вылезшы на бераг.— Нас Фарадзеевіч прыслаў. Запрашае вас да сябе. Хоча паказаць свае новыя гатункі гародніны і садавіны. Пачаставаць хоча.

— Ой! Навошта ж я так наелася! — у роспачы ўскрыкнула Аксана.

Усе засмяяліся.

— Нічога! Пакуль даедзем, утрусіцца,— супакоіў яе важаты.— Ну што ж, сябры, давайце збірацца!

Пачалася мітусня.

— О! А вы тут што робіце, басякі? — здзіўлена запытаў Бардадзім, заўважыўшы нас.

— У іх справа. Сакрэтная! — таямніча сказала Аксана.

— Што-о? — скрывіўся Бардадзім.— Справа? Якая справа? У гэтых? У гэтых жэўжыкаў? Гэта ж вядомыя ў вёсцы басякі. Мабыць, нешта ўжо прыдумалі, нейкае глупства. Акрамя глупстваў, ніякіх справаў у іх не бывае...

Ніхто нават не засмяяўся. Мабыць, усім было ніякавата, і ўсе маўчалі.

Мы сталі чырвоныя, як два памідоры.

Мы хацелі праваліцца скрозь зямлю.

Эх! Калі б мы былі такія дужыя, як ты! Мы б табе паказалі! «Справаў! Справаў!» — гаварыць спачатку навучыся!

— І ніякія яны не басякі, а харошыя хлопцы! — адрэзала раптам Валька.

— Правільна! — падхапіў Ігар.

— Харошыя! Харошыя! Харошыя! — завярашчала Аксана.

— Толькі так! — крыкнуў Сашка-«штурман».

— Ну, няхай! Няхай! Няхай! — замахаў рукамі Бардадзім.— Вы — нашы госці, не будзем сварыцца. Паехалі хутчэй! Фарадзеевіч даўно чакае.

Нас абступілі Ігар, Валька, Сашка-«штурман» і іншыя піянеры:

— Да пабачэння!

— Бывайце!

— Бывайце здаровы!

Мы ўсім па чарзе пацiскалі рукі. І тут Валька сказала:

— Шкада, што мы не даведаемся, як закончыцца ваша сакрэтная справа...

Яна так аб гэтым шчыра шкадавала, што Кукуруза зноў пачырванеў. І раптам у Вальчыных вачах успыхнулі агеньчыкі:

— А ведаеце што! А вы напішыце нам! Я вам пакіну адрас, а вы напішаце, добра?

— Напішыце!

— Вядома!

— Няхай напішуць абавязкова!

— Напішыце! Напішыце!

— Толькі так! — як адрэзаў Сашка-«штурман».

А Валька пісала ўжо на нейкай паперчыне адрас.

— На,— сказала яна, працягваючы паперку Кукурузе.— Толькі глядзі, не згубі!

Кукуруза нічога не сказаў — моўчкі засунуў паперку за пазуху.

Яны селі ў чоўны.

— Давайце заспяваем на развітанне песню! — прапанавала Валька.— Заводзь, Сашка!

І яны заспявалі.

Мы доўга стаялі на беразе. Іх даўно ўжо не было відна, а песня яшчэ далятала з-за чаратоў і расплывалася па ўсіх плаўнях. Песня была пра дружбу.

Кукуруза доўга ляжаў у траве на палянцы і моўчкі глядзеў у неба. Я таксама ляжаў і глядзеў. Неба — яно такое, што на яго можна глядзець і глядзець. Гадзінамі. Глядзець і думаць. Я не ведаю, пра што думаў Кукуруза, але я зусім не здзівіўся, калі ён раптам уздыхнуў і сказаў:

— Так, зараз тэхніка, яна не тое што... а наогул... вядома... Кажуць, у такім вось гузіку — прыёмнік, у партсігары — тэлевізар.

А фотаапарат — дык зусім пад пазногаць схаваць можна...

— Што ж ты хочаш — на транзістарах, на паўправадніках,— сказаў я і пачырванеў.

Кукуруза ўздыхнуў і раптам мройліва сказаў:

— А здорава было б зрабіць нешта такое... на транзістарах. Цікавае і незвычайнае. Напрыклад, кіраванне каровай на адлегласці па радыё. Паміж рагамі нацягнута антэна. У вуха ўстаўлены маленькі прыёмнік (на транзістарах, вядома).

Пасвіць такую радыёкарову — адно задавальненне.

Сядзіш сабе дзесьці за тры кіламетры ў гародзе дзеда Салівона, аплятаеш кавун саладзенны (я лепш за ўсё тую сярэдзіну, таго самага чырвонага ваўка ў кавуне люблю. А ты? Ага... Так-так). Дык вось сядзіш, хрумаеш кавун. Потым глянуў у кішэнькавы тэлевізар, бачыш — твая Манька ў шкодзе, у калгасным просе. Націскаеш на кнопку і: «Манька-а! Ану, заварочвай, праклятая! А-ля-ля-ля!» І Манька — нібыта яе хто пугаю свіснуў — назад. А ты зноў сядзіш і аплятаеш кавун. Любата! Скажы?

— Яшчэ б! Калі б такое зрабіць, дык нагул...— кажу я.

Але вось Кукуруза ўстрапянуўся — не

ўмеў ён доўга сумаваць і раздумваць. Ён быў чалавекам дзеяння.

— Ну, добра, пра гэта потым... А цяпер давай падумаем, як мы будзем Кныша ноччу затрымліваць.

— Што? Затрымліваць?! Ды як жа яго затрымаеш? Ён жа нас патопіць, як кацянят.

— Патопіць? А ружжо навошта? Ты думаеш, для такой справы абавязкова патрэбны людзі з каламі? Ружжо — гэта, брат, не жартачкі. Гэта зброя. Бац — і будзь здароў!

— Ты што, думаеш у яго страляць? — са страхам запытаў я.

— Табе адразу страляць! Не страляць, але... калі што... Наогул, ружжа хто хочаш спалохаецца.

— Вядома,— згадзіўся я.— Толькі як жа я... ноччу... А дома? Табе добра, ты на бязлюдным востраве, табе няма ў каго пытацца. А я...

— Дык адпрасіся. Падумаеш! Прыдумай што.

— Што?

— Ну, што на рыбалку ідзеш ці яшчэ куды. Тут такая справа, можна сказаць, дзяржаўная, а ён...

— Ну, добра, нешта прыдумаю. Толькі цяпер мне трэба дахаты ехаць.

— Едзь, а я што...

Я сеў у човен.

Твар у Кукурузы быў сумны і хмуры. Відна, яму вельмі не хацелася заставацца аднаму на востраве. Ён хадзіў па калена ў вадзе вакол чоўна, абмацваў барты і бубнеў: «Вось тут трэба было б зашпакляваць, а тут падсмаліць, а гэтую дошку наогул замяніць». Яму хацелася яшчэ што-небудзь сказаць, ён пачухаў за вухам, шморгнуў носам і нарэшце насмеліўся:

— Ты знаеш. Ты прывёз бы мне хоць скрыпліка якога. Захацелася, як перад смерцю. А то ўсё рыба ды рыба.

Скрыплікамі называлі ў нас тыя самыя цукровыя пернікі, што прадаваліся ў сельмагу. Усохлыя і цвёрдыя, што дровы, яны скрыпяць, калі ўгрызаешся ў іх зубамі. Адзін скрыплік можна есці цэлы дзень. Мажа, за гэта мы і любілі іх.

— Добра, прывязу, а як жа,— сказаў я і адапхнуўся ад берага.

## РАЗДЗЕЛ XVIII

### У сне і наяве

— Дзе ты цэлы дзень бегаеш не еўшы? Дзіва, ажно вочы паўпадалі,— дакорлівымі словамі сустрэла мяне маці.

— Ды што вы, мама! Я юшкі во як наеўся. Ох і смачная! Там адзін Сашка такі майстар

выявіўся — лепшы за любога кухара,— тут я неспадзявана апамятаўся, ледзь паспеў сабе рот рукою затуліць.

— Пра якога гэта ты Сашку?

— Ды пра... пра... Юрчышынага,— пачаў я выблытвацца, як уюн з сеткі.— Той, што каля млына жыве, дзядзькі Міхайлы сын.

А ў самога ажно ўсярэдзіне млее. А што, калі яго маці сёння на вёсцы бачыла? Тады прапаў. Не, пранесла! Маці нічога не сказала. Значыць, не бачыла.

— Дык што, добра клявала? — лагодна ўсміхнуўшыся, запытала маці.

— Паганенька! Ледзь-ледзь на юшку налавілі,— не чырванеючы, хлусіў я.— Мы сягоння на ноч збіраемся. На плёс. Пусціце.

— Пабачым, пабачым. Ідзі вунь дроў насячы, бо ўсе ўжо кончыліся.

І я, рады, што ўсё так добра абышлося, пабег секчы дровы.

Да абеду я ўсё ваўчком-ваўчком каля маці — то вады прынясу, то памыі выллю, то ў хаце падмяту. Такі добры, што хоць ты да раны прыкладвай. А што зробіш, калі трэба, каб на ноч пусцілі. Кукуруза ж будзе чакаць.

Пасля абеду нечага мае вочы пачалі зліпацца — даліся ў знакі начныя прыгоды. Прылёг я пад грушай у халадку і адразу заснуў як пшаніцу прадаўшы.

І прыснілася мне нешта дзіўнаватае. Не сон, а проста кіно.

Стаю я, значыць, на беразе вострава Пераэкзаменоўкі. Стаю і бачу: выплывае на плёс карабель, вялізны акіянскі белы карабель (я такія толькі ў кіно бачыў), трохпалубны, а труба большая за ўсю нашу хату. Я стаю і дзіўлюся: як гэта ён праз вузенькія стругі ў чаратах прайшоў. Але не паспеў я добра здзівіцца, як з карабля спускаюць трап і па трапе на бераг ідзе... Грабянючка. Падыходзіць да мяне і кажа:

— Добры дзень вам. Да вас на востраў прыехала нямецкая дэлегацыя піянераў. Вы будзеце перакладчыкам.

Я здзіўлена гляджу на яе, і мне хочацца сказаць: «Чаго гэта ты, варона, мяне на «вы» завеш?» — але чамусьці прыстойна адказваю:

— З вялікай радасцю. Але хачу нагадаць вам, што ў школе я вывучаю, як вам вядома, англійскую мову і па-нямецку размаўляю вельмі кепска. Па-нямецку я ведаю толькі тры словы: дэр Тыш, дэр Штуль і дэр Бляйштіфт.

— Нічога,— кажа Грабянючка,— цалкам дастаткова. Прымайце гасцей. Вось яны, калі ласка.

Я гляджу і бачу, што па трапе спускаюцца Ігар, Сашка-«штурман» і Валька.

«Вось яно што! Дык яны, атрымліваецца, нямецкія піянеры, а не нашы».

Мы ідзём па востраве і падыходзім да будана. Каля будана стаіць Кукуруза і калупае ў носе.

— Знаёмцеся. Губернатар вострава Пераэкзаменоўкі Рабінзон Васільевіч Кукуруза,— кажу я, як мне здаецца, па-нямецку, а сам думаю: «Цьфу! Чаго гэта я яго губернатарам ахрысціў? Што ён, капіталіст, ці што? Ён жа наш савецкі Рабінзон. Трэба было, мабыць, сказаць — старшыня сельсавета. Але ж які тут сельсавет, калі ён на востраве адзін!»

Між тым Кукуруза кажа:

— Калі ласка.

І мы ўваходзім у будан. Уваходзім у будан і спыняемся ў вялікім светлым пакоі, дзе ўсё белае, як у бальніцы. Пасярэдзіне на белым стале стаіць бліскучая нікеліраваная каструля.

— Каструля,— паясняе Кукуруза.— На транзістарах. Сама варыць. Без агню.

«Ты глянь. Вось чортаў Кукуруза! Так-такі навыдумляў усяго... на транзістарах».

— Дер Штуль? — пытае раптам Валька.

— Дер Бляйштіфт,— адказваю я, і сам здзіўляюся, як складна атрымліваецца. Яна ж запытала: «Слухайце, а як жа з вашай сакрэт-

най справай?» — а я адказаў: «Усё ў парадку. Не хвалюйцеся».

Якая цудоўная нямецкая мова! Адно слова скажаш, і ўсё зразумела. Трэба будзе на наступны год папрасіцца ў школе ў нямецкую групу. Абавязкова. Выдатнікам там стаць — раз плюнуць. Цяпер я разумею, чаму ўсе яны: і Валька, і Ігар, і Сашка — выдатнікі.

І тут раптам бачу: за спіной Валькі стаіць у капітанскай форме... Кныш. А каля яго — голы, у масцы і ластах, Бурміла.

«Вермахт... Падарунак ад немцаў... Дваццаць жалезных... Сягоння ноччу...» — успамінаю я, і ўсё ў мяне ўсярэдзіне пайшло, паехала ўніз.

А Кныш падыходзіць да мяне і грозна кажа:

— Даме заўсёды трэба даваць месца! — і з усяе сілы штурхае мяне ў грудзі.

— Толькі так! — чуецца голас Бурмілы.

І я лячу, лячу, лячу — некуды ў бяздонне. Гоп — і прачынаюся.

Чорт ведае што прыснілася.

І адразу я ўспомніў, што мне трэба ехаць ноччу ў плаўні. Калі «сягоння ноччу» — дык сягоння ноччу... І так мне зрабілася маркотна, што і перадаць не магу.

Маці не было — пайшла ў поле. Бацька з раніцы на рабоце. Нідзе нікога. А тут яшчэ гэ-

ты сон... Не мог я сядзець у самоце. Да людзей мяне пацягнула. На вуліцу. Як добра, што ёсць усё-такі на свеце людзі!

Вунь галапузая суседская дзятва ў брудным раўчуку караблікі пускае, а ўсё роўна, глянеш на іх — і лягчэй.

Зазірнуў я ў двор да Рэняў. Дзед Варава сядзіць на прызбе і мянташыць касу.

«Эх, нічога вы, дзед, не ведаеце, дзе зараз ваш даражэнькі ўнук Ява,— падумалася мне.— Калі б вы ведалі, не сядзелі б так спакойна. А сёння ноччу невядома што яго чакае! Сапраўдная ваенная аперацыя. Можа, і страляць давядзецца. Эх!»

Праскочыў я паўз адчыненую фортку, каб не заўважыў мяне дзед (а то яшчэ, чаго добрага, распытваць пачне!).

Іду вуліцай.

«А можа, не прыедзе Кныш? Захварэе ці яшчэ што-небудзь. Усякае ж бывае. Але — не, наўрад. Такія не хварэюць».

Насустрач Галіна Сідараўна.

— Добры дзень! — прывітаўся я ціхенька, а ў душы: «Бывайце, Галіна Сідараўна! Можа, і не пабачымся больш...»

Іду далей.

І раптам...

— Чаго гэта ты нос павесіў? Зноў нешта ўтварыў? — пачуў я неспадзявана. Каля ка-

лодзежа з вядром стаяла Грабянючка і пазірала на мяне насмешліва.— І чаго ты адзін? А дзе ж твой двоечнік? Можа, пасварыліся?

Мабыць, трэба было сказаць ёй штосьці рэзкае і ўедлівае: «Не твая парасячая справа», але мне не захацелася так вось гаварыць, і я проста адказаў:

— Ён у Пясках, у цёткі.

— А ты, бедненькі, ходзіш і плачаш.

І зноў я ўстрымаўся ад абавязковага ў такіх выпадках: «Сама ты плачаш. Вытры лепей пад носам», а шчыра прызнаўся:

— Не плачу, але сумую.

Мае нязвыклыя адказы, мабыць, здзівілі і расчулілі Грабянючку. Яна глянула на мяне са шчырым спачуваннем і сказала:

— Дык чаму ж ты да школы не прыходзіш, на спортпляцоўку? Мы там заўсёды ў валейбол гуляем і ў іншае.

— Ды-ы...— невыразна працягнуў я. І мне раптам вельмі захацелася расказаць ёй і пра востраў, і пра Кныша з Бурмілам, і нават пра сон, які мне сягоння прысніўся.

Я ледзь утрымаўся. Калі б гэта была толькі мая таямніца, дык я, пэўна, расказаў бы. Але — Кукуруза! Ён бы ніколі мне не прабачыў. Як цяжка часам быць верным сябрам!

А яшчэ я неспадзявана падумаў: «А ці ўмее Грабянючка танцаваць казачок?» І хоць

я не ведаў, але чамусьці вырашыў, што, мабыць, умее.

Пакуль мы гаварылі, яна апусціла вядро ў калодзеж і цяпер пачала выцягваць. Я спачатку назіраў, потым у душы махнуў рукой: «А! Кукуруза ж усё роўна не бачыць!» — і сказаў:

— Давай памагу.

Яна нічога не адказала, я ўзяўся таксама за ручку, і мы пачалі круціць удваіх. Мы круцілі так заўзята, што вядро гайдалася там, у глыбіні, стукалася аб бярвенні і чулася хлюпанне. Як вадаспад. Калі мы выцягнулі, вады было паўвядра. Мы глянулі адзін на аднаго і засмяяліся.

— Давай яшчэ.

Мне было вельмі весела вось так удваіх круціць корбу. Нашы рукі дакраналіся, мы штурхалі адзін аднаго, а адзін раз нават стукнуліся лбамі. І ўвесь час рагаталі. І стала шкада, калі вёдры ўжо былі поўныя. Яна ўзяла іх і пайшла павольна. Недзе ўнутры ў мяне варухнулася думка: трэба было б дапамагчы ёй, паднесці хоць да варот. Але на гэта ўжо ў мяне не хапіла пораху. І я толькі моўчкі глядзеў ёй услед. І думаў, што на бязлюдным востраве я ні за што на свеце не жыў бы. Нават за матацыкл з каляскаю.

«Бывай, Ганька! Можа, мы і не пабачымся болей. І ты ўсё жыццё будзеш успамінаць вось

гэтую сустрэчу каля калодзежа... Ой! — успомніў я раптам.— Кукуруза ж скрыплікаў прасіў прывезці. А прадмаг вось-вось зачыніцца».

І тут нібыта кіем стукнулі мне па галаве: «Ну-ну! У мяне ж грошай ні капейкі. А скрыплікі дзевяць капеек сто грамаў. Што рабіць? Калі мама альбо тата прыедуць, дык прадмаг будзе зачынены».

Грабянючка ўжо ўваходзіла ў сваю фортку.

— Гр... Гр... Ганька! — паклікаў я, мабыць, упершыню назваўшы яе па імені.

Яна хітнулася і ажно выліла трохі вады ад нечаканасці.

— Ганька,— падбег я да яе,— чакай! Ведаеш, пазыч мне дзевяць капеек. Маці з работы прыйдзе, я адразу аддам.

— Навошта? — здзекліва глянула яна на мяне.— На цыгарэты? Так? На цыгарэты?

— На якія там цыгарэты! Вельмі трэба... Я на рыбалку на ноч іду. Кручкоў купіць, а то сельмаг зачыніцца.

— Толькі ў мяне дзевяці няма, у мяне цэлых пяцьдзесят. Маці на кніжку дала. Ох, якая цудоўная кніжка.

— Дык я здачу прынясу. Я хутка.

— Пачакай, я вынесу.

Карацей кажучы, скрыплікаў я купіў, Грабянючцы здачу аддаў, а калі маці прыйшла,

і доўг вярнуў. Усё атрымалася добра. Нават не давялося доўга прасіць дзевяць капеек. Адразу дала. І на ноч адпусціла. Вось што значыць быць добрым і выконваць усё, што маці загадае!

Яшчэ і торбу прадуктамі напакаваў — нібыта на месяц ў падарожжа іду.

І калі зайшло сонца, я рушыў. Па дарозе ў сенцах намацаў доўгую вяроўчыну, якой маці бычка на выгане навязвае. «Хто ведае, можа, давядзецца звязваць, дык каб было чым»,— падумаў я, адчуваючы пры гэтым халадок у жываце.

## РАЗДЗЕЛ XIX

### «Рукі ўгару!»

Кукуруза з вудачкай у руках тырчаў па пояс у вадзе каля берага. Тырчаў, мабыць, даўно, бо нават пасінеў, як гусіны пуп, і ляскаў зубамі.

— Нечага сказаць, спяшаўся ты, як свёкар рукі мыць,— сярдзіта прамармытаў ён, але я заўважыў, што ён хавае радасную ўсмешку. Ён усё ж баяўся, што я не прыеду, і ўзрадаваўся, калі ўбачыў мяне.

Кукуруза выйшаў з вады і пачаў размахваць рукамі і прысядаць, каб сагрэцца. Потым запытаў:

— Ну як там? Што новага? Як мой дзед? Яшчэ ў міліцыю не заявіў?

— Ну што ты? Сядзіць сабе спакойненька і касу клепле. Пра цябе і не думае.

Кукуруза насупіўся. І я зразумеў, што яму непрыемна такое чуць. Яму, мабыць, здавалася, што ён ужо так даўно на гэтым востраве, а выяўляецца, што ніхто нават не заўважыў яго адсутнасці.

— Ну і правільна. І добра. Хутка наогул усе забудуць, што быў такі... І ўсё будзе ў парадку,— бадзёра гаварыў ён, але ў голасе чуўся сум. Каму гэта хочацца, каб яго ўсе забылі!

Я выцягнуў кулёк са скрыплікамі і працягнуў яму.

— О! Усё ж прывёз! Дзякуй! От засумаваў...— і ён адразу ўгрызся зубамі ў скрыплік.

— Ну, а што ты рабіў? — запытаў я.

— Ды што, рыбу вось лавіў і проста так...

— Ну, а дзённік свой ты хоць пішаш?

— Не, не пішу,— легкадумна сказаў ён, жуючы скрыплік.— Кінуў. Гэта ж тое самае, што ўрокі рыхтаваць. Ці для гэтага я на бязлюдны востраў запёрся?!

Я нічога не адказаў: я ж ведаў, што там — у дзённіку.

— Слухай, давай у цуркі-палкі пагуляем. Я так даўно не гуляў! — неспадзявана прапанаваў Кукуруза.

— А што, можна,— згадзіўся я.

І старыя стрэляныя качары, бяльматыя жабы, палахлівыя чарацянкі і іншыя жыхары плаўняў упершыню, мабыць, у сваім жыцці пачулі адчайнае і працяглае:

— Цуркі-палкі — накувалкі накую-ю-ю...

Да саменькага цямна гулялі мы з Кукурузай. Перасталі толькі тады, калі ўжо ні цуркі, ні нават палкі не відна было.

Яшчэ калі мы гулялі, чым цямней рабілася, тым большы неспакой мяне ахопліваў. Я, вядома, не хацеў прызнавацца Кукурузе, але з кожнай хвілінай нешта ўсё мацней муляла мне ўсярэдзіне. А калі зусім сцямнела, я ўжо быў, як кажуць, гатовы: ледзь стрымліваўся, каб не заляскаць ад страху зубамі.

— Ну, паехалі на Высокі,— сказаў Кукуруза. Ён выцягнуў з будана стрэльбу, зарадзіў.

Мы селі ў човен. Кукуруза на носе са стрэльбай. Я веславаў.

Ноч, як на тое, зноў была хмарная, без зорак, нібыта нехта ахінуў зямлю чорным радном.

— Значыць, план такі,— зашаптаў Кукуруза.— Я з ружжом, ты — з ліхтарыкам. Я кажу: «Рукі ўгору!», а ты ў гэты час свеціш ліхтарыкам і клічаш: «Таварыш Вялігура, заходзьце з правага боку! Мікалай Іванавіч, заходзьце з левага!» Каб ён падумаў, што нас

многа. Так нават сапраўдныя пагранічнікі робяць, калі затрымліваюць шпіёна.

— А... што мы потым будзем рабіць? Калі затрымаем яго? — пацікавіўся я.

— Як — што? Перададзім у міліцыю тавашу Вялігуру.

— Дык, значыць, ты свой востраў пакінеш і не будзеш болей Рабінзонам? Рассакрэцімся ж усе.

Ох, і навошта я гэта казаў!

— Не, ні ў якім выпадку! — катэгарычна зашаптаў Кукуруза.— Я застануся на востраве. А ты павязеш яго ў міліцыю.

Мне стала зусім дрэнна. Я амаль не выпусціў вясло з рук.

— Ды што... ды як... ды ну...— замармытаў я.

— Падумаеш! Павядзеш да міліцыянера, таварыша Вялігуры, і ўсё.

— Ды Вялігура ж будзе спаць,— амаль што плакаў я.— Што ж я ноччу адзін з гэтым злодзеем рабіць буду? Ён жа мяне прыдушыць.

— Не бойся! Я табе дам стрэльбу. Потым прывязеш.

— Н-не трэба. Н-не давай! — цяпер ужо катэгарычна зашаптаў я.— Я стрэльбы баюся болей за Кныша. Неспадзявана стрэльне. заб'ю яго, і тады мяне расстраляюць.

Я ўжо канчаткова зразумеў, што ў Кукурузы ніякага плана не было. Ён усё прадумаў толькі да таго моманту, калі скажа: «Рукі ўгару!» — і Кныш стане, хістаючыся, з паднятымі рукамі. А ўсё астатняе, атрымліваецца, павінен рабіць я. Чорта з два!

— Не! Так не будзе! Я адзін Кныша не павязу, як сабе хочаш.

— Ну добра ўжо! Да вёскі разам павязём, а тады я вярнуся. Нюні распусціў! Не ведаў я, што ты такі баязлівец.

Мне зрабілася сорамна. Кукуруза ўсё ж быў значна смялейшым за мяне. Бач, як трымаецца ўпэўнена!

Мы прысталі да Высокага вострава. Хвіліны дзве сядзелі ў чоўне цішком, затаіўшы дыханне,— прыслухваліся. Нічога нідзе ні гу-гу. Бурмілы няма (не відна чоўна). Паслухаў усё ж Кныша, застаўся дома, каб не перашкаджаць...

Зашылі мы свой човен у чарот, замаскіравалі. Самі залезлі ў карчы на беразе — я па адзін бок сцежкі, што да азярца вядзе, Кукуруза — па другі. Цяпер нам заставалася адно — чакаць, доўга чакаць, магчыма, нават усю ноч ажно да світання, пакуль Кныш не прыедзе.

— Спаць нельга. Ні хвіліны. Бо як пачнём носам кляваць, размякнем, будзем, як мок-

рыя куры, і нічога не атрымаецца,— ціха сказаў Кукуруза.

— Твая праўда,— уздыхнуў я. Мне ўжо цяпер хацелася спаць.

Я шырока раскрываў вочы, узіраўся ў цемру, у якой ледзь-ледзь можна было разгледзець абрысы чаратоў, але вочы самі па сабе закрываліся і даводзілася раз-пораз праціраць іх.

Мабыць, няма нічога больш цяжкага, чым не спаць, калі хочацца спаць. І, мабыць, няма больш доўгіх хвілін за гэтыя хвіліны соннага чакання ў цемры.

— Не спі, бо праваронім,— шыпіць з карчоў нябачны Кукуруза.

Калі б ён ведаў, як хочацца мне праваронiць! Ды хіба з ім праваронiш, з такім упартым! Няўжо ён і сапраўды не баіцца?

Маё ўяўленне малюе страшныя праявы. Кныш, выскаліўшы па-звярынаму зубы, б'е мяне вяслом па галаве, потым кідае ў рэчку, я глытаю ваду, задыхаюся-задыхаюся, трава аблытвае мяне і... Мне нават і на самай справе стала цяжка дыхаць. І навошта мы ўблыталіся ў гэтую справу? Сапраўды, хто ведае, што можа здарыцца? А што, як здарыцца нешта падобнае да таго, што мне зараз уявілася? Яшчэ добра, калі знойдуць нашы целы. Тады будзе гучнае пахаванне, з музыкаю, з прамо-

вамі. Хаваць будзе ўся школа, усё сяло. Усе будуць плакаць! Грабянючка, размазваючы па шчоках слёзы, будзе гаварыць: «А я ж бачыла яго напярэдадні. Ён быў такі добры, такі сціплы — дапамагаў мне выцягваць вядро з калодзежа. І Ганькай называў. Я яшчэ яму дзевяць капеек пазычыла. Каб ведала — я яму і ўсе пяцьдзесят аддала б. Які быў хлопец!»

Мне зрабілася так шкада самога сябе, і я здаўся сабе такім няшчасным, што ў горле ажно зашчымела.

Але Кукуруза нічога гэтага не разумее. Ён зноў шыпіць з карчоў:

— Не спі!

І я трагічна шапчу ў адказ:

— Ды не сплю я, не сплю, чаго ты!

Час ідзе. Ці гэта вочы да цемры прывыклі, ці святлее навокал, але ўжо лепей відаць чараты, і на вадзе водбліскі, і клубяцца ў небе хмары. А можа, гэта ўжо світае? Таму што ў мяне такое ўражанне, што сядзім мы тут цэлую вечнасць.

І раптам — нібыта нехта ўдарыў мяне ў грудзі нечым вострым. З цемры вынырнуў човен. Ён плыў проста да вострава. Бліжэй, бліжэй. У чоўне вяслуе грозная постаць.

Сэрца ў мяне звісла на тоненькай нітачцы — вось-вось парвецца. І тут у карчах клац-

нуў курком Кукуруза і адрывіста-басавіта крыкнуў:

— Р-рукі ўгарр-ру!

Я забыў пра ліхтарык, забыў, што менавіта мне трэба крычаць, і ў паніцы праверашчаў:

— Дзядзька міліцыянер, туды! Дзядзька міліцыянер, сюды!

І заціх, бы спалохаўся ўласнага голасу. «Ой, што ж гэта мы робім! Што мы робім! Ён жа яшчэ нічога шпіёнскага не зрабіў, а мы ўжо: «Рукі ўгару!» Ой, што ж гэта будзе!»

— Рукі ўгару! Рукі ўгару! — зноў, але ўжо не так басавіта, паўтарыў Кукуруза і таксама разгублена замаўчаў.

Нейкі момант панавала цішыня, потым...

— Га? — нібыта недачуўшы, запытала грозная постаць.

І... нешта глуха ўдарылася аб зямлю — гэта выпала з Кукурузавых рук стрэльба. А я шырока разявіў ад здзіўлення рот. І толькі цяпер успомніўшы пра ліхтарык, сціснуў яго рукою.

Перад намі стаяў... дзед Варава.

— Дзед, гэта вы? — плаксівым, разгубленым голасам запытаў нарэшце Кукуруза.

— Ды я ж, я,— гаварыў дзед, вылазячы на бераг.— Не пазналі, жаўтаротыя?..

Мы маўчалі. Кукуруза, відаць, чакаў і ба-

яўся дзедавых роспытаў — чаму падмануў, што ідзе да цёткі ў Пяскі, дзе быў, што рабіў, чаму гэтае — «рукі ўгару»... Але дзед моўчкі замаскіраваў свой човен у чаратах і ні аб чым не пытаўся, нібыта ён усё чыста ведаў. У такіх выпадках найлепш самому пра што-небудзь пытацца.

І Кукуруза нарэшце насмеліўся:

— Дзед, а як вы тут апынуліся?

— Тапіцца ехаў. З гора. Што ў мяне вось такі ўнук шалапутны.

— Ды не жартуйце, дзед.

— От, цікава мне з табою жартаваць.

— Ну, скажыце, дзед,— канючыў Кукуруза.

— Ты ж мне збрахаў, навошта ж мне праўду казаць.

— Ды я...— запнуўся Кукуруза. Бо што тут скажаш?!

— Эхе-хе,— сумна ўздыхнуў дзед.— Куды ж я мог ехаць! Цябе, дурніка, шукаў... Гэта ж узяў я сваю стрэльбу чысціць. У нядзелю адкрыццё палявання. Вырашыў і тваю пачысціць. Думаю, хоць ты і двоечнік, а шкада — усё роўна ж з цябе трэба паляўнічага зрабіць. Кінуўся, няма тваёй стрэльбы. Туды, сюды — няма. Няўжо, думаю, хто ўкраў?! Потым глянуў — набояў амаль што палавіны няма (яны ж у мяне, дурнік, палічаныя). Пачаў зда-

гадвацца. Тым больш, бачу я, і ватоўкі няма, у якой ты са мною на паляванне хадзіў. Але ўсё ж рашыў праверыць. І пайшоў ажно ў Пяскі да цёткі Ганны... Вось так ты мае старыя ногі шкадуеш! Туды сем кіламетраў, назад сем. Там цябе, ведама, не знайшоў. Ганне нічога не стаў казаць, каб не хвалявалася. Ну, думаю, няйначай як у плаўні збег хлопец, чортава душа. Я і сам туды яшчэ малым уцякаў, як бацька даў дыхту за разбіты глечык. Знаю... Прыйшоў я з Песак — ужо вечарэла. Лепей бы на раніцу пошукі адкласці, ды на душы неспакойна: «Ужо два дні той жаўтароцік адзін у плаўнях (бо ж дружка твайго я бачыў), а я, стары дурань, і вухам не вяду. Можа, ён галодны, можа, бог ведае што з ім. Усё-такі плаўні — не жартачкі. Чым дома сядзець, думаю, дай лепей паеду пашукаю.

І паехаў. Калі б не гэтае «рукі ўгару», мабыць, стары да раніцы па плаўнях сноўдаўся, як вадзяны. Вось так...

Кукуруза ўсяго мог чакаць: што дзед будзе лаяцца, што нават надзярэ вушы, як некалі. Але што дзед будзе гаварыць так проста і шчыра, ён, мабыць, не думаў. Ён пасумнеў і замаўчаў.

— Эх, няўжо я памру і не пабачу, як з цябе чалавек атрымаецца? — з болем сказаў дзед.

— Не кажыце так, дзед, не памрэце вы,— спалохана піскнуў Кукуруза.

— А ты што думаў — дзед вечны? На дзевяты дзесятак ужо павярнула. Вось-вось — і ў ямку старчаком. Ужо нядоўга...

— Я, можа, нават раней за вас памру. Вунь, памятаеце, як у мяне чыр наназе быў і тэмпература сорак... Так што не кажыце.

— Э, сынок, маладыя могуць памерці, а старыя мусяць памерці... Так ужо вядзецца. І не трэба ў гэтым змагацца. Лепш у чым іншым...

Запанавала маўчанне. Відаць, майго сябра канчаткова збянтэжылі і расхвалявалі дзедавы словы. Ды і мяне таксама. Ніколі я не бачыў дзеда такім. Заўсёды ён бурчаў, лаяўся, нават у карак мог даць, а тут... Эх, лепей бы ён нам вушы паабрываў!..

— Дзед! — жаласна прамовіў Кукуруза.— Вы не кажыце маме. Я вас прашу. Га, дзед?

— Дык што ж казаць? Няма чым радаваць.

— Я вучу граматыку, вучу, чэснае слова. І дыктант напішу.

— Пабачым...

— Вы думаеце, мы тут жарты строім? Мы тут... мы тут...

— Ды бачу — сочыце за некім. За кім гэта?

— За Кнышом.

— Огго! Чаго раптам?

Кукуруза хацеў усё паясніць, але тут дзед прыставіў далонь да вуха і ціха сказаў:

— Цыць!.. Потым... Плыве... Хавайцеся, хлопцы, хутчэй, пабачым, у чым тут справа.

Мы прыціхлі. А дзед ступіў толькі адзін крок да карча і — нібы растварыўся ў цемры. Прайшла хвіліна, дзве, а можа, і болей. І толькі пасля мы ўбачылі — са стругі выплыў човен. Як дзед Варава змог пачуць яго, не даўмею. Вось што значыць — стары паляўнічы.

Човен прыстаў да берага.

З чоўна вылез Кныш.

Нешта дзынькнула, упаўшы на зямлю. Кныш прамармытаў нешта, падняў, пайшоў па сцежцы.

Ён так блізка прайшоў каля мяне, што мне здалося, быццам ён вось-вось зачэпіцца за маю нагу, і я хуценька падцягнуў яе пад сябе.

У адной руцэ Кныш трымаў вялікі жалезны лом, а ў другой — вядро і друшляк, тое металічнае з дзюрачкамі, праз што варэнікі і галушкі працэджваюць.

Каля азярца Кныш паклаў лом на зямлю, зняў чобаты, зайшоў па калена ў ваду і пачаў друшляком нешта збіраць з паверхні азярца і абтрасаць у вядро.

— Гайда, хлопцы! — шапнуў дзед і, выйшаўшы з карчоў, гучна кашлянуў:

— Кахі, кахі!

Ад неспадзеўкі Кныш падскочыў, паслізнуўся — шубоўсь! — і сеў у ваду. Толькі галава з вады тырчыць і круціцца ва ўсе бакі разгублена.

— Памагай бог, чалавек добры,— спакойна прамовіў дзед.— Што гэта вы тут робіце?

— Ку-купаюся! — дурнавата выскаліўся Кныш і пачаў нязграбна падымацца.

— З друшляком? Зразумела!.. А бярыце, хлопцы, яго чобаты, ломік — арыштаваны ён. Павязём у сяло — там разбяромся.

— Ды што вы, дзядуля!.. Ды што вы, далібог! — замармытаў Кныш, вылазячы з вады.— Вось жартуюць! Гы-гы! Вось жартуюць!

— Давай-давай! — падвёў голас дзед.

— Ды ну, чэснае слова! Ды ну, што вы такое кажаце!

— Лезь, кажу, у човен сам! Бо звяжу!

— Ды пастойце, дзед! Я ўсё раскажу! Усё чыста! Невінаваты я... Далібог! Гэта ўсё яна! Турма народаў! Гэта ж як пачула пра той лябуліс, ну, як смала прычапілася: «Дастань ды дастань, яно пойдзе на рынку». Як з нажом да горла прыстала. Што ты зробіш! Няхай ужо, думаю, каб адчапілася, дастану трошкі. Паехаў. А атрымліваецца, па-першае, яно яшчэ не ўзнікла, а, па-другое, мікраскапічнае. Як ты тым, мікраскапічным, таргавацца будзеш?

Ну хоць дамоў не вяртайся! Вы ж не ведаеце маю бабу... Вырашыў я ёй нацягаць з вады якой іншай дрэні, каб толькі не чапілася (хіба яна разбярэ?). Падмануў яе, сам свядома падмануў. Не хацеў жа чапаць, калі ўжо вучні такую добрую справу робяць. Думаў, усё. Абышлося! І гандаль ідзе, і я спакойны. Але няшчасны мой лёс. Учора вось дазналася яна пра ўсё. Божа, што было! Хоць перахрысціся ды ўцякай. «Ты, крычыць, злачынец, ты, крычыць, падсудны! Я ж, можа, людзям якой школы нарабіла. Калі мне сапраўднай не прынясеш — са свету зжыву!» Ну што мне рабіць? Ну, зразумейце, дзед, хіба ж я хацеў? Далібог! Адпусціце, калі ласка.

Кныш замаўчаў, хліпаючы.

Мабыць, дзед расчуліўся — засапеў і захекаў.

— Ой, дзед, выкручваецца ён! Як вужака! — крыкнуў Кукуруза.— Яны тут з Бурмілам... у акваланзе для падводнага плавання... цэлае лета...

— Спецыяльна ў Кіеве купілі. Мы самі бачылі,— падхапіў я.— Заданне ў іх нейкае... ад вермахту... Мабыць, фашысцкі архіў з дна дастаюць. Як у Чэхаславакіі.

Кныш ажно сціснуўся ўвесь.

— Ды што вы, хлопцы! Што вы! Ды бара-

ні божа! Якое там заданне! Такое прыдумалі, далібог!

— А што ж? — запытаў дзед.

Кныш трошкі памаўчаў, потым раптам горача загаварыў:

— Ды знаеце, ды мы якраз, дзед, і пра вас думалі. Хацелі падарунчак вам зрабіць. Хоць вы і не п'еце, але ж на свята чарачку можаце... Хі-хі! Гэта ж, знаеце, даведаўся я, што ў вайну немцы тут спірт патапілі. Дваццаць, кажуць, каністр ляжыць. Герметычныя, што ім зробіцца. Дык вось думаем падняць. Толькі ж вы, дзед, калі ласка, нікому-нікому. Мы вам па дружбе дадзім. Нават і не думайце адмаўляцца. Гэта ж такая справа! Во якая! Хі-хі!..

Кныш засмяяўся дробненькім подлым смехам. Але смех адразу і абарваўся. Па дзедавым настроі Кныш зразумеў, што смяяцца няма як.

— Зразумела,— сурова сказаў дзед.— А ломік гэты навошта ўзяў?

— Ды проста так... проста...— замяўся Кныш.

— Хацеў усё зруйнаваць? Каб сляды замесці? Каб усё сплыло? Маўляў, стыхійная бяда? Так? — у голасе дзеда звінела металічная нянавісць.

— Вось баба праклятая...— пачаў Кныш, але дзед перапыніў яго:

— Годзе ўжо! Сядай! Паехалі!

— Ды, дзед,— плаксіва пачаў прасіцца Кныш.— Ды мы ж з вамі суседзі. Што вам — больш за ўсіх трэба? Я ж нічога не зрабіў, не паспеў жа! Адпусціце!

— Якія мы суседзі! — як адсек дзед.— Ты зусім на іншай планеце жывеш! І не пніся суседзіцца з людзьмі. Паехалі!

Кныш згорбіўся і, як пабіты сабака, паслухмяна пайшоў да чоўна.

А калі ўжо мы адплывалі, дзед Варава, ні да кога не звяртаючыся, ціха сказаў:

— А той спірт партызаны яшчэ ў сорак трэцім вылавілі. Для шпіталя. Трэба было ў старэйшых распытацца, перад тым як у ваду лезці.

## РАЗДЗЕЛ

### апошні, заключны

Так і закончыліся прыгоды Рабінзона Кукурузы на бязлюдным востраве каля вёскі Васюкоўкі.

Наступны пасля той ночы дзень быў спаўна насычаны выключнымі падзеямі.

З раніцы прыехаў прафесар Дудка, кіраў-

нік кіеўскіх юннатаў, а разам з прафесарам карэспандэнт піянерскай газеты.

Прафесарам Дудкай аказалася маладая прогожая жанчына ў моднай сукенцы з кароткімі рукавамі і модных басаножках.

Прафесар Дудка паглядзела на глабулус і сказала, што гэта «цудоўны штамб хларэлы» (менавіта так яна і сказала), што яна абавязкова скажа пра яго ў дакладзе ў сваім інстытуце, што гэта вялікі поспех, і горача пацiснула руку спачатку Фарадзеевічу, а потым усім юннатам.

Фарадзеевіч ажно свяціўся ад радасці (дарэчы, у гэты дзень выпісалася з бальніцы яго жонка). Юннаты таксама свяціліся (карэспандэнт абяцаў напісаць пра іх у газеце). Потым Фарадзеевіч пры ўсіх абняў нас з Явам, пацалаваў і сказаў:

— Калі б не вы — усё б загінула. Дзякую, сябры мае, дзякую!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

А неўзабаве ў клубе адбыўся таварыскі суд. На сцэне стаяў засланы чырвонай тканінай стол, за якім сядзелі старшыня калгаса Іван Іванавіч Шапка, члены праўлення, Явава мама-дэпутат, дзед Варава, дзед Салівон і Галіна Сідараўна.

Збоку на лаве падсудных разам сядзелі на-

супленыя Кныш з Кнышыхаю і трохі ў баку ад іх ашаломлены Бурміла.

Мы выступалі як галоўныя сведкі абвінавачання. І ўся зала дружна смяялася, калі Ява расказваў, як ён утапіў човен...

Палова вёскі выступіла на гэтым таварыскім судзе. І ўсе гаварылі пра тое, што той, хто дбае толькі пра ўласную скуру і сваю кішэню, не варты добрага слова (гэта сказала Галіна Сідараўна).

...Што ён «унутраны дыверсант» (гэта сказаў дзед Салівон).

...І калі ён можа прадаць за капейку сваё сумленне, гандлюючы ім на рынку, то за добрую цану ён і бацькаўшчыну не пашкадуе (гэта сказаў камсамолец Рыгор Кучарэнка).

...Але нічога, цяпер яны будуць ведаць, што думае пра іх уся вёска (гэта сказаў Іван Іванавіч Шапка).

Шумны быў сход.

А пасля сходу да нас падышоў Грышка Бардадзім і сказаў:

— Малайцы, хлопцы.

І ляпнуў сваімі граблямі па патыліцы спачатку мяне, потым Яву.

І вось ужо за плячамі лета, бесклапотныя канікулы. Зноў парта, зноў у кожную сорак пятую хвіліну званок, зноў: «Хто не выканаў дамашняе заданне, падніміце руку!», «Ідзі да

дошкі!». Будзённае жыццё колішняга пятага, цяпер шостага «Б».

Я сяджу на сваім звычайным месцы каля акна, гляджу, як гойсае па падворку наш Сабакевіч, і думаю...

Я думаю пра Кнышоў — кажуць, яны прадаюць сваю новую хату і едуць некуды на Харкаўшчыну. Напэўна, загаварыла ў іх сумленне пасля суда. Можа, там, на Харкаўшчыне, і людзьмі стануць.

Вунь Бурміла нават пiць перастаў і браканьерскае прычындалле паламаў і павыкідваў.

І яшчэ я думаю (не ў першы раз): «Чаму ўсё ж Кукуруза высадзіўся на той востраў, што знаходзіцца каля Высокага? Выпадкова? Збег абставін? Ці, можа, спецыяльна?»

Я ўжо задаваў яму гэтыя пытанні.

Маўчыць. Толькі ўсміхаецца...

Раптам думкі мае перапыняе голас Галіны Сідараўны:

— Рэнь, да дошкі.

І я адчуваю, як мой правы локаць падскоквае ўгару — гэта ўстае, падымаючы века парты, мой сусед. Мой сусед і сябар Ява (колішні Кукуруза). А як жа, ён напісаў дыктант і таксама перайшоў у шосты клас.

Цэлы жнівень мы рыхтаваліся ўдвух. Не скажу, што гэта было цікава, цікавей, напрык-

лад, чым гуляць у футбол, у цуркі-палкі ці лавіць рыбу... Але хто сказаў, што для сяброў трэба рабіць толькі тое, што цікава?

На дыктант я пайшоў таксама разам з Явам. Галіна Сідараўна адразу зразумела, чаму я прыйшоў, і сказала:

— Сядай і пішы, гэта табе таксама карысна.

І вы ведаеце, я напісаў горш за Яву. Ён зрабіў толькі дзве памылкі, а я тры. Недарэмна ён, чарцяка, браў з сабою «Граматыку» на бязлюдны востраў.

І вось цяпер стаіць ён каля дошкі і ўпэўнена піша сказы. І ні разу не памыліўся. Дарэчы, я ведаю, што ў кнізе «Рабінзон Круза» ў яго ляжыць паперка з адным адрасам. Наўрад ці хто-небудзь стаў бы зберагаць адрас проста так, не думаючы яго выкарыстаць.

Адным словам, граматыка майму сябру, як кажуць, яшчэ і асабіста патрэбна. Выдатніцы непісьменны ліст не напішаш. Лепей адразу ў палонку галавой.

— Малайчына, Рэнь, сядай! — кажа Галіна Сідараўна.

І мой сябар, разамлелы ад гордасці, павольна ідзе на месца. Сеўшы за парту, Ява некалькі хвілін маўчыць — пакуль не ўціхнуць пачуцці, выкліканыя пахвалой настаўніцы. Потым схіляецца да мяне і шэпча:

— Дык што, выпрабуем?

— Давай,— кажу я.

Мы нахіляемся і засоўваем галовы пад парту. Ява вымае з-за пазухі плоскую бляшанку з-пад цукерак, з якой тырчаць розныя вінцікі, шпунцікі і дроцікі. Гэта вынайдзенае намі механічнае прыстасаванне для расшпільвання гузікаў. Афіцыйнай назвы ў яго яшчэ няма, таму называем яго проста — «штукакенцыя» (не «штука», не «штукенцыя», а менавіта «штукакенцыя», бо кожнае вынаходства абавязкова павінна мець сваю назву). Дзеянне «штукакенцыі» даволі простае: прыкладваеш да гузіка, націскаеш на кнопку — і гатова. Толькі спачатку трэба, вядома, завесці спружыну. І вось Ява бярэ і пачынае заводзіць. Вядома, гэта не на транзістарах, але...

— Крракк!..— раптам звонка на ўвесь клас клацае спружына і, выскачыўшы з каробкі, б'е знізу Сцёпу Карафольку, які сядзіць перад намі. Карафолька ўскрыквае.

— У, расцяпа! — сіплю я на Яву.

Але позна. Як гром з неба, раздаецца над намі гнеўны голас Галіны Сідараўны:

— Заўгародны і Рэнь, што ў вас такое?..

Чырвоныя, як мак, вылазім мы з-пад парты.

Навучальны год пачаўся...

*Нестайко Всеволод Зиновьевич*

ТОРЕАДОРЫ ИЗ ВАСЮКОВКИ

**Повесть о приключениях двух друзей**

Для детей младшего школьного возраста

Минск, издательство «Юнацтва»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *У. Г. Машкоў*
Рэдактар *А. П. Чаркасаў*
Малодшы рэдактар *Н. В. Філіповіч*
Мастацкі рэдактар *Ул. М. Жук*
Тэхнічны рэдактар *Г. Ф. Дуброўская*
Карэктар *А. К. Юшына*

ІБ № 682

Здадзена ў набор 13.05.85. Падп. да друку 31.11.85. Фармат 70×108¹/₃₂. Папера друк № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 11,20. Ум. фарб.-адб. 11,20. Ул.-выд. арк. 8,04. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1437. Цана 45 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.